

# Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

4 ЧЭРВЕНЯ 1999г. № 21-22/4001-4002 КОШТ 15000 РУБ.







# 1799 — 1999

*І доўга буду я затое люб народу,*
*Што ў сэрцах добрае я лірай абуджаў,*
*Што ў жудасны мой век*
*уславіў я свабоду*
*І літасць к занядбаным зваў.*

*Нябёсаў голасу, о муза,*
*будзь паслушна,*
*Не бойся крыўд, вянца не вымагай,*
*Паклёпы і хвалу выслухвай непарушна*
*І спрэчкі з блазнам не прымай.*

Пераклад М. ЛУЖАНІНА



# КОЛА ДЗЁН

***Тыдзень прайшоў пад знакам трагеды, што адбылася ў Мінску 30 мая, падчас якой загінула больш за 50 чалавек і дзесяткі атрымалі цяжкія траўмы і пакалечыліся. І ўсе іншыя падзеі адышлі далёка на другі план перад гэтай бядой, бо гэта бяда не толькі сем'яў загінуўшых, а і ўсёй Беларусі...***

### ЗВЕСТКІ ТЫДНЯ

У друку з'явіліся папярэднія звесткі перапісу насельніцтва Беларусі, згодна з якімі ў нашай краіне пражывае 10 037 213 чалавек. У параўнанні з перапісам 1989 года агульная колькасць насельніцтва скарацілася на 114 587 чалавек, у тым ліку мужчынскага — на 28 199, жаночага — на 86 388 чалавек. За 10 гадоў, што прайшлі паміж перапісамі, на 314 551 чалавек павялічылася колькасць гарадскіх і на 429 138 чалавек скарацілася колькасць сельскіх жыхароў. Больш падрабязныя вынікі перапісу ў выглядзе табліц будуць атрыманы не раней чым у лістападзе. Дэталёвая распрацоўка матэрыялаў перапісу будзе гатова не раней за сярэдзіну 2000 года.

### АДМЕНА ТЫДНЯ

У Мінску ў скверы на вуліцы Камуністычнай у дзень нараджэння Аляксандра Пушкіна планавалася адкрыццё помніка вялікаму паэту. Аднак у сувязі з трагедыяй, якая адбылася 30 мая, святкаванне будзе перанесена на больш позні тэрмін. Цяпер ідуць апошнія падрыхтоўчыя работы да свята. Помнік паэту зроблены ў Маскве і яго прывязе ў Мінск спецыяльная дэлегацыя на чале з мэрам расійскай сталіцы Юрыем Лужковым.

### АДМОВА ТЫДНЯ

Міжнародны валютны фонд не лічыць магчымым выдзеліць Беларусі крэдыт у межах праграмы надзвычайнага кампенсацыйнага фінансавання. Такую заяву для прэсы зрабіў дырэктар Другога еўрапейскага ўпраўлення МВФ спадар Джон Одлінг-Змі.

### ПРАЕКТ ТЫДНЯ

У хуткім часе ў Мінску ля Камсамольскага возера пачнецца будаўніцтва новай сучаснай тэлевежы, якая абыдзецца для нашай краіны прыкладна ў 108 мільёнаў долараў. Згодна з праектам, мінская тэлевежа будзе вышынёю 410 метраў (Астанкінская вежа ў Маскве дасягае 500 метраў) і ўвойдзе ў дзесятку буйнейшых у свеце. Тэлевежа дазволіць мець значна большую колькасць тэлеканалаў, чым зараз, палепшыць якасць прыёму. У самім будынку размесціцца рэстаран, пляцоўка для наведвальнікаў і іншае. Словам, будзе і ў нас на што паглядзець і што людзям паказаць.

### ПАВЕДАМЛЕННЕ ТЫДНЯ

Пасольства ЗША з 1 чэрвеня ўвяло для грамадзян Беларусі новую працэдуру звароту за візамі. Консульскі аддзел пасольства праводзіць прыём грамадзян ад 16 гадоў і старэй, якія звяртаюцца за неіміграцыйнай выязной візай ЗША, па папярэдняй дамоўленасці. Выдача талонаў з указаннем даты і часу прыёму пачаўся з 24 мая. Любыя выключэнні ў новай працэдуры будуць рабіцца толькі на індывідуальнай аснове і ў выпадку наяўнасці доказаў тэрміновасці. Праўда, паездкі ў ЗША для большасці грамадзян нашай краіны, як гаворыцца, не пагражаюць...

### ЧУТКА ТЫДНЯ

Ужо больш за пяць гадоў у краіне існуе імянны прыватызацыйны чэк "Маёмасць". 425 мільёнаў гэтых чэкаў атрымалі каля пяці мільёнаў чалавек. Аднак 242 мільёны чэкаў на сённяшні дзень ляжаць мёртвым грузам. Да тэрміну афіцыйнага завяршэння абарачэння чэкаў 1 ліпеня 1999 года застаецца менш як месяц. Няўжо чэкі прападуць? Хутчэй за ўсё не, бо ходзяць чуткі, што тэрмін абарачэння чэкаў "Маёмасць" будзе прадоўжаны яшчэ мінімум да 1 ліпеня 2002 года. Праўда гэта ці толькі чуткі — стане вядома да канца чэрвеня.

### ЗАКЛІК ТЫДНЯ

Нягледзячы на тое, што кошт цыгарэт амаль з кожным месяцам павялічваецца, не змяншаецца колькасць курыльшчыкаў, якія не звяртаюць увагі, што на цыгарэтных пачках напісана: "Минздрав предупреждает! Курение опасно для вашего здоровья". Каб хоць на дзень адарваць ад дрэннай звычкі курыльшчыкаў Міністэрства аховы здароўя Беларусі правяло мерапрыемства ў межах традыцыйнага Дня без тытуню, які штогод 31 мая праводзіць Сусветная арганізацыя аховы здароўя. Сёлета ён прайшоў пад дэвізам "Забудзь пра пачак". Аднак, як сведчаць мінулыя гады, на гэты заклік адклікаюцца нямногія...

### НАШЭСЦЕ ТЫДНЯ

Здавалася ўжо мінуў добры адрэзак часу з дня, калі ў нашай краіне пачалася барацьба з нашэсцем мошак, і час было б ужо іх перамагчы, але па словах намесніка начальніка Галоўнага ўпраўлення ветэрынарыі Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання М. Савіцкага мошкі зададуць працы і клопату вясковым яшчэ на працягу чэрвеня. Усяго ж з моманту першага з'яўлення мошак сёлета ў грамадскім і прыватным сектары пагінула 418 галоў жывёлы, 1810 было вымушана забіта, больш як 19 тысяч захварэла.

1799-1999

# Галоўная галіна славянскага дрэва

Па традыцыі ў нашай краіне прайшлі Дні славянскага пісьменства і культуры, якія сёлета адметныя тым, што прысвечаны 200-годдзю з дня нараджэння найвыдатнейшага рускага паэта, аднолькава блізкага і дарагога ўсім славянам — Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна. А тое, што святочныя ўрачыстасці "выбралі" эпіцэнтр у старажытным Навагрудку, тым больш знамянальна. Гэтая зямля памятае яшчэ аднаго славянскага генія — Адама Міцкевіча, 200-годдзе з дня нараджэння якога ўрачыста адзначалася летась. Пушкін і Міцкевіч — дзве галіны аднаго славянскага дрэва, на якім ёсць месца і знакамітым беларускім песнярам Янку Купалу, Якубу Коласу.

Менавіта ў Навагрудку — старажытнай сталіцы беларускай дзяржавы, Дні славянскага пісьменства і культуры далі штуршок Пушкінскаму тыдню. На ўрачыстасцях выступілі прадстаўнікі грамадскасці і культуры Беларусі, сярод якіх намеснік міністра культуры Рэспублікі Беларусь В. Гедройц і намеснік старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў В. Іпатава, якая зазначыла, што Навагрудак — сталіца геніяў. Менавіта ў старажытным Навагрудку хрысціўся Міндоўг у праваслаўе, тут атрымаў ён карону. Вялікая навагрудская зямля нарадзіла нямала вялікіх талентаў.

Да юбілею ў мясцовым музеі А. Міцкевіча афармлена экспазіцыя, якая расказвае пра дружбу двух славянскіх волатаў — А. Міцкевіча і А. Пушкіна. Сярод экспанатаў і карта, на якой пазначаны маршрут, якім ехаў Аляксандр Сяргеевіч, калі кіраваўся праз Беларусь у ссылку. Цікаўнасць у наведвальнікаў выклікае і малюнак А. Пушкіна — паэт занатаваў воблік свайго сябра Адама Міцкевіча.

Пачынаючы з 23 мая ў краіне праходзіць Тыдзень пушкінскай кнігі. Да яго выдавецтвы Беларусі выпусцілі дзесяць юбілейных кніг, сярод іх "Выбранае" А. Пушкіна, а таксама падарункавае выданне "Яўгенія Анегіна" паралельна ў арыгінале і ў перакладзе на беларускую мову, ажыццёўленым А. Куляшовым. Гэтая кніга будзе ўручана сёлетнім выпускнікам сярэдняй школы з віншавальным тэкстам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Лукашэнкі.

У рамках Тыдня адбыліся святочныя вечарыны, імпрэзы, кніжныя выстаўкі, навуковыя канферэнцыі. Галоўная з іх — "Пушкін. Беларуская культура. Сучаснасць" была наладжана 26—27 мая ў Доме дружбы ў Мінску. Ініцыятарамі яе правядзення выступілі Нацыянальная акадэмія навук Беларусі і Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф. Скарыны.

**Н. К.**

КАНЦЭРТЫ

# Музыканты "перачытваюць" Гётэ

У нязвыклы для канцэртнага жыцця дзённы час, ва ўтульнай творчай атмасферы праходзіла гэтая мастацкая імпрэза. Інстытут Гётэ ў Мінску, творчае аб'яднанне "Беларуская Капэла", Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі наладзілі яе ў гонар паэта, філосафа — Ёгана Вольфганга Гётэ. Сёлета спаўняецца 250 гадоў з дня нараджэння гэтага выдатнага дзеяча нямецкай культуры, творчасць якога належыць усяму чалавецтву. Вось і канцэртная праграма, што прагучала ў сталічным Доме дружбы, мела адпаведную назву: "Творчасць Ё. В. Гётэ ў сусветнай музычнай культуры".

Рамансы, песні, оперныя арыі на тэксты Гётэ выконваліся па-нямецку, па-руску, па-беларуску. Нібыта разам з кампазітарамі, стваральнікамі вакальных шэдэўраў, — Ф. Шубертам, Р. Шуманам, Ш. Гуно, Ж. Маснэ, Л. Бетховенам, Г. Вольфам, П. Чайкоўскім, С. Манюшкам, М. Глінкам — паэзію вечнага рамантыка (і класіка!) "перачытвалі" спевакі. Сярод іх — знаныя артысты і натхнёныя маладыя майстры Віктар Скорабагатаў, Уладзімір Пятроў, Леся Лют, Таццяна Пятрова, Янаш Нялепа, Таццяна Цыбульская...

Складаны, шматстайны вобразна-пачуццёвы і філасофскі свет (былі ў ім і Фаўст, і Вертэр, і пакорлівая Маргарыта, і ўсмешка Мефістофеля, і закаханая ружа-кветка, і легендарная каралеўская блыха) — увесь гэты свет музыкі быццам трымаўся на плячах, ці, дакладней, "у руках" нястомнага "чалавека-аркестра", канцэртмайстра праграмы Ганны Каржанеўскай. Гэтую імпрэзу можна было б назваць канцэртам вакальнай музыкі, калі б не яе фінал: малады піяніст Аляксей Пятроў сыграў віртуозную транскрыпцыю Ф. Ліста знанай балады Ф. Шуберта "Лясны цар".

Пры канцы сустрэчы мастацкі кіраўнік "Беларускай Капэлы" В. Скорабагатаў паведаміў, што наступным разам прыхільнікі творчасці Гётэ збяруцца ў Доме дружбы напярэдадні опернай прэм'еры. У Нацыянальным тэатры оперы рыхтуецца паказ "Фаўста" Антонія Радзівіла. Гэта будзе, па сутнасці, адкрыццё твора, лібрэта якога пераклаў на беларускую Васіль Сёмуха, а сцэнічна-канцэртную версію прапануюць аркестр Нацыянальнага Вялікага тэатра пад кіраўніцтвам дырыжора Льва Ляха, Акадэмічная капэла імя Р. Шырмы (мастацкі кіраўнік Людміла Яфімава), салісты. У якасці рэжысёра-пастаноўшчыка дэбютуе... маэстра Віктар Скорабагатаў.

**С. ВЕТКА**



*На здымку: лаўрэат Міжнароднага конкурсу Т. Цыбульская ў ансамблі з канцэртмайстрам, дыпламантам міжнародных конкурсаў Г. Каржанеўскай*

*Фота А. ПРУПАСА*

# Чалавек — надзея Бога

"Хрысціянства і нацыянальная ідэя" (1998) — так называецца выданне, падрыхтаванае выдавецкім аддзелам Св. Петра-Паўлаўскага сабора. Па гэтай невялікай аб'ёмам працы, з удзелам аўтара, кандыдата фізіка-матэматычных навук **Алеся Астапенкі**, адбыўся "круглы стол" у Саюзе беларускіх пісьменнікаў. Удзельнікі абмеркавалі асноўныя палажэнні даследавання, выказалі крытычныя заўвагі і сваё разуменне асобных момантаў.

Так, **У. Конан** лічыць вельмі важным, што аўтар удакладняе такія паняцці, як "нацыяналізм", "этнас", "нацыя". Сувязь нацыянальнага з хрысціянскім, на думку доктара навук, закладзена яшчэ ў дзейнасці апосталаў. Хрысціянства арганічна ўпісалася ў многія культуры. На жаль, тэма, даследаваная класікамі рускай філасофіі — М. Бярдзяевым, У. Салаўёвым, І. Ільіным, — на нашым грунце амаль не закраналася. Хаця для Расіі вышэйшай каштоўнасцю з'яўляецца хутчэй імперыя, чым нацыя.

**В. Арцішэўскі**, сустаршыня Беларускай рэспубліканскай партыі, згадаў трошкі падзабытае слова — інтэрнацыяналізм, які ўхваляўся камуністычнай ідэалогіяй як найвышэйшая каштоўнасць. Рабілася ўсё, каб у нас "нацыяналізм" блыталі з "нацызмам", што недапушчальна.

Што хрысціянства — сістэма поглядаў, якая злучае наднацыянальны пачатак (усе роўныя перад Богам) з нацыянальным, гаварыла **Л. Кулажанка**. Яна канстатавала той сумны факт, што беларуская інтэлігенцыя не прыйшла да разумення значнасці царквы ў жыцці народа.

Дырэктар Скарынаўскага цэнтра **Л. Канаплянік**, падзякаваўшы аўтару, выказаў асобныя заўвагі і падкрэсліла, што "нацыяналізм" не тоесны паняццю "нацыянальная ідэя". У гэтым сэнсе назва даследавання ўяўляецца не зусім дакладнай. Быць нацыяналістам у Беларусі (ва ўсе часы) — гэта значыць здзейсніць вялікі грамадзянскі і хрысціянскі подзвіг. Тым не менш, нацыяналізм — не толькі рамантычнае пачуццё любові да ўсяго роднага; у ім ёсць і элементы прагматычнага, рацыянальнага ўспрымання свету.

Паколькі ў брашуры прасочваецца сувязь нацыянальнага пачуцця з рознымі хрысціянскімі канфесіямі, то змест яе ўяўляецца больш шырокім і ёмкім, чымся абмеркаванне на "круглым стале". Гаварылі больш пра нацыянальнае, адносна ж разумення хрысціянства аднадушша не заўважалася. Закранаіся пытанні, якія тычацца моўнай практыкі праваслаўнай царквы. У прыватнасці, было выказана пажаданне, каб беларускамоўныя царкоўныя службы перадавалі па рэспубліканскім радыё. У крытычным плане ацанілі радыёперадачу "Узвышанае і зямное", ад якой патыхае шавінізмам ды манархізмам і якая па сутнасці дыскрэдытуе праваслаўную царкву Беларусі.

"Душа народа мусіць быць рэлігійнай, інакш яна сканае". Выказванне святара і паэта Казіміра Сваяка прывёў на паседжанні **Э. Дубянецкі**. Любоў — вось што, на яго думку, аб'ядноўвае паняцці, пра якія ідзе гаворка ў працы А. Астапенкі.

"Чалавек — надзея Бога", — сказаў **А. Яскевіч**, і гэтыя словы вартыя таго, каб стаць загалоўкам.

Першы намеснік старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў **В. Іпатава** як вядучая "круглага стала" выказала сваё меркаванне адносна праблемы.

**Г. К.**

# Яны ж яшчэ не жылі...

НАТАТКІ ВІДАВОЧЦЫ ТРАГЕДЫІ

Мы літаральна кожны дзень чуем пра выпадкі масавых трагічных смерцяў па ўсім свеце, і ўжо неяк прызвычаіліся ўспрымаць падобную інфармацыю без адэкватных эмоцый. Ставіліся абыякава, паколькі тое — далёка, не з намі. Верагодна, менавіта такім чынам аддаюцца па-за межамі краіны нядзельныя жахлівыя падзеі ва ўваходзе ў сталічную станцыю метро "Няміга" з боку Палаца спорту.

Толькі для беларускага насельніцтва, натуральна, весткі пра гэта прагучалі з надзвычайнай праніклівасцю і блізкасцю. Да міжвольнай асабістай прыналежнасці да трагедыі, уяўленняў, што і ты мог апынуцца ў той цісканіне. Да супачуццёвай — у дзесяцімільённы унісон — рэакцыі. Да шоку і нацыянальнай жалобы. Таму наступным днём на месцы здарэння было столькі ж народу, колькі напярэдадні. Калі праходзілі па смяротных прыступках, дзе трыццатага траўня недарэчна і жудасна "веяліся душы ад целаў", увагнанае ў той момант у памяць падаецца амаль сном...



...Парыла. Аднак неба ўсё працягвала заставацца чысцюткім, а вядучыя вясёлай акцыі час ад часу гаварылі пра файныя настрой і надвор'е. Маўляў, абміне, дасць Бог, чаканая сёлета першая навальніца. Але метэаролагі, на жаль, не памыліліся, і яна абрынулася. Прыкладна а восьмай гадзіне імкліва і злосна згусціліся хмары, закружляла відавочна пераднавальнічная віхура. Нягледзячы на гэта, значная большасць людзей зусім не памкнулася хавацца ці сыходзіць, а засталася скакаць перад сцэнай і стаяць у доўгіх і беспарадкавых чэргах па дармавое піва. Ажно да самае пары, як лупянуў у суправаджэнні грымот і чарады маланак дождж, які ў некалькі секундператварыўся напалову ў град. Стала проста сцюдзёна. Ад градзін з добрую гарошыну было балюча і засціла вочы. Не вытрымлівалі, згіналіся і ламаліся парасоны. Некалькі тысяч чалавек ірвануліся ў бліжэйшае сховішча — пераход метро. Я стаяў і дрыжэў у прыліплых да цела, неўпрыкмет набрынялых вільгаццю, нагавіцах і кашулі, ледзьве трымаючы ў руках над сабой і дзяўчынай парасон, які, здавалася, вось-вось вырвецца і пакоціцца ў Свіслач. З'явіўся нейкі злосны імпэт перачакаць тут, не сыходзячы з гэтага месца, выстаяць пад дажджом і градам. У падземцы гэта ўжо быў натоўп, як ён ёсць, — зацяты ў агульнай разняволенасці і паніцы, напаўп'яны і неўтаймаваны. Выключна інстынктыўны. Прычым, і тым, каму нават удавалася пазбавіцца стану псіхозу, пакінуць натоўп было складана. У замкнёнай прасторы ўтварылася цісканіна, а потым куламеса з сотняў чалавек. Ад яе патыхала нейкім канцэнтравана душным і цёплым паветрам. Хаатычнае, але паслядоўнае прасоўванне ўніз па пераходзе новымі слаямі нагрувашчвала і нагрувашчвала звалку. Людзі задыхаліся, падалі, затоптваліся. Ад неверагоднай шчыльнасці натоўпу ніхто нічога не разумеў і не бачыў, нават калі гэта адбывалася ў метры ад цябе, пакуль не пачалі выносіць ахвяр, проста дзесяткамі. Яны, пераважна маладзенькія дзяўчыны, ляжалі на мокрай траве і асфальце, а то і ў лужынах, акрываўленыя, беспрытомныя, пачарнелыя ад удушша. А збялелыя з твару, што засталіся ў жывых, стараліся адкачваць ужо нават мёртвых. Пасярод істэрык і лаянкі, пошукавых гуканняў знаёмых і ўзбуджаных дыялогаў не чуваць было, як сігналілі пад'язджаючыя машыны "Хуткай дапамогі", далейшыя маршруты якіх былі не толькі ў клінікі.

І я сутаргава паліў і, глытаючы горкія камякі, з вялікімі вачыма замаўляў невядома каму: не ўбачыць бы сястры, знаёмых, каб апрытомнела вунь тая дзяўчына! І вунь тая, і вунь тая... Паўночы потым не засыналася: мы выходзім з дому і, дайшоўшы да павароту, вяртаемся па забыты парасон; мы, калі ўсё ж пазней пайшлі ў метро, засмактаныя натоўпам, убачыўшы першую ахвяру, паварочваем назад і ледзьве выбіраемся...

Збег абставінаў, катаклізм, насланнё — іншых вытлумачэнняў трагедыі не знаходзіцца. Тым не менш, мы чамусьці не перастаём узгадваць аналагічныя ў гісторыі выпадкі і паўтараць: "За што?" Значыць, усё не зусім выпадкова, хаця ўсялякія спробы абгрунтаваць гэта абавязкова стануць па сутнасным змесце гіпатэтычна-містычнымі і адсунутымі на мінулы час ідэальна папераджальнымі, з ужываннем умоўнага ладу.

Усё ж гаварыць пра недастатковы ўзровень культуры правядзення святочных мерапрыемстваў і паводзін іх удзельнікаў трэба. Праваахоўныя органы проста абавязаны займацца прадугледжваннем, калі не ўсіх, то як мага большай колькасці магчымых варыянтаў негатыўнага развіцця сітуацыі. Дагэтуль улады забяспечвалі нагляд з боку міліцыі за разнастайнымі масавымі акцыямі паводле дзіўных падыходаў. А менавіта ж падчас народных гулянняў, дзе любяць празмерна выпіць і разняволіцца, неабходна задзейнічаць як мага большыя і прафесійныя сілы. Бо талакой, і пры гэтым больш-менш цывілізавана, у нас гуляць не ўмеюць. Пасля футбольных матчаў і ўсемажлівых салютаў цэнтр Мінска, у тым ліку метро, ператвараецца ў месцы статкава-эйфарыйных маршаў.

Прэзідэнт паабяцаў навесці ў гэтым плане больш жорсткі парадак. Дарэчы, наогул падтрымка — і маральная, і матэрыяльная — сем'яў загінуўшых і пацярпелых спраўленая дзяржавай як мае быць. Разам з тым некаторыя рэчы збянтэжылі. Як, напрыклад, тое, што першыя афіцыйныя паведамленні аб трагедыі з'явіліся толькі ў панядзелак раніцай.

**Кірыла ПАЗНЯК**

## *Пераход смерці*

***Узыходжу...***
***з Нямігі чорнага дна.***
***Жалобай дыхае пераход.***
***Крыжам распяты плыве***
***небны звод.***
***Душыцца смяглаю плачкай вясна.***

***Прыступкі перабіраюць***
***самлелыя ногі.***
***Узыходжанне ці бывае цяжэй?***
***Мармур нямотны сцяўся вужэй,***
***Вочы жахоты, крокі знямогі.***

***Жыццё растаптанае***
***на ўсходках халодных —***
***Юнай дзяўчынкі постаць***
***святая.***

***Крык яе вусцішны нарастае,***
***Апалены свечкамі блізкіх***
***і родных.***

***Што сталася, Няміга, з намі?***
***Морак хістаючы ўдушнай тугі,***
***Зноў закрывянілі берагі***
***Твае***
***Пад святымі званамі.***

***Як мы жылі? Чым саграшылі?***
***Рушачы злітна***
***народнымі масамі,***
***Натоўпу раз'ятранага абцасамі***
***Будучыню прыдушылі...***

**Мікола МЯТЛІЦКІ**

*31.V.99.*

АБСЯГІ

*ГОМЕЛЬ...*

## "Па святочных шляхах Беларусі"

Так называецца кніжка Міколы Макарцова, вядомага рэжысёра-пастаноўшчыка народных свят і відовішчаў. Яна выйшла ў Мінску пры садзейнічанні і падтрымцы Міністэрства культуры і Беларускага фонду імя Льва Сапегі. Актыўную творчую дзейнасць Макарцоў пачаў у Гомелі, дзе стварыў вядомы фальклорны тэатр "Жалейка". Другі этап творчасці звязаны з Мінскам. Ад Міністэрства культуры, Беларускага фонду культуры, Рэспубліканскай дырэкцыі нацыянальных мастацкіх праграм, творчай майстэрні "Эстрада" Макарцоў у якасці галоўнага рэжысёра і рэжысёра-пастаноўшчыка ўвасобіў шэраг рэспубліканскіх свят і фестываляў. Напрыклад, Купалле ў Тураве, Гуканне вясны ў Жыткавічах, "На крылах палескага фальклору" ў Лельчыцах; святы, прысвечаныя 500-годдзю Мірскага замка, 200-годдзю Адама Міцкевіча ў Навагрудку...

У сваіх нататках Макарцоў засяроджвае ўвагу на розных аспектах рэжысуры пры ўвасабленні тэатралізаваных святочных відовішчаў, расказвае пра вопыт работы.

## Гуманны сюррэалізм

Нялёгкі жыццёвы шлях у жывапісца Яна Кузміцкага, які нарадзіўся ў 1934 годзе на Гродзеншчыне. У 50-ых гадах лёс закінуў яго ў краіны Еўропы — Польшчу, Аўстрыю, Ізраіль, Швецыю. Тут раскрыўся яго мастацкі талент. Як майстар-сюррэаліст Ян Кузміцкі ў сваіх работах адлюстроўвае жыццё, надае сваім вобразам сапраўдны гуманізм. Яго творы неаднаразова экспанаваліся ў рэспубліцы, знаходзяцца ў музеях Мінска, Брэста, Гродна і Віцебска. Зараз з палотнамі Кузміцкага знаёмяцца гамяльчане. Выстава адкрыта ў крацiннай галерэі абласной арганізацыі Саюза мастакоў.

## "Праметэй" — у Расіі

На працягу дзесяткаў гадоў пад Гомелем размяшчаўся аэрадром стратэгічнай авіяцыі. З распадам Савецкага Саюза гэта часць была выведзена ў Пскоўскую і Наўгародскую вобласці Расіі. Але засталіся цеснымі сувязі паміж авіятарамі і гамяльчанамі, у тым ліку і дзіцячым фальклорным калектывам дабрачыннага цэнтра "Праметэй", які створаны пры таварыстве Чырвонага Крыжа Цэнтральнага раёна Гомеля. Днямі юныя артысты па запрашэнні расійскіх авіятараў наведалі Пскоў і Ноўгарад, выступілі з канцэртам перад сваімі сябрамі, пабывалі ў Міхайлаўскім і на магіле Пушкіна.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

*ГРОДНА...*

## Вучні Мазурава

25-годдзе адзначыла днямі мастацкая студыя Палаца культуры вытворчага аб'яднання "Азот", якой на працягу амаль што ўсяго гэтага часу кіруе мастак Гары Мазураў. Больш за паўсотні яго выхаванцаў атрымалі прафесійную адукацыю ў мастацкіх вучэльнях і Акадэміі мастацтваў Беларусі. Сярод іх гродзенскія мастакі У. Качан, П. Янушкевіч, С. Стома, Г. Стэльмах і іншыя. У студыі вучацца і студэнты Гродзенскага універсітэта, дзе Гары Канстанцінавіч таксама працуе выкладчыкам. Да юбілею студыі ў Палацы культуры хімікаў адкрыта выстава твораў былых і сённяшніх выхаванцаў Мазурава. Сам жа мастак узнагароджаны граматай аддзела культуры Гродзенскага гарвыканкама.

**Лілія НАВІЦКАЯ**

*ВІЦЕБСК...*

## Мода заўжды наперадзе

Днямі ў горадзе завяршыўся рэспубліканскі фестываль мадэльераў-дызайнераў і агенцтваў топ-мадэляў "Белая амфара". Па аднадушным меркаванні журы гран-пры атрымала калекцыя "Эга" Алены Букі і Таццяны Юрчанкі (Мінск). Мадэлі выкананы з айчынных матэрыялаў белага колеру. Першыя месцы прысуджаны Н. Макеевай з Брэста (намінацыя "трыкатажная сюіта"), В. Самошчанцы за вячэрнія строі (Мінск), А. Шыловіч з Гомеля (намінацыя "Гарадскі раманс"). Лепшай калекцыяй абутку прызнана калекцыя "Народжаныя ў дарозе" Р. Манейчыка з Мінска. Сем агенцтваў мадэляў аспрэчвалі на подыуме званне лепшага. Статуэтка "Белай амфары" і гран-пры былі ўручаны магілёўскаму агенцтву "Мадэль-люкс".

**Святлана ГУК**

*БРЭСТ...*

## Шануюць гістарычную спадчыну

Завяршыўся агляд-конкурс сярод гарадоў і раёнаў Брэстчыны ў ахове гістарычных помнікаў. За год адроджана, адноўлена і ўпарадкавана каля 650 аб'ектаў. Найбольш іх у Брэсце: працягваецца адраджэнне гістарычнай забудовы, створаны музей гісторыі горада, вядзецца рэканструкцыя паўночных казармаў крэпасці пад музей сучаснага мастацтва... У Баранавіцкім раёне адроджана сядзіба А. Міцкевіча, дзе працуе музей вялікага паэта. Музей Я. Янішчыц створаны ў Парэцкай сярэдняй школе, у якой вучылася паэтка. Закончылася рэканструкцыя старажытнага палаца ў Пружанах, у якім размесціцца раённы краязнаўчы музей. Значныя вынікі ў захаванні помнікаў гісторыі і культуры ў Пінску, Пінскім, Івацэвіцкім і іншых раёнах. Аблвыканкам прызнаў пераможцамі агляду-конкурсу горад Брэст і Пружанскі раён. Яны атрымалі прызавыя фінансавыя сродкі для далейшага зберажэння гістарычнай спадчыны.

## "Творца архітэктурнага пейзажу"

Гэтак называецца манаграфія краязнаўцы Віталя Клімчука пра Напалеона Орду, чый грамадскі фонд некалькі гадоў таму ўтварыў і ўзначаліў аўтар. Манагарфія, што выйшла асобнай кніжкаю, напісана грунтоўна і з вялікай павагаю да слыннага земляка. Асоба Н. Орды раскрываецца шматгранна — як грамадскага дзеяча і ўдзельніка паўстання 1930—31гг., педагога і кампазітара, публіцыста і музыканта, а найперш — як выдатнага мастака-графіка, які ў сваіх літаграфіях адлюстраваў цэлую эпоху ў жыцці беларускага, польскага, літоўскага і іншых народаў. Багата ў кніжцы рэпрадукцый з малюнкаў Н. Орды. Выданне фінансавана Іванаўскім райвыканкамам, чыімі намаганнямі таксама адноўлена сядзіба мастака ў в. Варацэвічы, створаны музей, пастаўлены помнік у раённым цэнтры.

**Сымон АКСЕНІН**

ВЫСТАВЫ

# Мелодыя жаночага сусвету

Лірыка — сапраўдны прытулак зроку, стомленаму найноўшымі тэхналагічнымі шчыраваннямі ў мастацтве. Менавіта лірыка найбольш адпавядае вобразам успамінаў і асацыяцый — сусвету сапраўднай творчай асобы. Тут гаспадарыць рознакаляровы свет дзяцінства, поўны матчынай ласкі, веры ў цуд і, вядома ж, няўхільнага болю расчараванняў. Лірыка, менавіта ў такім радаснашчырым разуменні, складае творчае крэда трох маладых мастачак, трох сяброваак яшчэ з часу навучання ў мастацкай вучэльні Алены Нядзелькі, Любы Сідзельнікавай і Вольгі Крупянковай. "Тры сусветы", так яны назвалі выставу сваіх твораў, што адбылася ў Музеі сучаснага мастацтва. Дзяўчыны нават свае работы павесілі ўперамежку. І хоць яны яўна розняцца тэматыкай, вобразным строем, мастакоўскай мовай, уяўленнем і выказваннем свайго ўнутранага "я", але ёсць нешта агульнае ў экспазіцыі — душэўнасць і дабрыня.

Алена Нядзелька і Вольга Крупянкова па адукацыі графікі, Любоў Сідзельнікава — тэатральны жывапісец. Усе яны скончылі Беларускую акадэмію мастацтваў, усе актыўна працуюць, выстаўляюцца на Беларусі і за мяжою. Вольга Крупянкова Камітэтам Дэпартамента мастацтва універсітэта Марыленд (ЗША) адабрана прадстаўніцай сваёй краіны для ўдзелу ў "Глабальным жаночым праекце", экспазіцыя якога адбудзецца ў жніўні 2000 г. у Нью-Йорку. Любоў Сідзельнікава ў 1998 г. стала лаўрэатам рэспубліканскага фестывалю творчай моладзі тэатраў драмы і лялек. Мастачка таксама актыўна займаецца і жывапісам і друкаванай графікай і ў гэтым бачыць сваю будучыню.

У Музеі сучаснага мастацтва гэта не першая выстава маладых творцаў. Тут паказвалі свае творы К. Селіханаў, Т. Радзівілка, Р. Кароткін, У. Хацкевіч, іншыя — як прадстаўнікі рэалістычнага накірунку ў мастацтве, так і сапраўдныя авангардысты. І, магчыма, у бліжэйшым часе музей стане папулярнай пляцоўкай для творчых эксперыментаў маладых і адзіным крытэрыем адбору застанецца толькі іх прафесійнасць у мастацтве.

# Крэва—Гальшаны—Валожын

## ВАНДРОЎНЫЯ НАТАТКІ ТУТЭЙШАГА

НА ДАЛАНІ старэйшага сына — кавалак цагліны, падабраны пад сценамі Крэўскага замка. Кавалку гэтаму столькі стагоддзяў, што, відаць, надакучыла яму быць абыякавым сведкам падзей, здзяйсненняў і крахаў людскіх. І ўпарта выпраменьвае ён зараз нейкую энергію, хоча пераканаць у чымсьці, распавесці, растлумачыць і запэўніць... Малодшы сын весела пазірае на мяне: вось, маўляў, тата, і сувенір. Моўчкі адбіраю точаны вякамі камень, хаваю ў кішэню курткі. Ніякіх сувеніраў: мы што — абібокі, мы што — такія, як усе?! Кавалак Крэва супакойваецца, яму ўтульна побач з пачкам гродзенскага "Беламора". А ўпартыя сыны незадаволена шыбуюць праз расяны мурог да рэшткаў замкавай вежы, якая памятае і Вітаўта, і Ягайлу, і славу Беларусі, і ганьбу яе...

Крэўскі замак. Узведзены пасля 1338-га. Складзены з каменю, абмураваны цэглай. Баявая галерэя з байніцамі ўсяляла калісьці ўпэўненасць жыхарам. Вежа Кейстута прызначалася для жылля князя і чэлядзі, мела чатыры паверхі. Склеп-турма — справа для замка натуральная. Жылыя пакоі аздабляліся фрэскавымі размалёўкамі. Вокны і байніцы былі стрэльчатымі. Зберagліся толькі руіны замка. Помнік рэспубліканскага значэння — для чыноўніка. Сусветнага — для звычайнай тутэйшай душы.

Крэва. Кроў. Крывіч... Пераканаўчая выразнасць слоў, якой частуешся як добра вытрыманым віном. Сэнс пачынаеш разумець раптоўна. Гэтаксама, як раптоўна і нечакана з-за вясковых хат, прыпынку і колішняй сінагогі насоўваюцца на экскурсійны аўтобус сцены замка, хоць і зруйнаваныя, але па-ранейшаму магутныя і значныя... Сэнс слоў пачынаеш разумець раптоўна. Кроў — з-за крывадушнасці. Крэўная повязь — з-за непрыняцця крыві і насілля, здзеку і рабавання радзімы.

— У дзівосным месцы жывяце, бабуля, — спрабую запрасіць да размовы мясцовую састарэлую кабету, што пасвіць пад крэўскімі мурамі казу.

— Ды ў самым звычайным, — бурчыць бабулька, адмахваецца пахмурна і дадае штосьці пра навязлівых экскурсантаў, якіх як пудзілаў гарохавых на летнім агародзе. Разыходзімся, як той казаў, кожны пры сваім інтарэсе. І ўсё ж разумею жанчыну добра. Гарадская экскурсійная нахаба на яе галаву ледзь не штодня. І чорт іх бацьку ведае, чаго шукаюць? Усё-ўсенечкае вакол толькі ж яе — бабулінае. І могілкі мясцовыя, дзе столькі сваякоў пахавана. І крэўскія замкавыя сцены, ля якіх дзяцінства сышло, юнацтва згубілася ды старасць напаткала. І касцёл, і царква, і сінагога — трохкутнік веры, над якім адзіны, толькі бабульчын, Бог. І задзірысты ды нахабны певень, які, нягледзячы на гады, так і не навучыўся спяваць вытанчана ды прыстойна, а ўсё сіпіць ахрыпла, спяшаецца, падганяючы соннае вясковае быццё. Усё гэта — яе. І не замінайце бабулі жыць, не шмальцуйце Крэва абыякавым вокам, не расцягвайце камяні, на якіх мо толькі і трымаецца сённяшняя Беларусь... І ўсё ж кавалачак цагліны, даруй кабета, пакідаю ў кішэні. Ён — таксама мой. Я — таксама не з набродаў. Тутэйшы, хоць і на Смаргоншчыне з Ашмяншчынай упершыню. Хачу, каб і мая Беларусь трымалася на кавалачку надзейнага і непадманнага крэўскага мура. Мы з сынамі спецыяльна прыкінулі — падлічылі: такіх крупінак Крэва пад нагамі — процьма, на ўсіх беларусаў хопіць. І не бяды, што не вельмі гэтыя "ўсе" спяшаюцца. У кожнага, пэўна, свой час падбіраць камяні. І мэта, відаць, свая. Каму — цяжкім грузам-гнётам на спакутаваную душу; каму — дачаснай зброяй за пазуху.

У 1337-ым Ягайла заключыў з Польшчай Крэўскую унію (саюз Беларуска-Літоўскай дзяржавы з палякамі)... У гэтым ж Крэўскім замку Ягайла бессаромна зняволіў князёў Кейстута і яго сына Вітаўта. Кейстут памёр у Крэве, а Вітаўт уцёк, захапіўшы праз час уладу ў Вялікім княстве Літоўскім. Дзякуй Богу, на кожнага ягайлу заўжды ёсць у нас свой вітаўт...

Ашмяншчына — гэта вам не Гомельшчына. Замест прысожскай спакойнай роўнядзі пагоркі ды крутыя схілы, нечаканыя павароты па трасе ды плюс адмысловае буянства фарбаў у дамешак да агульнага замілавання. Швейцарыя — дый годзе! Ды толькі вось свежым гноем у наваколлі папахвае. Не бяды! Не швейцарцы мы — беларусы. Па загадзе з самага што ні ёсць верху да пэўнай даты трэба ўсё што можна пасадзіць ды пасеяць. Вось і шчыруем што ёсць духу пад будучую бульбачку з маласольнымі гуркамі. Такі ўжо час на двары. Раскідваць гной і збіраць недаравальна згубленае кімсьці каменне. Толькі б не памыліцца, як заўжды, у паслядоўнасці...

Паварот управа, і вось яны — Баруны. А калі дакладна, дык у першую чаргу не само мястэчка, ціхае ды правінцыйнае, а як у пахмурны дзень нечаканым промнем у вочы — тутэйшы кляштар базыльян... Сёння службы няма. Але маладзенькі семінарыст-практыкант (вучыцца дзесьці ў Польшчы) з гатоўнасцю адчыняе дзверы уніяцкай царквы. "Вы б да нас у свята завіталі, — крыху крыўдуе на нашу нездагадлівасць, — паглядзелі б ды паслухалі, якая тут раскоша!"

А раскоша і так добра бачная. Сцены, якія, здаецца, не маюць завяршэння. Урачыстыя абразы. Паўсюдная ўзнёсласць і вытанчанасць. А хлопчык-практыкант, якому ўсё тут да драбніц вядома, слухае нашага мінскага гіда-экскурсавода літаральна з прыадкрытым ротам. Мо да светлага і прыгожага ўсялякі раз так і трэба — як упершыню, як у апошні раз? І сыны мае сцішыліся, рукі ледзь не па швах, да сябе спрабуюць прыслухацца. Мо ў царкве толькі так і ніяк інакш?

Барунскі кляштар. Помнік архітэктуры другой паловы XVIII стагоддзя. Складаецца з царквы і манастырскага корпуса, які разам з мураванай агароджай і вежай-званіцай стварае ўнутраны квадратны ў плане двор. Мураваная царква ўзведзена ў стылі віленскага барока. Трохнефавая двухвежавая базіліка з паўкруглай апсідай накрыта двухсхільным дахам... Словы не кранаюць? Згодны! Не верце пачутаму ды напісанаму! Толькі ўласным вачам. А таму хуценька ў Баруны!

А за царквой будынак колішняй беларускай настаўніцкай семінарыі, якую заснаваў у 20-ым годзе і ўзначаліў не хто-небудзь, а сам Рак-Міхайлоўскі. Так, так, Сямён Аляксандравіч, публіцыст і педагог. Сябра Беларускай сацыялістычнай грамады, уваходзіў у раду БНР і яе вайсковую камісію, адзін з кіраўнікоў Таварыства беларускай школы, дырэктар Беларускага дзяржаўнага музея. Як лічаць знаўцы, аўтар музыкі песні "Зорка Венера" на словы Багдановіча. Словам, актыўны надзвычай, чысты і сумленны. Таму і сканаў у 37-ым. Вось такія справы сівой мінуўшчыны... А ў тутэйшай краме нават масла ёсць у продажы. Любіць Бог гэтыя мясціны...

Рушым на Гальшаны. Праз хутары, узлескі і засеяныя калгасныя палі. Намотваючы на аўтобусны кардан кіламетры беларускай зямлі, дыхаючы пылам яе і водарам. Велічны травеньскі пейзаж, не менш вялікі сметнік абапал дарогі (куды нам у Еўропу без сваіх кантрастаў?), зноў паварот управа (дзякаваць Богу, што налева ніяк не прыпадае!) — і славутыя Гальшаны вітаюць нас ледзь не музейнай цішай.

Планіроўка мястэчка — унікальная. Старажытныя забудовы. Родавае гняздо слынных князёў Гальшанскіх. Іван, сын Альгімунта, першы вядомы прадстаўнік знакамітага роду — заўзяты прыхільнік Вітаўта. Іванава дачка Ульяна з 1418 года — жонка вялікага князя...

Няма высокіх ды глухіх платоў у Гальшанах. Няма чаго прыхоўваць местачкоўцам. Усё жыццё, як на далоні. І гэта таксама ўласна беларускае. Ні дадаць, ні скрасці. Яшчэ да чужой хаты толькі падыходзіш, а ўражанне такое, што ўжо ў гасцях.

— Гэта вам не за савецкім часам, — адчайна мацюкаецца дзядзька на сыноў, якія, пэўна, без належнай пыхі ўпраўляюцца на падвор'і.

І дзядзька не памыляецца ў нескладаным аналізе грамадска-палітычных беларускіх дзяржаўных адносінаў. Спадзявацца няма на каго. Уласны мазоль ды цвярозая галава — вось і ўвесь сойм з парламентам, вось і ўся ўлада — заканадаўчая ды выканаўчая. І ўраджай з уласнага гародчыка будзе гарантаваным, і сумленне чыстым застанецца. А палітычныя хісткія трыбуны — даўно ўжо не народныя званіцы. Так што мае мацюклівы дзядзька рацыю. Яму б з сынамі яшчэ і кулямёт, каб ад чарговага раскулачвання абараніцца...

А экскурсавод, часу не губляючы, распавядае пра штосьці. Маўляў, беларус калісьці, каб беларускага не згубіць, вінен быў у юнацтве не толькі праз пушчу прайсці, пераначаваць у ёй, вогнішча расклаўшы, ды тура ці зубра забіць, а яшчэ і ў радаводзе ўласным не памыліцца, да пятага калена спадкаемцаў без памылкі ўспомніць. Па дарозе ў Гальшанскі касцёл у чарговы раз успамінаю: Якуб, Іван, Дзмітрый, Сцяпан ды Мікалай... У прапрадзеда дзевяць дзяцей было, у прадзеда — сямёра, пяцёра ў дзеда. У мяне толькі два. Вунь яны, з жонкай наперадзе, круцяць галовамі ва ўсе бакі ды свавольнічаюць як могуць. Двое — не дзевяцера. Словам, драбнеюць Рагіны, але, нічога, — трымаюцца пакуль. Да таго, відаць, часу, пакуль на ўласны радавод не забудуцца...

Гальшанскі касцёл і кляштар францысканцаў — помнік архітэктуры XVI—XVIII стагоддзяў. Будавалася, перабудоўвалася ўсё на сродкі Паўла Сапегі. У пачатку 1770 года будынак быў разбураны да муроў, на яго месцы з выкарыстаннем часткі сцен пабудаваны новы. Відавочнае барока. Фрэска на сцяне алтара. Падкупальная прастора, запоўненая святлом блакітнага неба. І спрэс каляровыя вітражы. Нейкі неверагодны згустак эмоцый — усхвалявапасці і радасці адначасова. І жончыныя валасы, пяшчотна расфарбаваныя вясёлымі зіхоткімі вітражамі...

У жылым корпусе кляштара — філіял Дзяржаўнага мастацкага музея Беларусі. Якіх толькі цудаў нам тут не парасказвалі! І пра дзяўчыну, замураваную ў сцяну, душа якой і па сёння не знойдзе прытулку, блукае па сутарэннях, шукае святла родпасных душ і не знаходзіць, пакутніца. І пра нейкі надзвычайны магнетызм, уласцівы толькі кляштарным пакоям, ссівелым ад часу і людскіх грахоў. Маўляў, нават мужчыны губляюць тут прытомнасць, бачаць штосьці адмысловае і страшэннае ў сваёй міфічнай рэальнасці. Не тое што палохаюся, проста стамляюся, кідаю ўсіх і выходжу на гальшанскую вуліцу пакурыць...

Ля універмага першыя "пробныя" п'яныя. І гэта таксама наша — беларускае. Гуляць дык гуляць. З даважкам і запасам, каб сусед не абагнаў... Ля помніка загінуўшым у Вялікай Айчыннай, што на мястэчковым пляцы, — ускладанне кветак. Арганізавана-пратакольнае. Чародка дзетак-школьнікаў пад наглядам настаўнікаў. І ружа, якая за крок да пастамента знячэўку падае з рук напалоханай да слёз дзяўчынкі. І сам чамусьці палохаюся, нечакана перахоплівае дыханне. Не хвалюйся даражэнькая! Кветка — не сумленне, якое згубіш — не вернеш, з пылу не ўзнімеш. Падымай хутчэй ды не палохайся!

З крамы выношу падараваны ветлівай прадаўшчыцай "Ашмянскі веснік", раённую грамадска-палітычную газету, запоўненую ледзь не напалову перадсвяточным афіцыёзам, дзе райвыканкамаўскія віншаванні ветэранам — па-руску і, дзякаваць Богу, беларускамоўныя вершы на літаратурнай старонцы.

Чакаю экскурсантаў. Едзем урэшце да Гальшанскага замка.

— А "Чорны замак Альшанскі" Караткевіча і замак Гальшанскі — адно і тое ж? — пытаюцца дзеткі.

— Ды не, — натужліва капаюся ў памяці.

Гальшанскі замак, помнік палацава-паркавай архітэктуры, пабудаваны тым жа П. Сапегам на памежжы XVI і XVII стагоддзяў. Калісьці ўтульнае, ваяўнічае і шыкоўнае жытло Гальшанскіх. Уязная брама завяршалася ў свой час гранёнай вежай. Мелі сцены фігурную мuroўку, аздобленую лепкай. Багатымі былі і інтэр'еры. Палац перабудоўваўся (дакладней — ледзь не метанакіравана разбураўся) у XVIII—XX стагоддзях, а таму збярогся часткова. Гноевыя сцёкі бліжэйшай жывёлагадоўчай фермы запаўнялі ўнутраны двор. Не дапамаглі, відаць, і трубы, канфіскаваныя з аргана Гальшанскага касцёла і прыстасаваныя ў сістэму фермаўскага гноевыдалення. Здзекам над самімі сабой няма скону...

Вось раздолле хлопцам на замкавых сценах! Сам з задавальненнем па сутарэннях палазіў, абышоў што можна і агледзеў як след. А маладыя хлопец з дзяўчынай, не нашы, не аўтобусныя (экскурсанты самачынныя, да якіх яшчэ ад кляштара прыглядаюся), з веданнем справы над прызамкавым смеццем-каменнем схіліліся. Рыюцца ў ім з такім задавальненнем, што нат зайздрасць бярэ. З рэўнасцю мацаю кавалак Крэва ў кішэні — на месцы! А тыя знайшлі ўжо штосьці, быццам дробязнае ды незаўважнае, і аслупянелі ад шчасця. Агледзелі радасна, адчысцілі ад сучаснага бруду і пылу, у рукзак надзейна захавалі. Не абвінавачваю! Радуюся разам з імі! Ну не ахоўвае дзяржава гэты палац, нягледзячы на наяўнасць адпаведнай шыльды на замкавай сцяне. Калі б ахоўвала як след, з матчынай цеплынёй і прадбачлівасцю, не руінамі б зараз любаваліся, не дадаткам да абыякавай калгаснай жывёлагадоўчай вытворчасці, а палацам, ганарлівым і вытанчаным, такім, якім і застаўся ён на малюнку Напалеона Орды. Дык лепей крупінку Гальшан, памерам на паўдалані дзіцячай, забяруць на надзейнае захаванне гэтыя шчаслівыя маладыя. Не абыякавым пустым сувенірам, а часткай уласназнойдзенай Беларусі. Сваёй, не падманнай... Такі ўжо час — падбіраць неахайна згубленае кімсьці каменне...

Мы стаміліся. Вандруем з васьмі раніцы, а зараз на пятую дня пераваліла. Мы перапоўнены эмоцыямі ад убачанага і пераасэнсаванага. Хлопцы актыўна сілкуюцца прыгатаванымі жонкай бутэрбродамі і насуперак усяму прагнуць відовішчаў. Балазе, іх хапае наперадзе, бо дахаты мы будзем дабірацца праз Валожын, праз не менш знакамітыя і невядомыя для нас вёскі і мястэчкі Беларусі.

Інсургенцкая зямля... Па першым воклічы Каліноўскага імгненна ашчэрылася яна косамі ды віламі. У чарговы раз, як упершыню, усвядоміла, што не "народ для ранду, а ранд для народу". А крыху раней, у 1794-ым, пайшла, шукаючы волі і справядлівасці, за Касцюшкам. І паўтысяча стральцоў на чале з легендарным Міхалам Клеафасам Агінскім з тутэйшага Залесся бясстрашна выступіла супраць пошасці захопнікаў-чужынцаў. Не адолела, не перамагла, але веры ў лепшае ды светлае не згубіла, перадала нам яе ў дар, як святую спадчыну. І паланез Агінскага "Развітанне з Радзімай" і па сёння гучыць не столькі самотна і безнадзейна, колькі жыццесцвярджальна і пашанотна... Валожынская зямля захоўвае традыцыі, не губляе іх у мітусні будзённасці, а з ашчаднасцю памнажае... Уладарна і спакойна вітае нас праз шкло аўтобусных вокнаў касцёл Марыі, упрыгожаны знакамітым мастаком Рушчыцам. Праз хвілю застаецца ззаду, за старадрэвінамі, высаджанымі абапал дарогі, і сама вёска Вішнева, вядомая сваім айцом Чарняўскім-сучаснікам нашым, які пераклаў Біблію на родную мову, кананізаваў яе аж у Рыме і ў чарговы раз усяліў у душах і сэрцах беларускіх веру і надзею... Не жартачкі гэта вам, не дробязі і не экскурсійны напышлівы антураж. Людзі-волаты, людзі-легенды! Паэты, кампазітары, мастакі, навукоўцы з княжацкім змагарным духам ды няўрымслівай летуценнай душой, якая не ведае спакою. Дык што? Памяркоўны беларус ды забіты ў дробязных сваіх жыццёвых памкненнях?! Сляпы, глухі ды абыякавы да волі і справядлівасці? Лухта! Няма на зямлі нашай вёскі ці мястэчка, адкуль бы не браў пачатак вялікі шлях да Радзімы. І ідуць па ім бясконца не проста людзі, а грамадзяне. І не згасае святло паходняў. Не Швейцарыя гэта вам, браточкі, дзе ўсе сытыя ды дабрабытам супакоеныя. Звычайны стан беларускай душы — барацьба ды супрацьстаянне. Злу, ілжывасці, бязроднасці...

"Мудрацы розных часоў лічылі, што ў кожнай дзяржаве прыстойнаму чалавеку даражэй за ўсё на свеце яго свабода. Няволя ж настолькі агідная, што ад яе трэба пазбаўляцца ўсімі сродкамі. Таму людзі, якія паважаюць сябе, не павінны шкадаваць ні маёмасці, ні нават свайго жыцця, каб не трапіць пад жорсткую ўладу няволі. А тыя, хто зрабіўся падняволыным, але мае свабодалюбівы незалежны характар, таксама не павінны цярпець над сабой непрыяцеля. І не толькі нейкага чужаземца, да якога трапілі ў палон, але і свайго тутэйшага. Дзеля гэтага і створаны законы — тыя аброць і цуглі, якія будуць стрымліваць кожнага нахабніка ад усялякага гвалту і самавольства і не даваць яму магчымасці здзекавацца над слабейшымі і бяднейшымі ды прыгнятаць іх; каб не мог багаты і магутны паводзіць сябе так, як яму пажадаецца. Цыцэрон вучыў, што карыстацца свабодай можа той, хто стане нявольнікам закону. А для прыстойнага чалавека няма большай асалоды, як жыць у сваёй Айчыне ў поўнай бяспецы, ні з кім не біцца і не сварыцца і каб ніхто яго не зняславіў..." Ну хто запярэчыць, што зварот Льва Сапегі да ўсіх саслоўяў Вялікага княства Літоўскага напісаны кроўю і слязьмі не для нас, сённяшніх?! Прага справядлівасці на Беларусі гэткая ж неадольная, як і сама несправядлівасць. Стаць сапраўдным грамадзянінам сапраўднай Беларусі — няўжо недасягальны ідэал?!

...А бочкавы квас у Валожыне, прама скажам, не вельмі. Вадой разбаўлены. П'ю — моршчуся. Міліцыянты мясцовыя, што ў чарзе ўслед за мной, п'юць таксама, але ж марку трымаюць, выгляду не падаюць — патрыёты. А мо прызвычаіліся? Лепшага не каштавалі? Дарэчы, у Валожынскім палацы, пабудаваным у 1806-ым, зараз аддзяленне міліцыі. Эклектыка чыстай вады. Як разбаўлены квас у спёку. Архітэктура класіцызму, дзецішча графа Тышкевіча, з адміністратыўным змесцівам звычайнага пастарунку. Куды нам у Еўропу без кантрастаў!

Па дакументах Валожын вядомы аж з XIV стагоддзя. Не дзіва — цэнтр Налібоцкага краю! Валодалі горадам па чарзе Слушкі, Радзівілы,

*(Працяг на стар. 12)*



**ЧАСАПІС**

## “Глыбокае на старых паштоўках”

**Чалавек, па-сапраўднаму ўлюбёны ў сваю “малую радзіму”, горы можа варочаць. Што гэта сапраўды так — лішні раз пераконвае глыбоцкі краязнаўца Уладзімір Скрабатун. Яшчэ студэнтам Мінскага архітэктурна-будаўнічага тэхнікума ён захапіўся філакартыстыкай, а прасцей — калекцыяніраваннем старых паштовак, тых, на якіх адлюстравана Глыбокае ці бліжэйшыя населеныя пункты.**




**Як у свой час даведаўся У. Скрабатун, першая глыбоцкая паштоўка пабачыла свет яшчэ ў 1905 годзе. Пра месца яе з'яўлення можна толькі здагадвацца, бо на картцы няма назвы выдавецтва, не ўказваецца прозвішча выдаўца, не называецца месца выпуску. Але можна меркаваць, што жыццё яна атрымала і ў самім Глыбокім, бо паштоўкі ў гэтым мястэчку пасля 1909 года выдаваліся рэгулярна, а мясцовае выдавецтва заснаваў Л. Ром.**

**Пачатак даў У. Скрабатуну добры плён і ўвесну 1977 года ён, як расказвае ва ўступе да сваёй кнігі-альбома “Глыбокае на старых паштоўках”, выдадзенай Беларускім гуманітарным адукацыйна-культурным цэнтрам у рамках праекта “Падтрымка незалежнай выдавецкай дзейнасці ў Беларусі” (па замове БГФ “Наша Ніва”), накіраваўся з артыкулам “Глыбокае на старых паштоўках” у рэдакцыю тагачаснага бюлетэня “Помнікі гісторыі і культуры Беларусі” (цяпер часопіс “Спадчына”). Здавалася б, такому матэрыялу там павінны былі толькі ўзрадавацца. Ды дзе там! З вуснаў аднаго з супрацоўнікаў прагучала: “Такія здымкі мы не можам надрукаваць! Навошта. У вас да рэвалюцыі ў Глыбокім жылі лепш, чым цяпер! Дзеля чаго тады было рабіць рэвалюцыю? Паглядзіце самі, што вы нам прынеслі? Брукаваныя вуліцы, ходнікі, дамы крытыя дахоўкаю, людзі ў цыліндрах. Не! Такія здымкі мы апублікаваць не можам! Нам патрэбна, каб былі саламяныя стрэхі, пахілыя дамы, вокны забітыя дошкамі, гразь і лужыны на вуліцах...” Аднак У. Скрабатун, хоць і засмуціўся падобным адказам, рукі не апусціў. А паразуменне знайшоў у мясцовых журналістаў, у рэдакцыі глыбоцкай газеты “Шлях перамогі”. У тым жа 1977 годзе там і з'явіўся яго артыкул “Глыбокае ў мінулым”, у якім расказвалася пра паштоўкі з выявамі Глыбокага. А пасля былі іншыя артыкулы, новыя пошукі.**

**На сённяшні дзень У. Скрабатун змясціў у розных выданнях каля сотні артыкулаў па краязнаўстве, у тым ліку і ў гісторыка-дакументальнай хроніцы “Памяць” Глыбоцкага раёна. А паштовак пра Глыбокае сабраў каля шасцідзесяці. Рэпрадукцыі з іх і прадстаўлены ў гэтай кнізе-альбоме.**

**Так, перад намі і кніга, а не толькі альбом. Прытым ілюстрацыйная і, так сказаць, інфармацыйна-даведачная частка (хоць, відаць, усё ж трэба гаварыць пра даследчыцкія артыкулы) узаемна дапаўняюць сябе. У артыкуле “Гісторыя глыбоцкай паштоўкі” У. Скрабатун не абмяжоўваецца прадметам гаворкі, а закранае і гісторыю паштоўкі ўвогуле. Дарэчы, гэтаму віду паштовай карткі сёлета спаўняецца 130 гадоў. Але гэтую інфармацыю можна знайсці і ў іншых выданнях (у тым ліку і энцыклапедычных), а вось пра гісторыю глыбоцкай паштоўкі можна прачытаць толькі ў У. Скрабатуна. Калі спачатку паштоўкі ў Глыбокім выдаваў Л. Ром, дык “пры паляках”, калі Глыбокае стала цэнтрам Дзісенскага павета, за гэтую справу ўзяўся ўладальнік мясцовай кнігарні У. Уладзіміраў. Як сведчыць У. Скрабатун, “афармленне паштовак, выдадзеных Уладзіміравым, значна адрозніваецца ад тых, якія раней выдаваў Ром. Калі на дарэвалюцыйных картках пераважаюць панарамныя здымкі, дык выданні міжваеннага часу характарызуюцца большай канкрэтнасцю. На іх адлюстраваны важнейшыя аб'екты павятовага горада: пошта, гімназія, царква, касцёл. А вось пры “саветах” з'явілася толькі адна паштоўка з відамі Глыбокага — у 1987 годзе ў выдавецтве “Беларусь”. У кнізе-альбоме змешчаны паштоўкі і з выявамі Беразвечча, якое цяпер злілося з Глыбокім, і адна, што адлюстроўвае Соймікавую Калонію — была такая ў 30-ыя гады паміж Глыбокім і Беразвеччам.**

**Лявон ЮРЧЫК**

**ВІНШУЕМ!**

ЯК У КОЖНАГА чалавека на зямлі, так і ў кожнага паэта, — наогул, у кожнага творцы — ёсць сваё наканаванне.

Ад каго ці ад чаго яно зыходзіць? Ад Бога, ад роднай зямлі, ад уласнай долі? — цяжка сказаць і вызначыць. Хутчэй — ад усяго разам, ад усяго, што завецца жыццём, дадзеным табе — непасрэдна, канкрэтна, без права перадачы, — табе, і нікому іншаму.

Як распарадзіцца ім, гэтым наканаваннем, — справа ўжо на парадак вышэйшая сваёй шматмернай непрадказальнасцю: як дайсці да яго здзяйснення — ніхто не можа ўгадаць, і найперш сам чалавек, творца. Ёсць толькі мэта, ёсць толькі дарога...

Паэт, можа, і не шукаў спецыяльна яе — форму. Прынамсі, не задумваўся над гэтым. І незададзенасць, натуральнасць ратавалі паэта, як і ўвогуле ратуюць мастака, творцу. Шукаць форму — як самамэту — ці не простая гэта дарожка да рамесніцтва?..

Форма сама знаходзіць мастака: як прыгажосць, пакліканая зместам, і адначасна як творчая сіла, што дае гэтаму зместу магчымасць увасаблення. Форма няволіць, але тым самым не дазваляе зместу рассыпацца (націск можна ставіць на любым з двух прыдатных для яго складоў) на няўцямныя, бяздумныя драбочкі быцця. Форма **афармляе** і накіроўвае сэнс тварэння. Адно без аднаго яны — безжыццёвыя. У лучнасці — гэта ўжо “Твае тысячы год — гэта ўсяго толькі год...” — і іх сусветная ўзаемапранікнёнасць і ўзаемазалежнасць...

“Вышыня гадоў” разгортвае перад паэтам і глыбіні часу. Гэта знаходзіць адбітак не адно ў лірычных экспрэсіях, але і ў малюнках, што набліжаюцца зместам і фарбамі да выяў эпічнага складу. Ці то маем мы справу з паэмай, ці з вершаваным маналогам — “аўтабіяграфіяй душы”, па аўтарскім вызначэнні, ці то з Вянком санетаў, — сутнасная пазіцыя пазначана адным, зноў жа кажучы словамі Уладзіміра Скарынкіна, “вуглом атакі”: паэт настойліва прабіваецца, як паветраны карабель праз хмары, да панарамных даляглядаў — ад канкрэтных гістарычных постацей (а героямі твораў паэт абірае людзей крылатых, людзей высокага палёту, людзей, народжаных зямлёю — небу) Францішка Скарыны, Максіма Багдановіча ён думкамі сваімі, згадкамі і развагамі імкнецца ў сутнасць дня сённяшняга: каб зразумець яго і сваё месца ў ім. А з “ваяром праслаўленым”, князем Міхалам Глінскім паэт уступае ў непасрэдны дыялог: гамоніць з ім, распытвае, спрачаецца...

Але, бадай, самым сімптаматычным, знакавым у шэрагу твораў ліра-эпічных стаўся для паэта Вянок санетаў: у строгай фактуры верша як бы праступае “дантаўскае рэха” — не адно ў рэчышчы гэтай, канкрэтнай, формы (хоць і “суровый Дант не презирал сонета”...), а ў сэнсе класічнай школы.

Гэта мы цяпер знаем: Уладзімір Скарынкін прабіраўся, ішоў да нялёгкага выпрабавання тэрцынамі Дантэ...

Але гэта яшчэ — будзе. А пакуль што — Вянок...

Нельга не заўважыць — чытаючы і перачытваючы санет за санетам (а то ж — эталон у класічнай сістэме паэтычных мер і ўзораў), — як набывае пругкасць радок Уладзіміра Скарынкіна, як арганізуецца лад і настрой верша — арганічна і нязмушана, як адточваецца ён у скандэнсаванасці думкі, у дакладнасці яе выяўлення:

***...Жыццё без хваляванняў і трывог —***
***Журба і смутак апусцелай нівы...***

І хоць: “Зваротных у жыцця няма білетаў...”, але —

***Ніколі той не можа быць шчаслівы,***
***Хто ў сэрцы сноў вясновых не збярог...***

Адштурхоўваючыся ад момантаў вузкаасабістых, лірычна-прыватных, іншы раз нават, па наіўнасці падумаўшы, “нязначных” у гледзішчы “эпахальным”, паэт выводзіць Вянок на плынь трапяткіх і ўсезначных, агульначалавечых памкненняў і настрояў:

***Гады былыя пераэкыў наноў,***
***Калі шукаў уток я для асновы.***
***Прымі сувой пачуццяў і высноў.***

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

***У ім святло бярозак беластволых***
***І першае дыханне маразоў,***
***Асенні клопат шпаркіх палазоў***
***І зелень руні — спадзяванняў кволых...***

Малюнак — чысты, светлы і паэтычна праўдзівы...

А цяпер — непасрэдна пра тое, да чаго, магчыма, рыхтаваўся, ішоў, набліжаўся Уладзімір Скарынкін усёй сваёй папярэдняй творчасцю.

Вестку аб тым, што паэт перакладае “Бос-

# Небам паклікане

### ЮБІЛЕЙНЫ ЭЦЮД

І трэба — ісці...

Хлапчук з беларуска-памежнага Гарадка выйшаў спачатку на сваю дарогу, каб узляцець над зямлёй. Яго прывабіла неба, ён падзяліўся сваёй хлапечай марай з авіяцыяй.

Зрэшты, сялянскія сыны цягнуліся да вучэльняў з казённым коштам і па іншай, зусім зразумелай прычыне: пасляваенная вясковая нішчымніца і нястача толькі такі абяцала спосаб зацугляць удачу...

І ўсё ж: з Уладзімірам Скарынкіным было і так і, можа, не зусім так... Было — спачатку падсвядома, а потым акрэслілася ў лёсавызначальнае:

***Ёсць у паэта***
***Неба і зямля.***
***Зямля —***
***Для ўзлёту,***
***Неба —***
***Для палёту...***

Цяга вясковага хлапчука: з ваенным сіроцтвам (бацька загінуў на франтавых шляхах), з добрым і спагадлівым айчымам, — была ва ўсім пазначаная вышынёю. Згадка дзяцінства: айчым “садзіў на воз бухматы...”, “а я на сёмым небе знаходзіўся, здавалася...” — гэта не простае замілаванне-ўспамін, гэта — знак планіды:

***Я з зайздрасцю глядзеў, як быў малым,***
***На птушак і пілотаў...***

Ісціна, старая, як свет, скажам больш лакальна — як свет паэтычны: паэта без біяграфіі няма. Не ў сэнсе нанізвання анкетных пацерак. Калекцыяніраванне прафесій — а такіх прыкладаў можна прыгадаць уга колькі! — пабывалі і кітабоямі, і геолагамі, і сталеварамі, і качагарамі... — гэтыя патугі штучнага прафесійнага “абсемянення”, “стварэння” ўласнага “жыццяпісу” вершаробам, як зазвычай, анічога, апроч знешняй “аздобы”, не прыносілі. “Рабіць біяграфію” — справа паэтычнай тусоўкі, мець “біяграфію душы” — адзнака і перадумова творчасці (хоць і не дужа радасную выснову на гэты конт робіць пра сябе паэт: “Ёсць толькі біяграфія душы, на жаль, яна не кожнага цікавіць...”).

І ўсё ж — гаварылася мудра і неаднойчы: паэт — гэта лёс.

У спадарожнікі свайму паэтычнаму лёсу Уладзімір Скарынкін абраў авіяцыю: “Я небам назаўсёды захварэў...”

Калі ў выкананні славутых “Песняроў” загучала:

***Белая Русь мая!***
***Чыстая ты мая!***
***Родная ты мая!..*** —

Напачатку падалося, што паэтычны тэкст Уладзімір Скарынкін стварыў менавіта дзеля гэтага — песеннага — выпадку. Ажно — не: верш, выявілася, быў ці не творчым дэбютам, а дакладней, творчай самаатэстацыяй паэта, і адкрываў першую ягоную кніжку “Буслы над аэрадромам”. Верш з усімі прыкметамі паэтычнага спосабу Уладзіміра Скарынкіна: змест — ад зямлі, форма — ад неба. Прыгледзімся:

***Белыя гоні бульбы,***
***Белыя косы дзяўчат...***
***...Белыя плечы бяроз,***
***Белыя россыпы золкіх***
***Чыстых світальных рос...***
***...Белых туманаў плыні...***
***...Белыя грывы завей...*** —

сапраўды, такая панарама можа адкрыцца толькі з вышыні палёту. І гэты “авіяпозірк” пранізвае і наступныя кніжкі Уладзіміра Скарынкіна, што яскрава засведчана ўжо іх назвамі: “Гукавы бар'ер”, “Дазвольце ўзлёт”, “Чацвёрты разварот”, “Вугал атакі”, “Пасадачныя агні”, “Выратавальны плыт” (рыштунак, хоць і для водных патрэб, але ўсё ж авіяцыйны, — і дарэчы, сведчыць у аднайменным вершы паэт, апошняе падарожжа Уладзіміра Караткевіча па рэках Палесся здзяйснялася на авіяцыйным выратавальным плыце...).

тое, што выяўляе нам верш “Беларусі”. Гэта — малітва роднай зямлі. А таму: яна творыцца, прамаўляецца з духоўным позіркам неба. Усё гэта, зямное, блізкае, роднае, чыстае, дыхае нябесным блаславеннем. Яно высокае — і простае, як малітва...

От жа сказаў аднойчы Якуб Колас: “Хмаркі белыя марудна за лясы плывуць...” — гэтак усё немудрагеліста, а столькі шчымлівай летуценнасці ў малюнку! Які прастор — пачуццям і думкам...

Так нараджаецца “з душою птушкі чалавек”, — пра гэта, як пра самае запаветнае сведчыць нам Уладзімір Скарынкін:

***Нада мною — нябёсы сінія,***
***Пад нагамі — дарожны пыл.***
***А праз сэрца праходзіць лінія,***
***Што злучае з зямлёй небасхіл.***

Гэтая лінія — лінія лёсу, жыцця — як промнем, асвятляе лепшыя паэтычныя радкі Уладзіміра Скарынкіна.

“Пакуль цвітуць вачэй тваіх паляны”... Паляны, — гэта можна пабачыць адразу, цалкам — толькі з вышыні: не адна ж, заўважце, паляна, а — “паляны”. Але — “вачэй паляны...” — іх ужо разгледзець можна толькі наблізіўшыся: вочы ў вочы... Вочы ў вочы з каханай, вочы ў вочы з травінкай і кветкай, вочы ў вочы з птушкай, вочы ў вочы з роднай зямлёй... А глыбей у сутнасць — значыць, вышэй у неба. “Авіяцыя, як паэзія”, — заўважае-прызнаецца паэт. І знаходзіць гэтаму важкія доказы. Вось: жаўрукі — “узляцелі, песню завялі... Я разумеў: да іх натхненне прыходзіць на зямлі...”

Зямля — стартавая пляцоўка. Неба акрыляе, зямля па-мацярынску чакае і вяртае:

***Хай нават ля парога***
***Казерога***
***Мы б сёння пыл касмічны атраслі,***
***Усё адно галоўная дарога***
***Заўсёды ў чалавека***
***На зямлі.***

Не, гэта не супрацьстаўленне, гэта толькі пацвярджэнне: чалавек — існасць зямная, а неба — уратаванне душы. Адтуль прыходзіць святло, каб вывесці з цямрэчнага хаосу, — як, зноў жа з прафесійным досведам, заўважае аднойчы паэт:

***Неба раскрылася парашутам***
***І ўратавала зямлю.***

Так, зямля ратуецца небам... Толькі ж і небу, пэўна, не лішне мець зямную апору. Яна — у чалавечай душы. І адчуваючы гэта — мажлівую аднабокасць захаплення, — паэт як бы дакарае сябе:

***Пісаў баллады, вершы і паэмы***
***Часцей пра неба і стальных буслоў...***

Перасцярога не марная, бо “клёкат” “стальных буслоў” можа заглушыць штосьці вельмі важнае і жыццёва вызначальнае, аб чым пасведчыў раптам “стары аэрадром”, аціхлы ад грукату: няхай сабе —

***Крылом не памахае нада мной***
***І не памкнецца ў сіняву начную...*** —

затое:

***Як плача немаўлятка за сцяной,***
***Цяпер я часта і выразна чую...***

Надыход цішыні: гэта і засмучэнне — як для загартаванага аэрадромнага служакі, гэта і разуменне — як для зямнога чалавека — паўнаты жыцця: пачуць немаўлятка за сцяною, адчуць адказнасць за кожную дзіцячую слязінку...

Аказваецца, ёсць яшчэ і “вышыня гадоў” — з яе куды як многа відно!..

***...Сёння ў поўнач наступіць***
***Год спакойнага сонца...***

І —

***Як бывае ён рэдка —***
***Дзень спакойнага сэрца...***

Знаёмая ўжо нам пераклічка паэтычных “сфер”: нябесная — сонца і зямная — сэрца. Касмічны спакой — і чалавечыя хваляванні. Іх несуразмернасць, іх, здавалася б, неперасякаемасць, адноснасць — як па Бібліі:





П. Пруднікаў, Ю. Свірка, У. Паўлаў, М. Танк, А. Салтук, П. Панчанка, У. Скарынкін.

кую камедыю" Дантэ, я сустрэў (сам для сябе) несамавітай, але прыхільнай страфой "Змена прафесii":

***З такою стратаю —***
***Прыбытак чысты:***
***Быў авіятарам,***
***А стаў — дантыстам...***

У перакладчыцкай працы Уладзімір Скарынкін не быў навічком. Дзякуючы яму, пабеларуску загаварылі такія слынныя паэты, як Мікалай Рубцоў, Мікола Вінграноўскі, Барыс Чычыбабін...

Але — Дантэ ёсць Дантэ...

Як Вергілій вядзе аўтара "Боскай камедыі" па кругах таго свету, так сам Дантэ — цягам стагоддзяў — вядзе жывых, як і нас вядзе сёння, па кругах жыцця: таго — непасрэднага, свайго — будзённага, пякельна-балючага, што землятрусна бунтавала паэтава сэрца. І ўжо — насуперак, паміма волі паэта — геніяльна падказвае: знікаюць, сціраюцца з памяці — і ў гэтым, можа, найвялікшая і найтаемнейшая сутнасць задумы Тварца, імя якой "Боская камедыя", — забываюцца імёны (а іх называе Дантэ дзесяткі, сотні, каб непазбежна перасяліліся яны ў каментарыі перакладчыкаў і даследчыкаў), а застаюцца ў вечнасці, застаюцца, зрэшты, з намі — з кожным жывым — магутныя ўзлёты паэзіі, сусветы думкі і пачуцця, народжаныя паэтычным геніем. Вось нехта "ламбардзец Марка" ("Чысцец", песня шаснаццатая): што ў гэтым імені? А толькі нагода для кароткага каментарыя, што гучыць, як прысуд: "Пра трох старцаў, якіх згадвае Марка і пра самога Марку амаль нічога не вядома..."

***Але: пытаецца Дантэ (у Марка):***
***У чым таго прычына, адкажы,***
***Што свет на дабрачыннасць не багаты,***
***Што злосць у ім не ведае мяжы.***

***Ці неба ў тым ці людзі вінаваты?***
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
***Ён уздыхнуў. Кароткім словам "Ат!"***
***Ягоны ўздых закончыла пакута,***
***А ён пачаў: "Свет невідучы, брат!***

***Вы на суседзяў шчэрыцеся люта***
***І вінавеціце звычайна ў тым***
***Нябёсы, што раскручваюцца крута.***

***Каб так было, не шанцавала б злым***
***І ў душах забівалася б свабода,***
***Што дадзена ўсім жыхарам зямным.***

***Адрозніваць, што — зло, а што — лагода,***
***Дапамагае ўсё ж святло нябёс***
***Вам, а не чалавечая прырода.***

***Калі свабоднай воляй жорсткі лёс***
***Хоць раз перамаглі вы — падаруе***
***Жыццё пасля вам шмат яшчэ дзівос... —***

І хай сабе, паводле сюжэтнай дзеі, то прамаўляе Марка, але мы разумеем — гэта гаворыць з намі Дантэ. Гэта ягоны голас — праз стагоддзі.

І разумееш: якая вялікая мера адказнасці "кладзецца" на перакладчыка.

Паэзія — птушка, пераклад — аэраплан: паветраны лятальны апарат — ляціць, але не птушка. Ён пераносіць нас з аднае моўнай стыхіі, з аднае эпохі — у другую, з аднаго свету — у другі. І максімальна наблізіць яго да жывой птушкі — мэта перакладчыка...

Перакладам "Боскай камедыі" Уладзімір Скарынкін здзейсніў, прынамсі, дзве фундаментальныя задачы: уласна-творчую і нацыянальна-культурную.

Побач з Гётэ ("Фаўст" — пераклад Васіля Сёмухі), Адамам Міцкевічам ("Пан Тадэвуш" — пераклад Язэпа Семяжона), Аляксандрам Пушкіным ("Яўгеній Анегін" — пераклад Аркадзя Куляшова) у беларускай паэтычнай рубрыцы стаў Дантэ Аліг'еры. "Боская камедыя", твор сусветнай велічы, увайшоў у наша нацыянальнае — літаратурнае і культурнае — жыццё, стаў неад'емнай часткай і адной з дамінантаў нашай духоўнасці. Яшчэ адна ніша запоўнена. Мы сталі багацейшымі — на цэлую "Боскую камедыю"!..

Пераклад яшчэ раз пацвердзіў веліч, багацце і літаратурныя магчымасці нашай мовы. А разам з тым — і яе неўміручасць. Гучаць, як званы, дантаўскія тэрцыны, — па-беларуску!..

І здзейсніў гэты творчы подзвіг Уладзімір Скарынкін. Здзейсніў таленавіта, грунтоўна.

І што самае дзіўнае: мы адразу прынялі беларускую "Боскую камедыю" не як госцю, а як сваю крэўную, — як быццам бы яна не толькі што з'явілася, а заўсёды была з намі.

А сакрэт просты: яна — сапраўды беларуская. І па стылёвым ладзе, і па лексічных фарбах. От усяго ўзяць на выбар хаця б пару радкоў ("Чысцец", песня сёмая, 34—35):

***...кто не облекся в три***
***Святые добродетели и строго***
***Блюл остальные... —***

гэта рускі пераклад Міхаіла Лазінскага. А гэта — украінскі (Яўген Драбязка):

***...що не змогли***
***Іти трьома священними шляхами,***
***А іншими чеснотами жили...***

Чытаем ва Уладзіміра Скарынкіна:

***І з душамі, што брадзікі спакус***
***Не трапілі, пражыўшы дабрачынна...***

Як гэта па-беларуску — натуральна, нязмушана. І — афарыстычна...

Ці — зноў жа для параўнання: славутае "Оставь надежду всяк, сюда входящий", — надпіс пры ўваходзе ў пекла.

У М. Лазінскага: "Входящие, оставьте упованья"; у Я. Драбязкі: "Лишайте сподівання всі, хто входить"; у У. Скарынкіна: "...таму надзей з сабою не бяры!.." Гучыць, — на фоне двух мэтраў!..

Пераклад здзейснены. Гэта быў і дыялог, і спрэчка — з матэрыялам і з самім сабой. Гэта была мудрая школа майстэрства і шлях умацавання духу: праз пекла і рай...

У адным са сваіх нешматлікіх інтэрв'ю Уладзімір Скарынкін прызнаваўся: "...лёс мой складваўся так, быццам мяне мэтанакіравана рыхтавалі менавіта для сустрэчы з ім (Дантэ. — **В. З.**). Мяне вяла нейкая вышэйшая сіла, я гэта адчуваў. Яна прымушала перажываць і набываць вопыт, які пасля дапамог бы мне зразумець Дантэ і пераўвасобіць яго на беларускай мове. Цяпер я ведаю, што нават самыя чорныя старонкі майго жыцця набліжалі мяне да гэтай кнігі..."

На юбілейных вечарынах Уладзімір Скарынкін вялікі аматар радаваць віноўнікаў урачыстасці вершаванымі вітаннямі. Гэта надае рашучасці і мне — адплаціць яму тым жа таварам:

***Агуркі ў нас на копы лічылі:***
***Як набраў шэсцьдзесят — то й капа...***
***І да гэтае ж меркі — з гарчынай —***
***Час кратом нашу градку капаў...***

***Дакапаўся-ткі!.. Маеш набытак.***
***А прадаць — не клюе купец***
***І тавар твой не бачыць нібыта...***
***Ды капа — яшчэ не канец!..***

***Шэсцьдзесят, — яшчэ самыя віды***
***На ўраджай — і не з'есць туман...***
***Толькі сам за ўдачу не выдай***
***Пустацветнага слова абман...***

***Як з грады — агурочкі-гадочкі:***
***Самі скачуць крамяна на стол...***
***Хочаш — хрумстай, а хочаш — у бочку,***
***Як у вечнасць, кладзі на засол!..***

Не выключана, што пасля працяглага жыцця на арбіце дантаўскай вышыні нялёгка будзе паэту перайсці ў атмасферу свае ўласнае, арыгінальнай, творчасці. Будзем жа мець надзею, што Уладзімір Скарынкін выйшаў з гэтай школы ўмацаваны і натхнёны на новыя паэтычныя ўзлёты.

Небам пакліканае слова — яно такое зямное. І таму — западае ў сэрца, хвалюе і абуджае жыццядзейныя сілы і памкненні...

**Васіль ЗУЁНАК**

*Фота Ул. КРУКА*

АЛЬФАБЭТА

# Пакрэсліць. І зноў пачынаць...

Чытаючы вершы, асабліва пачаткоўцаў, заўсёды задаеш сабе пытанне: а для чаго пішуць паэты?

***Пакрэслены лісты маёй надзеі,***
***пакінуты нястрыманы аловак.***
***І крокі заглушае крык завеі,***
***якая ашалела сварыць золак, —***

чытаю ў маладой берасцейскай паэткі Марылі Лагодзіч ("Першацвет", 1998, N 9).

Адчуваеш настрой паэткі, трапяткі стан яе душы, жаданне ў слове выказаць усю глыбіню пачуццяў, што ляжаць у сховах сэрца. Тады і разумееш, што пакутуюць паэты не для таго, каб палюбавацца сабой. Найперш — каб раскрыць сябе, каб нехта далучыўся да іх унутранага свету, зразумеў іх і сам стаў багацейшым. На пачуцці, на думкі і ўчынкі.

Паэтычны свет Марылі Лагодзіч — гэта самота чалавека, які шукае сябе, разглядае сябе нібы знутры, ацэньвае і выпрабоўвае свае адчуванні і перажыванні праз слова і ў слове. Інтанацыя ў паэткі сціשаная і насцярожана-пудкая. Такая, як і спадзеўкі на дабро і шчасце, на шчырае каханне:

***Я паклічу цябе варажыць***
***над прыпынкамі нашага лёсу,***
***пацалункамі вусны паліць***
***пад лагодным паглядам нябёсаў.***

Менавіта ў самоце, тым натуральным стане для чалавека, які разумее ўсю нетрываласць чалавечага шчасця, лепей за ўсё выяўляе Марыля Лагодзіч свае пачуцці. Слова яе становіцца як бы празрыстым, у ім усё прасвечваецца, як сонечнае святло праз лёгкую зажураную аблачынку на жнівеньскім небе.

Асабіста мне імпануе тое, што Марыля абрала для сябе дэвіз — закрэсліць надзею дзеля таго, каб зноў жыць ёю і з ёю. Значыць, будзе зноў пошук сябе ў слове. Будзе зноў самота, якая патрэбна душы, што хоча зведаць таямніцы нашага жыцця — найперш кахання, — каб перадаць іх нам ва ўсім багацці і цнатлівай чысціні.

Магчыма, не ва ўсіх вершах радок у Марылі гладкі і бездакорны. У сэнсе стылёвай абрбленасці. Але тое, што ў ім непасрэдная і шчырая душа, — гэта безумоўна:

***Я скіну вазу ў зайздрасці віна —***
***кавалкі разляцяцца па падлозе.***
***То адзінота — сноў маіх сцяна,***
***шалёнасці няўдалай мроі-слёзы.***

Тут зноў тая ж адзінота, але яна ў Марылі як знак таго, што душа працуе, што зноў і зноў нараджаецца надзея, якую паэтка крэсліць, каб зноў шукаць. Тое слова, якое адкрые ўнутраны свет.

Вось, думаецца, і становіцца зразумелым, што паэты не проста, як кажуць, складаюць вершы. Яны ў слове расхінаюць нам свет, дзе пастаянна жыве надзея на святло, радасць і дабро. Для гэтага і пішуцца ў самоце вершы.

**Наталля КУЗЬМІЧ**

## Марыля ЛАГОДЗІЧ



Нарадзілася 16 ліпеня 1979 г. на Іванаўшчыне. Зараз — студэнтка IV курса Брэсцкага музычнага каледжа (аддзяленне "Музыказнаўства").

Друкавалася ў абласных выданнях, у "Нашай ніве", "Першацвеце", "Маладосці". У 1998г. у "Бібліятэцы часопіса "Першацвет" выйшла кніга вершаў "Па-над срэбнай слотай..." (кніга ў нумары, "Першацвет", 1998, N 9).

●

***Я згублю тваё імя сярод радкоў,***
***што імкнуцца стаць аднойчы вершам.***
***Я — святая, ты ж — звычайны грэшнік***
***на сустрэчах сонечных шляхоў.***

***Я забуду твае вочы незнарок***
***і парву начэй даўгіх паперу.***
***Ты мяняеш цноту на хімеру,***
***я ж — на пацалунак дзёрзкі змрок.***

***Тваіх словаў люстра разаб'ю,***
***літары бяздомыя спаткаю.***
***Ты пяеш банальнае — "Люблю",***
***я ж кажу высокае — "Кахаю".***

***Гэты верш самотнай нематы***
***будзе правіць дождж вясновых мараў...***
***Ты забыўся на сваю гітару,***
***ты вярнуўся зноў да пустаты.***

●

***Я слухаю цішыню пранізліва-празрыстую,***
***я кранаю яе астральным дотыкам.***
***Яна пазірае апалымі лісцямі***
***і блізкай восені гучыць акордамі.***

***Мы разам з ёй таемна-маўклівыя,***
***нібыта сноў разглядаем прывабнасці —***
***на тонкіх вуснах крывыя лініі***
***мастак малюе сухімі фарбамі.***

***Пад парасонамі зорнай Вечнасці***
***мы з цішынёю цябе прыгадваем:***
***ты зноўку стомлены маімі вершамі,***
***што лётаюць па-над прысадамі.***

***У снах сваіх з пажаўцелым попелам***
***мне выкладаеш законы існасці.***
***Кранi пяшчотным астральным дотыкам***
***ты цішыню пранізліва-празрыстую.***

●

***Мы крочым з дажджом удваіх. На пару.***
***Мы слухаем свае крокі,***
***што рэхам мройлівых тратуараў***
***лятуць у аблокі.***

***Мы пазіраем з дажджом у вочы***
***адно аднаму... Здаецца,***
***анёлы грэюць гарбату ночы***
***і вось яна ніц пральецца.***

***Мы размалёўваем дол асфальту***
***ў празрысты колер цноты.***
***У люстры — бледныя вусны, пальцы,***
***два крэслы для адзіноты***

***Маёй і дажджовай,***
***што йдуць у бясконцасць,***
***шукаючы невядомасць.***
***Мой Божа, прыдуманы гэты космас***
***няхай іх вядзе дадому.***

●

***Ізноў за вакном змрок***
***пужае забытыя цені.***
***Гучыць дысананс — крок***
***і здрадай парэзаны вены.***

***Прыніжана цнота, і жах***
***заломвае пальцы да болю.***
***Гучыць дысананс — страх,***
***і дрэнна сыграная роля.***

***Палын незакрэсленых слоў***
***у рэха начное складзецца.***
***Гучыць дысананс — кроў***
***слязою пякельнай пальецца.***

***Скамячаны шмат ліста***
***нагадвае поўню над слотай...***
***Гучыць дысананс — там***
***у вочы глядзіць адзінота.***

●

***Мой горад з маленькіх домікаў,***
***з апалаю лістотаю***
***мяне прымае розную:***
***з табою і з адзінотаю.***

***Мой горад у шэсць гадзін раніцы***
***мяне сустракае поўняю,***
***і сцежкамі ліхтарнымі,***
***і вокнамі бяссоннымі.***

***Мой горад з разбітымі марамі***
***мяне суцяшае думкаю,***
***што шчасце — рэч авангардная***
***са спрэчкамі-пачуццямі.***

***Мой горад дажджом закрэслівае***
***тваё паліто доўгае.***
***Мой горад — папера з вершамі***
***безназоўнымі...***

# “С тобой и без тебя”

З Нінай Галіновай добра знаёмы ці не ўсе супрацоўнікі (ды і многія чытачы) перыядычных выданняў, якія не так даўно яшчэ фінансаваліся дзяржавай праз выдавецтва “Полымя”. А да іх, як вядома, адносіўся і штотыднёвік “Літаратура і мастацтва”. Ніна Аляксандраўна (па пашпарце Ніна Шайдылаўна) працавала галоўным бухгалтарам гэтага выдавецтва. Але стасункі тычыліся, зразумела, своечасовага атрымання зарплаты, ганарараў ды яшчэ разліку па камандзіроўках. І толькі нямногія ведалі, што Н. Галінова не толькі чалавек, які цудоўна разбіраецца ў “лічбах” (скончыла фінансава-эканамічны факультэт Беларускага дзяржаўнага інстытута народнай гаспадаркі, а ў 1993 годзе паспяхова завяршыла і вучобу на




факультэце міжнародных эканамічных адносін Усерасійскай акадэміі знешняга гандлю), але і захапляецца паэзіяй, больш таго — піша вершы. Праўда, па-руску, бо родам з сяла Вялікая Баравая, што ў Пермскай вобласці (Расія). Нарадзілася ў сям'і ваеннага ветурача, а на Беларусь пераехала ў 1970 годзе. Тады ж і развіталася з эканамічным факультэтам Пермскага універсітэта і перавялася ў наргас. І ўжо зусім ніхто не здагадваўся, што Ніна Аляксандраўна спрабуе пісаць і на роднай мове народа, які стаў ёй блізкім і дарагім, а сама Беларусь — другой радзімай. А што Н. Галінова цудоўна валодае і беларускай мовай, можна пераканацца, калі пазнаёміцца з кнігай паэзіі Ніны Аляксандраўны “С тобой и без тебя”, якая выйшла ў “Беларускім кнігазборы”. Вялікую дапамогу ў выданні гэтага зборніка аказаў грамадзянін Каралеўства Непал, доктар тэхнічных навук, прэзідэнт Асацыяцыі непальскіх прадпрымальнікаў у краінах СНД, віцэ-прэзідэнт Міжнароднай асацыяцыі выпускнікоў БПА, каардынатар Таварыства непала-беларускай дружбы Махата Упендра, які шмат садзейнічае развіццю культуры і спорту Беларусі. Праўда, у гэтай кніжцы беларускамоўныя вершы займаюць не так і шмат месца, але прыемна, што яны ўсё ж з'явіліся з-пад пяра гэтай абаяльнай і, несумненна, таленавітай жанчыны.

Вершы, як і ўвесь зборнік, пра тое, што асабліва хвалюе лірычную гераіню. Гэта — каханне, стасункі з блізкім чалавекам, але гэта і тыя трывогі, у прыватнасці, паслячарнобыльскія, якія непакояць кожнага з нас. Н. Галінова піша шчыра. Яе вершы — усплёск адкрытай і даверлівай душы ў той момант, калі нельга проста не пісаць:

*Раніца, а я твая абранніца,*
*І не месца скрусе і журбе.*
*Ды баіцца асакой параніцца*
*Ўся мая пяшчота да цябе...*

Гэтымі радкамі зборнік адкрываецца, яны нібы запеўка да яго, свайго роду эпіграф. Ды і ўвогуле лепшыя вершы кнігі — пра каханне, пра тую любоў, якая абавязкова — рана ці позна — чалавека напаткае, калі ён адкрыты для яе, калі верыць у лепшае і харошае. Гэта відаць і з вершапрысвячэння А. Д.:

*Голубые глаза —*
*беспокойный прибой,*
*Голубые глаза —*
*небосвод голубой.*
*Голубые глаза,*
*как все просто и мудро.*
*Будет с нами всегда*
*то воскресное утро.*
*Пробужденье от снов,*
*что пришли наяву.*
*Каждой клеточкой вновь*
*я, как прежде, живу.*

Кніга “С тобой и без тебя” напісана нібы на адным дыханні. І гэта лішняе пацвярджэнне, што яна не магла не напісацца, бо паэзія для Н. Галіновай з'яўляецца душэўнай і духоўнай патрэбай.

Лявон ЮРЧЫК

ПАЭЗІЯ

Аляксей РУСЕЦКІ



# “Спасціг загадку ўсю Скарына...”

## Біялагізмы лёсу

Вапняк ейны цвёрды ў маіх касцях
І ейная соль у жылах;
Мяне да радзімай зямлі ў прасцяг
Цягнула нябачная сіла.

*Мялоўка, Меляхоўка, Белы Камень,*
*Бялынкавічы, Белая Дуброва...*
*З бялявымі ўрадзіўся валасамі*
*у гэтым краі — чыстым і здаровым.*

*А колеры ўсе паглынае шэры,*
*зямля ля “зоны” змоўкла, пацямнела:*
*зыходзяць там цяпер пенсіянеры*
*у дол глыбокі ў арэоле белым.*

*Зямля здалёк турбуе чалавека,*
*бярэ за сэрца настальгічным болем,*
*зрушае процьму генаў і малекул*
*мацней, чым стрэлку компасную полюс...*

*Амаль спасціг загадку ўсю Скарына,*
*чым любыя людзям свае сялібы*
*і птушкам “свая гнёзды”, як звярыне*
*яры свае, “свая віры” ўсёй рыбе.*

*Вугор настырны з нарачанскай хвалі*
*паўзе, плыве ў Амерыку, і бусел*
*ляціць з-за мора праз чужую далеч*
*зноў да гнязда свайго на Беларусі.*

*Яшчэ трымае свет сіне-зялёны*
*усё суладдзе, сонечную цэльнасць,*
*ды множацца атруты, “зоны”, войны,*
*і мроіцца мне мёртвая пустэльня.*

## Трава

*Як узблісне з-пад снегу зямлі*
*вільготная скура —*
*прабіваецца густа трава-мурава,*
*неадольны жыцця спрадвечны*
*падмурак —*
*долаў, гораў трава.*

*Лес, які ўзняўся ў неба з яе калісьці,*
*толькі выдыхнуў першы*
*свой сонечны дух,*
*а наўкол травяное шыластае лісце*
*гадавы ўжо акрэсліла рух.*

*І бліскучае радасна жмурыцца вока*
*у авечкі й зайца, каня й зубра,*
*выскаляюцца іклы галоднага воўка,*
*прагай ежы гараць.*

*А трава дзесь паўзе*
*ужо праз выгары, ямы,*
*дзе віхрыўся агонь, грымеў трацiл,*
*зашывае траншэі, хавае шрамы,*
*каб наўкола зноў краскі цвілі.*

*І зямля набывае былую акрасу,*
*спаконвечны доўжыць жыцця працяг,*
*ды шкада — камень памяці з цягам часу*
*назаўжды захінае “трава забыцця”.*

## Заслаўская вуліца

*Часам, да кіёска “Саюздруку”*
*па двары праходжу раніцой*
*між муроў, па рабаціннi бруку,*
*вуліцы разбуранай, старой.*

*Тут не раз, бывала, верны справе,*
*грузавік грымеў мой па шашы,*
*дрогкі шлях адольваў у Заслаў'е,*
*шлях у летапісныя часы.*

*Вежы храмаў, гарадзішча схілы,*
*дзе калісь палалі кроў і гнеў,*
*ды курган Рагнедзінай магілы*
*сярод поля ў атачэнні дрэў...*

*Мне тады пад іхні шум зялёны,*
*нібы ў казцы, давялося ўчуць*
*словы лёсу полацкай князёўны:*
*“Не хачу рабыніча разуць...”*

*І жаніх вайной на Полацк рушыў,*
*мечам сек ся бацькоў, братоў;*
*гвалтаўнік, забойца стаўся мужам,*
*іхнюю пераступіўшы кроў.*

*Анідзе ў жыцці душа жанчыны*
*не зазнала гора, здзек такі*
*і тугу ў вачах бяссонных, сініх;*
*помсты нож быў выбіты з рукі.*

*Зруйнаваны той курган магілы*
*і блукае між муроў, машын*
*здань манашкі, чорны цень пахілы*
*на Заслаўскай, ля былой шашы.*

*Здань блукае ў мітуслівым гудзе,*
*мусібыць на плошчы гарадской,*
*у зацішку нейк яна набудзе*
*з каменю ці з бронзы супакой.*

*Ды не забываецца абраза,*
*гвалт і здзек на наскае зямлі,*
*хоць пра гэта, мабыць, не адразу,*
*не заўжды мы нагадаць маглі.*

*Так у нас вядзецца і па сёння,*
*а былі ж часіны... Не дарма ж*
*прашчурамі ўздыблена “Пагоня”*
*над нядоляй — годны сімвал наш.*

*Паводле падання жаніх Уладзімір Святаслававіч быў сынам рабыні.

## Ціхі момант

*І самотна й пуста ў ціхім доме,*
*у люстэрка гляну на сябе —*
*там паныла новы незнаёмец*
*нейкім сцяты клопатам цяпер.*

*Мо ўсплылі былыя крыўды й страты*
*і да скроняў падступае крыз,*
*а душою ўжо гультаяваты,*
*а зямля магнітам цягне ўніз.*

*Усміхнуўся сам сабе ў люстэрка —*
*вось і думкі бліснулі ў вачах:*
*мабыць, гэтак можна з паняздзелка*
*весела, нанова жыць пачаць.*

## Пра гэта ж...

*А даўней пра гэта*
*латынню пісалі*
*таямніча, што ёсць*
*Libido sexualis.*[1]

*А цяпер жа такое*
*не мае сэнсу —*
*плот афішкай гукае*
*на “курсы сексу”.*

*Склаў Авідзій гекзаметрам*
*словы “без грыму”,*
*як “брыдко заламіць”,*
*яго выгналі з Рыму.*

*А цяпер праз сям'ю*
*глядзі перадачы —*
*дама плача:*
*у сексе яе няўдачы...*

*Дзеці прагна глядзяць*
*пасля школы “цэлік”*
*на пахабнае буйства*
*аголеных целаў.*

*І цікуюць, напэўна,*
*дзядзькі з міністэрства:*
*а ці ёсць мастацтва,*
*ці ёсць майстэрства.*

*І цаляе “мастацтва”*
*заўжды такое*
*міма сэрца, туды —*
*ніжэй за нюэ.*

*І экраны штодня*
*“аздабляюцца” сексам,*
*як людскі брудны побыт*
*калісь інсектай.*[2]

*Сёння слепне*
*у лазерных промнях сорам,*
*наплывае на сэрца*
*пячорны морак.*

*“Геній чыстай красы”*
*не жыве між дваімі,*
*знік, як некалі ў тым*
*заняпалым Рыме.*

*Дык ратуй жа, Найвышні,*
*усіх, што прыйдуць*
*на Зямлю жыць — ратуй*
*ад распусты й СНІДу.*

[1] Палавы імпэт (лат.)
[2] Insekta — насякомыя (лат.)

ПРОЗА

— Ты, гніда бэнээфоўская, вякать научись!

За сваё жыццё Андрэй Рыбчык прывык да самых розных рэакцый на сваё беларускае слова — ад насмешліва-паблажлівых да пагардліва-абразлівых, ды на такую, здаецца, яшчэ не нарываўся. І толькі за тое, што папрасіў не надта націскаць, бо праз гэта хутчэй не будзе. Чарга па яйкі ля “Белых Рос” была даўжэзная, ён быў ужо недзе ў сярэдзіне, мо нават бліжэй да дзвярэй, чым да хваста, і ззаду, як заўжды ў чарзе, націскалі. Вось Андрэй і сказаў, павярнуўшыся назад:

— Калегі-пабрацімы, набяромся цярпення! І без націску будзем урэшце й мы першымі!

І ў адказ на гэта спаймаў “бэнээфоўскую гніду”!

Меў Андрэй Рыбчык натуру спакойную, нават памяркоўную, а за пражытыя гады ўжо й абцярпеўся, даўно зразумеў, што дурня ці хамулу часам лепш не чапаць. Ды ўсё ж не сцярпеў — сказаў таму, што дыхаў яму ў патыліцу:

— Вы — хам. Нават двойчы хам. Я не вякаю, а гавару на сваёй роднай мове. І на сваёй роднай зямлі, дарэчы!

— А мне плевать! Я бы вас всех, как гвоздей, по шляпку в землю! — выплюхнуў “калега і пабрацім” і нават паказаў (хоць і цеснавата было, не надта размахнуўся), як бы ён гэта зрабіў.

Андрэй Рыбчык уздыхнуў і, перасмыкнуўшы плячыма, сказаў:

— Ого! У зямлю, па самую плешку... Здарова! Нават і разабрацца цяжка, ці сваёй гадоўлі малатабоец, ці залётны птах...

— Чего? Ты, лох! Хочешь кривую морду иметь? Вякни еще!

Плюнуць бы на ўсё гэта Андрэю, але ж, мусіць, праўду кажуць, што ў чарзе — свая атмасфера, што ў чарзе — больш выбухова асяроддзе, чым на загадзя і свядома сабраным мітынгу. Гэтак яно ці не гэтак, але быццам штосьці сапраўды падцёбвала, пад'юджвала яго не маўчаць, хоць і задзірацца не думаў ані. Усё яшчэ спакойна гэтак, нібы нават з нейкім сумневам прамовіў:

— Залётны ўсё ж, пэўна. Дужа ваяўнічы. Госць, які й ногі на стол кладзе...

З усіх сказаных слоў заплечнік чамусьці найперш зачапіўся за “госця” і — узвіўся:

— Я, значит, гость? А ты — хозяин? Лох ты, а не хозяин! В г...е копаться только и умели! Всё мы, всю культуру мы привезли! Всё от нас... И мова ваша — наша, искореженная только... Слова те же, только окончания другие, деревенские, мужичьи...

Усё гэта і многае іншае Андрэй Рыбчык чуў у чэргах, у транспарце, на дачных сотках, на працы і ў двары дома шмат разоў, адбрэхваца яму даўно абрыдла, тым больш, што ад гэтага нічога не мянялася. Яго ўжо нічога і нішто не здзіўляла тут. Адно, за што па-ранейшаму ўсё яшчэ чаплялася думка, дык гэта рэакцыя на такія гаворкі тутэйшых людзей. Найперш меў на ўвазе сваіх равеснікаў-аднагодкаў ці трохі старэйшых-маладзейшых. Усе ж яны, ці, прынамсі, большасць з іх нарадзіліся і выраслі ў вёсках. У беларускіх вёсках. Пасляваенных, галодных і гаротных, спляжаных, здратаваных, абрабаваных да ніткі вайною і паваеннымі паборамі ўжо нібыта й сваіх, але тады яшчэ ўсё ж беларускіх вёсках. Не хаваюцца, прызнаюць гэта й самі. Дык чаму ж яны гэтак порстка выракаюцца бацькавага слова, матчынай песні? Няўжо ім лягчэй наварочваць язык на чужое? Мусіць жа, не лягчэй. Мусіць жа, кожнаму і кожнай даводзіцца трымаць сябе на заўсёдным кантролі, каб не ляпнуць свайго слоўка, каб не падумаў хто, што “дзярэўня”? А калі й падумае хто, дык — ці такая ўжо гэта вялікая абраза? Той, хто падумае гэтак, ці не сам — тая ж “дзярэўня”...

Нягож, як гора якое ў чалавека, дык тады не кантралюе сябе, не сочыць слоўка, галосіць, як душа падказвае. А душа якраз жа й падказвае свае родныя словы. З маленства знаныя, з малаком маці ўсмактаныя...

Чаму ж, думаў Андрэй Рыбчык, не жыць з імі, гэтым родным словам, пастаянна, штодня, паўсюды? Чым яно правінавацілася і перад кім, чаму зрабілася быццам горшым за тое ж рускае ці якое іншае? Англійскую мову адно перад адным вывучаюць, французскую, нямецкую, нават во польскую — і тую. Ягоная кроўная пляменніца па-беларуску ані разу свой язык не аскароміла, а па-польску ўжо пшэкае — дай Бог! Цярпеў-цярпеў, аднойчы ж спытаў, чаму гэтак. А яна, нябога, як адрэзала: “Бо польская мне патрэбна, я з палякамі справу маю, торг з імі вяду!” Правільна, нябожка! Усё

# ЯК СПЁКСЯ ПАПУАС

Мікола ГІЛЬ



АПАВЯДАННЕ-БЫЛЬ

чыстая праўда! Польская табе трэба, а беларуская, як казала адна артыстка па радыё, даліпан не трэба! Анідзе!..

Ну, няхай сабе так, пагаджаўся — не пагаджаўся Андрэй Рыбчык. Але ж гэта — сваё і, да ўсяго, за плячыма яго не насіць. Дык чаму ж ім пагарджаць, бэсціць, адмахвацца ад яго, як ад нечага брыдкага, агіднага? Іншыя гэтак не робяць. Эстонец які ці грузін, бывае, усё жыццё сярод чужых жыве і карыстаецца іхняю моваю, але ж каб на сваю штонебудзь плявузгнуў? Барані Бог! А калі хто іншы плявузгне — у бойку кінецца, давядзе, што толькі дурань можа благое казаць пра мову іншага народа, што такі чалавек калі й не дзікун, дык, прынамсі, недалёкі, папросту дурань, пацурбалак асінавы.

Нашым жа людзям на ўсё сваё сапраўды як наплюваць. Ніхто, ці вельмі мала хто заступіцца, паспрабуе запярэчыць нахабу і паскудніку. Цябе, свайго ж чалавека, нават, бывае, земляка будуць зневажаць, а то й здзекавацца, а ім — да лямпачкі! Яшчэ, чаго добрага, і дапамогуць. У лепшым выпадку — сарамліва прамоўчаць, не падаючы выгляду, што на месцы гэтага бедалагі маглі б быць і самі, калі б раптам нейкі корць ці хэнць пад'юджыў іх абазвацца сваім беларускім словам...

Вось і тут, у чарзе. Ніхто яго, Андрэя Рыбчыка, не падтрымаў. Хіба толькі адна жанчынка не схацела быць тутэйшай папіхачкай. Нечакана ўзяла ды ўрэзала "госцю" без аніякае дыпламатыі, папростаму:

— Памаўчаў бы, чалавеча, са сваёй культурай. Гэтак і мая суседка. Усё мне, пры нагодзе і без нагоды, дзяўбла: мы вам культуру прывезлі... Дык не сцярпела я. Задніцу ты сваю худую, кажу, сюды прывезла, а вунь якую ў нас разгадавала!.. Дык і ты, чалавеча, тое самае прывёз...

Зарагаталі ўсе ў чарзе. Дружна нават зарагаталі. І смех той стаўся быццам разрадкаю для ўсіх, у тым ліку для Андрэя і ягонага заплечніка-супярэчніка. "Госцю" — як дайшло нешта, зарвала пасля рогату людскога, і Андрэй трошкі быццам супакоіўся, нібы нават узрадаваўся таму, што знайшоў усё ж падтрымку. А людзі, спераду і ззаду, неўзабаве загаварылі зусім пра іншае — пра чэргі, пра цэны эльбрусаўскія, пра зіму доўгую наперадзе...

Быццам супакоіўся ўрэшце Андрэй, ды настрой усё ж прапаў. Стаяў моўчкі, зрэдку патоптваючыся трошкі наперад, ды ўжо чамусьці і яек тых расхацелася, хоць і абяцаў жонцы стаяць да канца, як абаронцы Брэсцкай крэпасці: без двух унармаваных дзесяткаў дадому не вяртацца. Не хацелася, ну вельмі ж не хацелася стаяць у чарзе побач з тым "культурным". Падумаў быў — каб памянянца месцамі, дык жа нехта, хто ведае, можа й заўпарціцца і, зрэшты, выглядаць гэта будзе задужа дэманстратыўна, а вытыркацца Андрэй не любіў і не ўмеў. А патоптвацца ўперад, чуючы яго за спіною, не мог. Урэшце, рашыўшыся, зрабіў крок улева, пасля яшчэ адзін — быццам выйсці пакурыць ці пазваніць. Выціснуўся з людской цеснаты, пастаяў трохі і — не вярнуўся назад, на сваё месца. Такой бяды, сказаў сам сабе, мо на Камароўцы пастаіць ды купіць яек, калі ўжо гэтак абяцаў жонцы. Сказаў дый пайшоў на тую Камароўку...

У маленстве і дзяцінстве не ведаў Андрэй Рыбчык аніякіх комплексаў. Быў, як усе хлопцы-равеснікі, з якімі разам ганяў наранкі кароў, бегаў у грыбы і ягады, ладзіў хлапечыя гульні ў "нашых" і "немцаў" на аселіцы. Хоць, калі праўдзе, нават трошкі вылучаўся між хлопцаў. Не ростам ці сілаю — быў якраз слабаком і маларослым: чытаў больш за іх. Старэйшы Андрэеў брат вучыўся ў Мінску ў педвучылішчы, а пасля і ўва універсітэце, і прывозіў дадому кніжкі. Шмат кніжак. Маці, бывала, ужо й сварылася на яго: "Цябе, дзіцятка, не кармі, а дай кніжку! Апошнюю капейчыну, якой няма, на яе аддаеш!" Брат не спрачаўся, адмоўчваўся, але кніжкі ўсё адно купляў. Гледзячы на яго, прыхвоціўся да чытання і Андрэй. А прачытаўшы тую ці іншую кніжку, пераказваў змест хлопцам, калі яны збіраліся разам дзе-небудзь на ўгрэве паблізу палеглых на жуйку кароў. Праз гэта, пэўна, хлопцы й запаважалі Андрэя. Прынамсі, не крыўдзілі і не здзекаваліся, як са слабейшага, а наадварот, неяк па-свойму аберагалі і заступаліся, калі хто й спрабаваў крыўдзіць.

І ў школе Андрэеў аўтарытэт быў высокі. Вучыўся ён лепш за многіх, але носа не задзіраў, даваў спісваць задачкі, падказваў, як напісаць тое ці іншае слова на ўроках і роднай мовы, і рускай.

У сваёй вясковай сямігодцы ніякіх эксцэсаў з загадчыкам ці настаўнікамі ў Андрэя не было. Здаралася, вядома, што і яго прыводзілі ў настаўніцкую і чыталі там натацыі, але ж каго туды, скажыце, не прыводзілі? Які ж ты хлапец, калі ні разу не трапляў у настаўніцкую і не выслухоўваў там розных ушчуванняў, дакораў і пагроз! А вось у дзевятым класе здарылася ўжо нешта зусім іншае. Школьным начальствам падавалася тое ці не палітычнай акцыяй. Андрэй Рыбчык тады здорава ператросся.

Пасля сямігодкі ён пайшоў у восьмы клас — адзін з усяе вясковае хлапечае і дзявоцкае кампаніі. За вучобу трэба было плаціць — ажно сто пяцьдзесят рублёў. А дзе іх узяць? Таму і аказаўся Андрэй у восьмым класе адзін з іхняе школы. Бацька і маці наважыліся яго вучыць далей — прыклад падаваў брат.

Сярэдняя школа, як і сямігодка, была тады цалкам беларускай. Руская мова гучала толькі на ўроках рускай мовы і літаратуры ды яшчэ на вечарах, на палітінфармацыях і сходах, калі чыталіся вершы ці што-небудзь з газеты "Сталинская молодежь". А тут раптам у дзявятым класе да іх прыйшла новая хімічка і пачала весці ўрок па-руску. Яны ўсе, а можа, і не ўсе, але многія, здзівіліся: як жа яны будуць вучыцца? Падручнікі — па-беларуску, а настаўніца расказвае-тлумачыць матэрыял па-руску і па-руску ж апытвае? Андрэй вазьмі аднойчы дый скажы:

— Мы не ўсё разумеем, што вы гаворыце, Людміла Георгіеўна.

Настаўніца рукамі ўсплеснула:

— Дорогой мой, я вас вообще, можно сказать, не понимаю. Я впервые столкнулась с белорусским языком. Я родилась, росла и училась в древнем русском городе Муроме!..

Яны не чулі пра свае Друцк, Крэва ці Лоск, а пра Мурам — чулі, але што з таго? Ім што, услед за новаю настаўніцаю таксама ганарыцца старажытным рускім горадам Мурамам, з якога родам слаўны рускі асілак Ілья Мурамец?

А неўзабаве яны сарвалі ўрок хіміі. Незнарок. Зусім не думалі, пэўна, даставаць, як цяпер ягоны ўнук кажа, тую хімічку са старажытнага Мурама. Але атрымалася гэтак, што сарвалі акурат яе ўрок. І хтосьці дадумаўся, што зроблена гэта няйначай у знак пратэсту супраць рускай мовы новай хімічкі. Нехта сказаў слова "нацыяналісты". Ці не Андрэй Рыбчык завадатар? Ён жа нешта такое гаварыў?.. Вось тады ён і спалохаўся. Бацька ж з маткаю не даруюць, калі яго вытураць са школы!

Дзякаваць Богу, абышлося. Хімічку перавялі неўзабаве ў райцэнтр, у рускую школу, а ім выкладаць хімію прызначылі (казалі — упрасілі) жонку галоўнага інжынера МТС, аграномку па спецыяльнасці. Але ж бясследна тое не прайшло. Андрэй Рыбчык ці не ўпершыню сур'ёзна задумаўся над тым, што вось ён, ягоныя бацькі, браты і сёстры, усе аднавяскоўцы, аднакласнікі, усе тутэйшыя людзі — беларусы, а між тым нехта, не пытаючыся ў іх, распараджаецца іхнімі лёсамі і прысылае сюды настаўніцу з далёкага рускага Мурама. Задумаўся, хоць і не ведаў тады яшчэ, што тое ж самае рабілася і даўней, — скажам, пасля далучэння Беларусі да Расіі, асабліва ж — пасля разгрому паўстання пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага...

А са школай ён усё ж развітаўся: не было чым плаціць. Сышоў, не скончыўшы таго ж дзевятага класа. Бацькаў не то знаёмец, не то далёкі сваяк дапамог Андрэю ўладкавацца вучнем шліфоўшчыка ў механічны цэх Мінскага станкабудаўнічага завода імя Кірава. Пасля трох месяцаў вучнёўства пачаў рабіць самастойна. Жыў на кватэры яшчэ з адным хлопцам, таксама шліфоўшчыкам з іхняга ж цэха.

Пакрысе асвойтаўся, прыжыўся, стаў гараджанінам. Адно — упарта заставаўся беларусам. У цэху праходу не давалі: "Ты, хлапец, гэтак наўмысна?" — "Як — гэтак?" — "Па-вясковаму заўсёды!" — "Не па-вясковаму, а па-беларуску!" Ахрысцілі Беларусам. Ніхто інакш і не называў: "Хай Беларус зробіць!.. Дайце гэтыя балванкі Беларусу... Беларус не запорыць, ён дападны..."

Прыязджаў сяды-тады дадому. Матчыны равесніцы-суседкі — цётка Марыля, цётка Ганна, Зося — штораз здзіўляліся: "Ай, Андрэй, ты як за ўсіх мудрэй! Гэта ж столькі часу ў Мінску, а прыедзеш, дык з намі па-нашаму, гэтак, як і мы. Ці й праўда не ўмееш па-гарадскому?" Ён пасміхваўся, які і яны: "Не ўмею! Дурны, як бот!" Цётка Зося адмахвалася: "А хай цябе!" А цётка Ганна, памужчынску грубаватая, якая не лезла ў кішэню па слова, кідала мацюка: "Ат, маць тваю ў с...у, ён яшчэ й здзекуецца..."

Цяпер, прыгадаўшы тое, ён з журбою адзначыў, што даўно ўжо няма і маці, і суседак — яе равесніц, што і сам ён ужо пенсіянер-задрыпанец з жабрачай пенсіяй ці не меншай пакупной здольнасці, чым колішняя калгасная матчына пенсія...

А ў арміі яго ўжо канчаткова абмянушылі "нацыяналістам". Служыў ён у Калінінскай вобласці, у невялікім лясным гарнізоне, а папраўдзе — "на точке". Хлопцы былі пераважна рускія, а яшчэ ўкраінцы і беларусы, ды пару літоўцаў і ўзбек. Літоўцы адпачатку хадзілі ў "нацыяналістах". А як жа: між сабою гаварылі толькі па-свойму. Двух-трох украінцаў сяды-тады хрысцілі тым жа прозвішчам — яны таксама трымаліся адзін аднаго і па-за службай "розмовляли своїю мовою". А тут, на ўсіхнае здзіўленне, і сярод беларусаў аказаўся адзін "нацыяналіст": атрымлівае з дому беларускія газеты і часопісы! Андрэю брат прысылаў час ад часу "Чырвоную змену" і "Беларусь". Здзекаваліся — як маглі і ўмелі. А найболей — капітан Рыбачук, па пашпарце беларус, з Брэстчыны родам. Капітана Андрэй проста ўзненавідзеў. Асабліва за тое, што насіў падобнае прозвішча. Спачатку капітан загаворваў па-добраму, амаль па-брацку: "Брось, земляче, баловство это! Не выставляй напоказ своей глупости. Ведь все равно перейдешь на русский! Лучше раньше, чем позже. Себе же вредишь..." А пасля пры кожным выпадку зачапляў адным і тым жа: "Ну что, все дурака валяешь?"

Ды чым больш смяяліся і здзекаваліся, тым большая ўпартасць авалодвала Андрэем Рыбчыкам. "Але хоць колькі жыць тут буду, як будзе век тут мой вялік, ніколі, браткі, не забуду, што чалавек я, хоць мужык..." Бацька часта паўтараў гэтыя купалаўскія словы. Паўтараў, праўда, трошкі з іншае нагоды, прынамсі — не з прычыны нацыянальнай крыўды ці знявагі. Маўляў, чалавек я, а значыць, нішто чалавечае мне не чужое. Андрэй жа спалучыў мужыка з беларусам, і ў яго выходзіла гэтак: "Ніколі, браткі, не забуду, што беларус я, хоць мужык". І чым больш яны стараліся даказаць адваротнае, тым больш упарта сцвярджаў сябе беларусам. І сцвердзіць гэта можна было толькі адным — мовай. Вы смяецеся? Смейцеся! Яшчэ невядома, хто будзе смяяцца апошнім. Паступова прывучыў сябе не рэагаваць і не адказваць на крыўды і пасмешкі.

Армейскай службы Андрэй Рыбчык не любіў. Шкадаваў тых трох гадоў, якія вымушаны быў насіць шынель і бушлат. Але шкадаваў бы куды больш, калі б не адна акалічнасць. Як ні дзіўна, але акурат армія змусіла яго па-сапраўднаму задумацца над тым, хто ён і адкуль. Былі за тыя армейскія гады і хвіліны нейкай добрай паразумеласці з саслужыўцамі, часцей за ўсё — у хвіліны адпачынку, у дні свят, калі ўсе яны мелі сякую-такую, па-сённяшняму кажучы, адвязку. Калі пры вогнішчы ці ў казарме, пакінутыя на гадзіну-другую без пільнага начальніцкага кантролю, аддаваліся самі сабе. Тады яны спявалі песні, успаміналі дом, дзяўчат, школу. І Рыбчык расчульваўся, калі ўзбек спяваў сваю песню, а ўкраінец — сваю, калі яны апавядалі пра тыя ці іншыя свае, адметныя ад іншых, звычаі, абрады, стравы-пачастункі. А беларусы? А беларусы пры гэтым часцей за ўсё маўчалі. Праспяваць што-небудзь сваё? Яны адно маглі сяктак праспяваць агульнавядомую савецкую песню. Як у вас жэняцца, як хлопцы з дзеўкамі знаёмяцца, хто першы ў каханні прызнаецца, які пасаг за дзеўкаю даюць? Беларусы пацiскалі плячыма: "Ат, як ва ўсіх... Як усюды... Як усе..." Вось тут Андрэй Рыбчык і пачаў задумвацца: "Чаму ж гэтак? Чаму яго, які нарадзіўся і вырас на беларускай зямлі, не навучылі ні беларускім песням, ні беларускім звычаям і абрадам? Хто ў гэтым вінаваты?"

Пра гэта ён нават даўмеўся напісаць ліст у "Чырвоную змену", і пасля ў газеце распачалася цэлая дыскусія, і ягонае імя скланялася з нумара ў нумар, і яму было праз тое і прыемна, і непрыемна. Непрыемна ад таго, што, не хочучы, выпнуўся, вылез ледзь не ў героі. А прыемна ад таго, што, аказваецца, ён не адзіны, хто гэтак думае, што многія таксама задаюць сабе падобныя пытанні. А калі гэтак, дык, значыць, ён не памыляецца і паводзіць сябе правільна. Саромецца самога факта, што собіла нарадзіцца беларусам, не трэба. Наадварот, трэба сцвярджаць перад іншымі сваю беларускую годнасць, не зважаючы на кпіны і насмешкі...

Пасля арміі ён вярнуўся на завод. Меркаваў пайсці ў вячэрнюю школу, але пасля перадумаў і паступіў у радыётэхнічны тэхнікум — на вячэрняе аддзяленне. Там і напаткаў Алку. Улюбіўся — як хлапчук. Зрэшты, акурат як хлапчук, бо, лічы, упершыню. Было нешта накшталт кахання ў школе, але было — мо замоцна сказана. Хутчэй — як у казцы: па вуснах цякло, а ў роце не было. А тут па вушы ўкляпаўся, месца сабе не знаходзіў. Алка была мінчанка, бацька — вайсковец, ці не ў палкоўніцкім званні. Аднак жа яна не корчыла з сябе царэўну ці князёўну, была кампанейскай, завадатаркай паходаў у тэатры, на выстаўкі, лыжныя прагулкі. І ўсё ў яе атрымлівалася з ходу, як само сабою, без высілкаў. Для Андрэя Алка сталася ўвасабленнем самой дасканаласці — і дзявочай, і чалавечай. Зусім па-хлапечы багатварыў яе, яна — не раўня нікому, каго дасюль сустракаў. І праз гэта яшчэ больш адчуваў сваю вясковую нехлямяжасць, няўпэўненасць, няўменне сказаць слова разумнае і дарэчы, недастатковасць сваёй выхаванасці і адсутнасць культуры паводзін, рухаў, учынкаў, манер. І пазіраў на Алку ўлюбёнымі вачыма здалёк, цішком, каб не ўгледзелі таго ні аднакурснікі, ні яна сама, баючыся каб чым-небудзь выдаць сябе.

Хадзіў гэткім закаханым Вертэрам ці не тры гады, ажно пакуль неяк перад Новым годам, калі іхняя група наважылася сустрэць яго разам, ён, няйначай пад уздзеяннем выпітай чаркі, асмеліўся падысці да Алкі і бухнуць ёй з ходу, без аніякай, як кажуць, падрыхтоўкі, што ён даўно, з першага ж курса любіць яе.

*(Працяг на стар. 14—15)*

## *"Зоркі" першай музычнай школы*

**Праграма справаздачнага філарманічнага канцэрта вучняў 1-й мінскай музычнай школы імя Л. П. Александроўскай уражвала. У ёй былі прадстаўлены самыя розныя інструменты. Свае мастацтва паказалі лаўрэат Рэспубліканскага конкурсу імя І. Жыновіча А. Дзмітровіч (клас Т. Дарасевай), якая выканала на цымбалах беларускую народную песню "Ці ўсё ж тыя чобаты", лаўрэат фестывалю юных піяністаў "Вясновыя сустрэчы" К. Матох (клас А. Грыгорневай), якая выканала 10-ую венгерскую рапсодыю Ф. Ліста. Нельга не адзначыць выступленне лаўрэата рэспубліканскага конкурсу "Я граю джаз", лаўрэата гарадскога тура Міжнароднага конкурсу камерных ансамбляў імя М. Агінскага Ф. Малікіна (саксафон) і лаўрэата гарадскога тура гэтага конкурсу М. Паланевіч (фартэпіяна), якія выканалі 3-ю частку санаты Э. Баха (юныя выканаўцы прадстаўляюць клас лаўрэата рэспубліканскага агляду-конкурсу метадычных і творчых работ школ мастацтваў Г. Косцінай і выкладчыка Б. Малярэнкі).**

**Эфектным было выступленне лаўрэата першага тэлевізійнага конкурсу-фестывалю "Усе мы родам з дзяцінства" Узорнага ансамбля духавых інструментаў "Рым-ШОТ" пад кіраўніцтвам В. Дарыенкі. Асаблівае ўражанне зрабіла выступленне лаўрэата IV фестывалю праваслаўных песняспеваў (пераможцы конкурсу ў катэгорыі свецкіх дзіцячых хораў), лаўрэата першай прэміі I рэспубліканскага фестывалю народнай творчасці "Беларусь — мая песня" і II Міжнароднага маладзёжнага форуму музычных культур Беларусі "Квецень сонечных промняў" Узорнага хору "Тоніка" (мастацкі кіраўнік В. Клундук). Хор на высокім прафесійным узроўні спяваў акапэльна "Ave Maria" Д. Качыні, а ў суправаджэнні духавога аркестра "Ліра" пад кіраўніцтвам Б. Чудакова — "Ave Maria" І. Лучанка.**

**Вера КРОЗ**

## *Вітаў узрушаны Парыж...*



**Нядаўна з Парыжа вярнуўся "дэсант" нашых музыкантаў. Вучні і выкладчыкі Рэспубліканскага каледжа пры Беларускай акадэміі музыкі далі некалькі канцэртаў у сталіцы Францыі. Лепшыя настаўнікі каледжа скрыпачка Лілія Умнова, віяланчэліст і дырыжор Уладзімір Перлін правялі майстаркласы для парыжскіх музыкантаў. А Камерны аркестр пра кіраўніцтвам У. Перліна, юныя салісты — віяланчэлісты Аляксандр Дулаў, Аляксей Кісялёў, Уладзімір Сінькевіч, Георгій Анішчанка, скрыпач Алег Яцына, кантрабасіст Андрэй Шынкевіч і цымбалістка Алеся Шагун пакарылі сваім майстэрствам тамтэйшых меламанаў.**

**Гэтыя музычныя сустрэчы адбыліся ў адказ на сёлетні сакавіцкі візіт парыжскіх музыкантаў у Мінск. Як адзначыў дырэктар каледжа Уладзімір Кузьменка, які ўзначальваў наш "музычны дэсант", вялікую дапамогу ў арганізацыі паездкі аказалі Міністэрства культуры Беларусі, "Транс аэратур" на чале з генеральным дырэктарам Мікалаем Давыдавым і аташэ па культуры пасольства Францыі ў Беларусі Франсуа Ларан.**

**Аляксандр МІЛЬТО**

*На здымку: Камерны аркестр каледжа пры Беларускай акадэміі музыкі пад кіраўніцтвам заслужанага артыста У. ПЕРЛІНА; саліст — Аляксандр ДУЛАЎ.*

*Фота К. ДРОБАВА*

ТВОРЧАСЦЬ

# Чужая памяць Каміля Камала

З году ў год, з дня ў дзень множыцца, шырыцца, багацее чалавечы вопыт. Зробленае, адкрытае папярэднікамі становіцца фундаментам, які трымае і сённяшняга складу зруб. Так, пэўна ж, і ў мастацтве. Думкі, уражанні, светабачанне тых, хто прыйшоў раней, трываляць, гартуюць у пераканannях, дазваляюць зрабіць упэўнены крок наперад. Здараецца, сёй-той імкнецца пераступіць традыцыю, абысці ўвагай здзейсненае за вякі. Часцей такіх ігракоў спатыкае няўдача. Але і ў адмаўленні традыцыі — таксама апраўданы пошук.

Здаецца, гэткім шляхам ідзе і шукальнік нязведанага космасу, сцвярджальнік нябесная быцця на зямлі мастак Каміль Камал.

Мне хораша і ўтульна сярод яго карцін, сярод палотнаў, здзейсненых як вынік адкрыцця, пераасэнсавання ўсяго ранейшага, дагэтуль засведчанага. Азербайджанец па нацыянальнасці, чалавек усходняга менталітэту (маю на ўвазе не толькі веданне Камалам усходняй культуры, але і прысутнасць у ім як у асобе трывалага духоўнага стрыжня), ён стварае сваімі работамі нейкую новую прастору. Горы і неба маюць сваю выразную злучанасць. Горы караванам сваім сыходзяць у бясконцасць, а часам і змрочную сінечу (гэта ўжо залежыць ад настрою ды, мусіць, душэўнага стану творцы) гэтак натуральна, што свет, убачаны ім, падаецца сапраўды непадзельным, цэласным.

Тры школы, тры прафесійныя прасторы мелі мастака сваім вучнем. Бакінскае мастацкае вучылішча імя Азім-задэ (заўважым, і нават туды будучы майстра прыйшоў далёка не падлеткам, у 1977 годзе, калі кайстра жыцця сабрала ўжо 23 гады. Дадайце 4 гады вучобы) — пачаткі прафесійнай, сталай адукацыі. Следам — факультэт жывапісу ў майстэрні Ясея Маісеенкі ў інстытуце імя Рэпіна Акадэміі мастацтваў у Санкт-Пецярбурзе. Калі размаўляеш з Камілем і пытаешся пра расійскую "паўночную сталіцу", заўсёды адказ пачынаецца з аднаго:

— Ленінград, Піцер — гэта асаблівы свет. Уражанне такое, што тут, у межах аднаго горада, сабралі мастацтва ўсіх, самых адрозных паміж сабой, часам досыць палярных, традыцый і школ. І хоць прабыў там, у Рэпінскім інстытуце, нядоўга, адчуваю, што менавіта там адкрыў для себя і такую ісціну: мастак тады можа сябе адчуць стваральнікам, тады можа пайсці па шляху сапраўдных адкрыццяў, калі ён жыве неспатольнай прагай спасціжэння свету ў розных яго праявах.

З 1984-га мастак — у Беларусі. Вучоба ў Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце пад кіраўніцтвам Гаўрылы Вашчанкі і Мая Данцыга. Азербайджан, Санкт-Пецярбург, Беларусь... Судакрананне тэрыторый, асяродкаў, кожны з якіх сам па сабе здольны сфарміраваць, здавалася б, цэласны свет, зрабіць яго такім багатым, што і самы вялікі талент здолее сілкавацца да скону. А Камілю Камалу і гэтага мала (у адным са сваіх зваротаў да чытача ён засведчыў: "Я ведаю адно, што люблю жыццё, сваіх бацькоў, братоў, сяцёр, сяброў і ўсё Чалавецтва. Гэта — патаемная таямніца і мэта маёй творчасці..."), бо рознымі сувязямі, рознымі пуцявінамі пераплецены ў адбітым, адлюстраваным мастакоўскай свядомасцю Каўказ і Усход, Грузія, Азербайджан і Беларусь, горад і вёска, убачанае і падсвядомае, асэнсаванае цалкам і падгледжанае імгненнай сустрэчай, адчутае кароткім дотыкам.



Ёсць у Каміля Камала даўняя, як па сённяшнім часе, серыя — "Усход". Работы, створаныя напрыканцы 1980-х — на пачатку 1990-х, падаюцца пэўным пераходным этапам у творчасці майстра, якога часам карціць назваць азербайджанскім мастаком (па нацыянальнасці, па прыярытэтах, якія сам творца вызначае ў сваіх асветніцкіх шуканнях) ці грузінскім (нарадзіўся ж у Грузіі)... І столькі гадоў у Беларусі!.. Карціны "Усходу" — і лірыка, і меладраматызм у адначассе. Нават статычныя, на першы погляд, "Паэт" і "Прыгажуня" — на самай справе рэчы, якія нібыта нешта падагульняюць. Праўда, "Паэт" чамусьці ўвайшоў у цыкл "Гульні на краі зямлі". Мне здаецца, яны блізкія, суседскія палотны — "Паэт" і "Прыгажуня". Мастак дынамізм, рух абуджае спярша ў нас як гледачах, дае магчымасць, прастору для сумненняў, для развагі. Шлях да пазнання праз сумненні, недавер, перажыванні — шлях небяспечны нават для рэалістычнага мастацтва. Вядомы класічны прыклад, калі ў непаразуменні сутыкнуліся і ледзьве не разышліся прафесійны глядач і прафесійны мастак. Сэнс непаразумення відаць вось з гэтага ліста Верашчагіна, адрасаванага Паўлу Міхайлавічу Траццякову: "...відаць, што мы з Вамі разыходзімся крыху ў ацэнцы маіх работ і вельмі многа ў іх накірунку. Перада мною, як перад мастаком Вайна, і яе я б'ю, колькі ў мяне ёсць сіл; ці моцныя, ці дзейсныя мае ўдары — гэта другое пытанне, пытанне майго таленту, але я б'ю з размаху і без шкадавання. Вас жа, пэўна, займае не гэтулькі ўвогуле сусветная ідэя вайны, колькі яе прыватнасці, напрыклад, у гэтым выпадку "ахвяры рускага народа, бліскучыя подзвігі рускіх салдат і некаторых асоб і г. д."

"Усход" Каміля Камала — край, відавочна, па пераканanні мастака, парадаснова ўсіх цывілізацый, пачатак дарогі ў шырокі свет. А яшчэ — і фантазіі, падсвядомыя гульні, сны творцы. Паказальная ў гэтым плане — карціна "Вершы паэта". Як і ў многіх іншых выпадках, мастак, жадаючы данесці, максімальна давесці задуманае да гледача, шчыруе і ў выбары колераў, у іх збіранні. Досыць часта, часам, на першы погляд, даволі нечакана, мастацкая дзея ці трымаецца цалкам, зніто ўваецца, ці падтрымліваецца сінім альбо блакітным колерамі. Але разам з тым



ІМПРЭЗЫ

# І доўга будуць успамінаць...

У пяты раз гасцінная гомельская зямля прымала ў сябе "Пеўчую акадэмію". Гэтая імпрэза з'явілася дзякуючы намаганням двух апантаных людзей — Э. Кірыленкі, дырэктара Гомельскага каледжа мастацтваў імя Н. Ф. Сакалоўскага і вядомага музыказнаўцы, дацэнта Беларускай акадэміі музыкі М. Шыманскага. У свой час Эдуард Васільевіч перажываў: маўляў, у Віцебску — "Славянскі базар", у Магілёве — "Магутны Божа", а мы чым горшыя. Тады М. Шыманскі заўважыў: "Гомельшчына — край з багатымі пеўчымі традыцыямі, дзе ж, як не тут, ствараць фестываль харавой музыкі".

Сказана — зроблена: цяпер напярэдадні вясны ў Гомель збіраюцца харавыя калектывы, каб "сябе паказаць ды іншых паглядзець", каб прапагандаваць беларускую і сусветную музыку, каб спазнаваць новае ў мастацтве.

Пятую "Пеўчую акадэмію" ганаравалі сваёй прысутнасцю рэктар Беларускай акадэміі музыкі, прафесар М. Казінец, знаны кампазітар У. Буднік. Прывітальную тэлеграму даслаў старшыня Саюза кампазітараў І. Лучанок. Першы юбілей "Пеўчай акадэміі" віталі кіраўнікі вобласці і Гомеля.

Ва ўступным слове Э. Кірыленка, выказаўшы падзяку ўладам за матэрыяльную падтрымку "Пеўчай акадэміі", падкрэсліў вялікае значэнне гэтага фестывалю для навучэнцаў, як у вучэбным, так і ў мастацкім сэнсе: "Ён дае магчымасць слухаць выдатныя калектывы, сустракацца са знакамітымі музыкантамі і педагогамі".

Адна з такіх сустрэч запомніцца гамяльчанам надоўга. Сустрэчу з кампазітарам А. Мдзівані, лаўрэатам дзяржаўных прэмій, прафесарам Беларускай акадэміі музыкі арганізаваў і правёў музыказнаўца М. Шыманскі. Прысутныя пазнаёміліся з некалькімі харавымі творамі А. Мдзівані, што адпавядала тэме пятай "Пеўчай акадэміі": "Музычная культура Беларусі на мяжы другога і трэцяга тысячагоддзяў".

Кампазітар аказаўся вельмі цікавым чалавекам, навучэнцы і педагогі каледжа слухалі яго, стаіўшы дыханне. Высветлілася, што вельмі значнае для А. Мдзівані слова — "Любіць". "Калі вы нікога не любіце, вам не месца ў маім класе", - кажа ён сваім вучням. Любоўю прасякнута яго сімфонія з хорам "Паўночныя кветкі", напісаная на вершы Авідзія, Жукоўскага, Бальмонта. Хаця і ў недасканалым запісе, але слухачы ў поўнай меры ацанілі мастацкую якасць твора.

"Пеўчая акадэмія" — гэта перш за ўсё канцэрты. Сёлета выступілі восем калектываў — тры прафесійныя, тры самадзейныя хоры і два вакальна-харэаграфічныя ансамблі. Адкрываў "Пеўчую акадэмію", паводле традыцыі, Акадэмічны народны хор імя Г. Цітовіча пад кіраўніцтвам прафесара Міхася Дрынеўскага. Гэта заўсёды яркае і жыццярадаснае відовішча! Асаблівы поспех меў харэаграфічны малюнак "Дзяўчына з Палес-





гэтая сінеча, гэты блакіт — зусім не колер абмежавання. А наадварот — сцяжынка ці нават вялікі шлях, пуцявіна ў нябесную далячынь, да пошукаў загадкі, вялікай ідэі-прыдумкі мастака, яго асабістых сумненняў і спадзяванняў.

З тых, ранейшых, карцін Каміля Камала найболей пра колер, яго праўду, яго месца ў памкненні мастака сказаць галоўнае, найвыразней данесці ўсю палітру ўбачанага, задуманага, пачынаеш разважаць, узіраючыся ў "Лёс любімага горада" (усё тая ж серыя "Усход"). Адзінокая скала, якая вырвалася ў жорсткае паднябессе. Што гэта — раніца альбо надвячорак?.. І адкуль, з якога свету вярблюды на яе, скалы, вяршыні?... Мяне як гледача, "Лёс любімага горада" заводзіць у пустыню. Мо менавіта вярблюды, якія, здаецца, вось-вось вырвуцца з ненатуральнай вышыні, завядуць у бязводную пустыню. Туды, дзе абавязковай прыкметай любога падарожжа будзе неспатольная смага. Але і другое важна — пустыня прыгожая сваёй някідкасцю, маўклівасцю і адвечнай існасцю. "Лёс любімага горада" — таксама з прасторай някідкай, але прыцягальнай, магнетызуючай.

Апошнія работы Каміля Камала яшчэ болей акрэслілі творчыя шуканні мастака. У адных работах сумяшчаюцца, зліваюцца ў цэлую істоту (а мо ў асобу? гэта ж, відавочна, спрацоўвае мастакоўскае "я") чалавек і звер, людзі і звяры. Ды і звяры прыходзяць зусім не з рэальнага жыцця. Ізноў — фантазіі, ізноў — прыдуманы свет, але разам з тым неўпрыкмет глядацкімі пачуццямі кіруе неспатольнае разуменне: якраз такім незразумелым і цэласным з'яўляецца Свет.

Асобны напрамак творчасці Камала ў апошнія год-два — кніжная графіка. Як прыклад — кнігі Цімура Зульфікарава, Ганада Чарказяна, выдадзеныя летась у Мінску з ілюстрацыямі Камала. Зараз мастак працуе над афармленнем зборніка паэзіі Алан Бека. Але і пра гэта, і пра ўвагу Камала да малых формаў скульптуры ў гліне і метале — размова яшчэ наперадзе.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

*На здымках: работы К. Камала.*

*Фота Генадзя ЖЫНКОВА*

ся", прасякнуты народным гумарам. Хор спяваў народныя песні, духоўныя творы...

Мінскі абласны камерны хор і аркестр "Sonorus" (мастацкі кіраўнік А. Шут) прапанаваў слухачам малавядомую "Пастаральную імшу" А. Дыябелі. Камерны хор Гомельскай абласной філармоніі (мастацкі кіраўнік А. Сакалова) таксама ўключыў у сваё выступленне духоўную музыку.

У розных навучальных установах горада можна было паслухаць народны хор Гомельскага каледжа мастацтваў імя Н. Ф. Сакалоўскага (мастацкі кіраўнік Н. Карпушэнка), народны ансамбль песні і музыкі "Радуніца" (мастацкі кіраўнік М. Туравец), акадэмічны хор каледжа мастацтваў імя Н. Ф. Сакалоўскага пад кіраўніцтвам А. Сабалеўскай, вакальна-харэаграфічны ансамбль "Гомій" (мастацкі кіраўнік П. Свердлаў).

Традыцыйны складнік "Пеўчай акадэміі" — навукова-метадычная канферэнцыя, якую праводзяць выкладчыкі Беларускай акадэміі музыкі, Гомельскага каледжа мастацтваў (прадметная камісія "Тэорыя музыкі", старшыня В. Дворава), Гомельскага дзяржаўнага універсітэта імя Ф. Скарыны. З паведамленнямі, дакладамі выступілі Р. Сергіенка, Т. Ляшчэня, М. Шыманскі, В. Новак, І. Бублікава, Л. Івашкоў. Да таго ж, упершыню быў праведзены навукова-метадычны семінар, прысвечаны праблемам удасканалення вывучэння беларускай музыкі ў навучальных установах.

Адкрытыя ўрокі вакалу правялі аўтарытэтныя спецыялісты Любоў Каспорская, Леанід Івашкоў, Людміла Васільчанка. Як заўсёды цікава прайшлі майстаркласы харавога дырыжыравання маэстра Віктара Роўды. А заняткі дацэнта БАМ Валерыя Аўраменкі супалі з прыемнай падзеяй: ён сустрэў на роднай Гомельшчыне свой 60-гадовы юбілей.

Завяршыла "Пеўчую акадэмію" выступленне Хору Беларускай акадэміі музыкі пад кіраўніцтвам В. Роўды — ужо традыцыя. Віктар Уладзіміравіч — цудоўны "рэжысёр" гэтага "спектакля". І яго відавочцы доўга яшчэ будуць успамінаць і танга, якое выканалі на сцэне Гомельскага каледжа мастацтваў Л. Каспорская і В. Роўда. І — мноства вясёлых маладых твараў: на сцэне, у зале...

**В. АЛЬШАНІК**
**выкладчык Гомельскага каледжа мастацтваў імя Н. Ф. Сакалоўскага**

МУЗЫКА

# Поспех у Кіеве

На дошцы аб'яў Рэспубліканскага каледжа пры Беларускай акадэміі музыкі — свежае паведамленне: вучань 11 класа Аляксандр Дзенісюк (клас дацэнта І. Брычыкава) стаў лаўрэатам трэцяй прэміі Усеўкраінскага адкрытага конкурсу кларнетыстаў "Сельмер—Парыж на Украіне" ў Кіеве. Юнак выступаў у сярэдняй узроставай групе — да 17 гадоў. У двух турах Аляксандр выконваў творы К. М. Вебера і А. Блоха, паказаўшы сябе выдатна ў валоданні гукам, тэхнічна складанымі штрыхамі ў ансамблі. Педагог І. Брычыкаў і канцэртмайстар Т. Гняўко называюць А. Дзенісюка чулым музыкантам, які лёгка працуе ў ансамблі, валодае добрым гукам.



Гэта ўжо яго другая перамога. Першы поспех прыйшоў да хлопца ў яго родным Львове ў 1996-м на Міжнародным конкурсе імя Дзмітрыя Бяды, дзе ён таксама быў трэцім. На сёлетнім кіеўскім спаборніцтве сапернікамі Аляксандра былі музыканты з Украіны, Расіі, Малдовы ды Кітая. Два першыя месцы занялі прадстаўнікі Харкава.

**Вера КРОЗ**

# Беларуская дзяржаўная акадэмія музыкі

## аб'яўляе прыём студэнтаў у 1999 годзе

У Беларускую дзяржаўную акадэмію музыкі прымаюцца асобы, якія маюць сярэднюю адукацыю і пастаянна пражываюць у Рэспубліцы Беларусь, а таксама грамадзяне Беларусі і беларусы, якія пражываюць за яе межамі, грамадзяне Расійскай Федэрацыі.

Абітурыенты, якія паспяхова здалі экзамены, але не прайшлі па конкурсе, а таксама грамадзяне іншых дзяржаў СНД, могуць быць залічаны ў акадэмію па кантракце на ўмовах поўнай кампенсацыі выдаткаў на навучанне.

Прыём ажыццяўляецца па спецыяльнасцях "Музыказнаўства" (спецыялізацыі музыказнаўства; музычная беларусістыка); "Кампазіцыя"; "Дырыжыраванне" (спецыялізацыя харавое дырыжыраванне); "Інструментальнае выканальніцтва" (спецыялізацыі фартэпіяна, скрыпка, альт, віяланчэль, кантрабас, арфа, флейта, габой, кларнет, фагот, саксафон, труба, валторна, трамбон, туба, барытон, баян-акардэон, цымбалы, домра, балалайка, гітара); "Спевы" (спецыялізацыя акадэмічныя спевы); "Харэаграфічнае мастацтва".

Абітурыенты здаюць наступныя экзамены: спецыяльнасць; беларуская або руская (па выбары) мова і літаратура (пісьмовы пераказ).

Экзамен па спецыяльнасці складаецца з 4-6 раздзелаў, кожны з якіх ацэньваецца асобнай адзнакай: выкананне праграмы (выканальніцкія спецыяльнасці, харавое дырыжыраванне); выкананне ўласных твораў (кампазіцыя); музычная літаратура (музыказнаўства); гармонія (усе спецыяльнасці, акрамя спеваў); элементарная тэорыя музыкі (спевы); сальфеджыа (усе спецыяльнасці); калёквіум (усе спецыяльнасці); фартэпіяна (музыказнаўства, кампазіцыя, харавое дырыжыраванне). Экзамен па спецыяльнасці для паступаючых на спецыяльнасць "Харэаграфічнае мастацтва" складаецца з 3 раздзелаў: экзерсіс ля станка і на сярэдзіне ў аб'ёме харэаграфічнага вучылішча; метадычная раскладка руху ўрока класічнага танца; калёквіум.

Права на залічэнне маюць асобы, якія вытрымалі ўступныя экзамены і прайшлі па конкурсе. Залічэнне на ўсе факультэты праводзіцца па большасці набраных балаў на раздзелах экзамена па спецыяльнасці.

Асобы, якія скончылі сярэднюю спецыяльную навучальную ўстанову з дыпломам "з адзнакай" або з медалём, лаўрэаты і дыпламанты міжнародных юнацкіх і дарослых конкурсаў па выканальніцкіх спецыяльнасцях у якасці салістаў і па кампазіцыі, лаўрэаты нацыянальных конкурсаў па выканальніцкіх спецыяльнасцях (рангам не ніжэй конкурсу сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў) у якасці салістаў і па кампазіцыі здаюць раздзел спецыяльнасці "выкананне праграмы" або "выкананне ўласных твораў". Пры атрыманні адзнакі "пяць" яны вызваляюцца ад наступных экзаменаў; пры атрыманні адзнакі ніжэй за "пяць" яны здаюць усе астатнія экзамены. Да ўдзелу ў конкурсе на аддзяленне кампазіцыі допускаюцца толькі абітурыенты, якія атрымалі на раздзеле экзамена па спецыяльнасці (выкананне ўласных твораў) адзнаку "чатыры", "чатыры з паловай", або "пяць". Паступаючыя на спецыяльнасць "Музыказнаўства", якія маюць дыплом з адзнакай або медаль, вызваляюцца ад экзамена па мове і літаратуры пры атрыманні адзнак "пяць" па ўсіх раздзелах спецыяльнасці.

Выпускныя экзамены ў Рэспубліканскім вучэбным комплексе гімназія-каледж пры Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі з'яўляюцца ўступнымі ў Беларускую дзяржаўную акадэмію музыкі. Выпускнікі гімназіі-каледжа ўдзельнічаюць у агульным конкурсе па выніках адзнак, атрыманых на выпускных экзаменах.

Прыём на падрыхтоўчае аддзяленне спеваў ажыццяўляецца ў адпаведнасці з "Прыёмнымі патрабаваннямі па спецыяльных дысцыплінах для паступаючых у Беларускую дзяржаўную акадэмію музыкі", зацверджанымі Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь. Абітурыенты здаюць адзін экзамен па спецыяльнасці. Экзамен складаецца з двух раздзелаў, кожны з якіх ацэньваецца асобнай адзнакай: першы раздзел — у класе, другі — у канцэртнай зале.

Паступаючыя на падрыхтоўчае аддзяленне кампазіцыі прадстаўляюць асабістыя творы.

Абітурыенты прадстаўляюць у прыёмную камісію наступныя дакументы:

заява ўстаноўленага ўзору на імя рэктара; дакумент дзяржаўнага ўзору аб сярэдняй адукацыі ў арыгінале; медыцынская даведка па форме 086У (абавязковым з'яўляецца праходжанне ўсіх прышчэпак), даведка ўрача-фаніятра (спецыяльнасці "Спевы", "Харавое дырыжыраванне"); выпіска з працоўнай кніжкі (для тых, хто працуе); даведка службы занятасці насельніцтва (для тых, хто знаходзіцца на яе ўліку); 6 чорна-белых фотакартак памерам 3 на 4 см; дакументы, якія пацвярджаюць перамогі ў музычных конкурсах у арыгінале, пашпарт і дакумент аб дачыненні да воінскай павіннасці (прадстаўляюцца асабіста).

Абітурыенты, якія паступаюць не ў год атрымання сярэдняй адукацыі, абавязаны прадставіць дакументы, якія пацвярджаюць іх вучобу ці работу за гады, якія папярэднічалі паступленню (дыплом, выпіска з працоўнай кніжкі або даведка службы занятасці насельніцтва ці іншае).

**Прыём дакументаў — з 16 чэрвеня па 30 чэрвеня.**
**Кансультацыі для абітурыентаў — з 28 па 30 чэрвеня.**
**Уступныя экзамены — з 1 па 15 ліпеня.**

*На перыяд уступных экзаменаў абітурыентам прадстаўляецца інтэрнат (з 28 чэрвеня) з аплатай кошту пражывання.*

*Уступныя экзамены на завочнае навучанне — з 20 верасня.*

Азнаёміцца з правіламі прыёму ў акадэмію і атрымаць кансультацыю па іншых пытаннях можна па адрасе:

**г. Мінск, вул. Інтэрнацыянальная, 30, Беларуская дзяржаўная акадэмія музыкі. Тэл. прыёмнай камісіі 2278240 (з 16 чэрвеня).**

Беларуская дзяржаўная акадэмія музыкі ажыццяўляе таксама прыём на педагагічны факультэт акадэміі ў г. Магілёве па спецыяльнасцях: "Дырыжыраванне" (спецыялізацыя харавое дырыжыраванне); "Інструментальнае выканальніцтва" (спецыялізацыі фартэпіяна, скрыпка, духавыя і ўдарныя інструменты, баян-акардэон, домра, балалайка, цымбалы). Умовы і тэрміны прыёму, як выкладзена вышэй.

**Адрас факультэта: 212000, вул. Крыленкі, 12. Тэл. (0222) 252814.**

ПАГІНАЦЫЯ

**Як паставіцца да невытлумачальнай з’явы, калі чалавек, што ўсё жыццё ахвяраваў на вывучэнне мінулага беларускай літаратуры, сам застаўся на маргіналіі гісторыі айчыннай культуры?**

**“Біяграфія яго высветлена недастаткова” — такім трывожным сказам распачынае ў пісьменніцкім біябібліяграфічным слоўніку нататку пра Рамуальда Зямкевіча (1881—1944) Генадзь Кісялёў. Яно сапраўды так. Гісторык, бібліёграф, бібліяфіл, парадамі і матэрыяламі якога карысталіся “зубры” айчыннай і замежнай гуманітарнай навукі А. Ельскі, М. Федароўскі, Я. Карскі, Ю. Галомбак, Б. Тарашкевіч, Ф. Аляхновіч, ксёндз Адам Станкевіч і іншыя, — Зямкевіч не здолеў годна распарадзіцца сабранымі скарбамі. У міжваенны перыяд яго варшаўская кватэра па сведчанні сучаснікаў уяўляла сабою прыватны музей гісторыі беларускай кнігі, дзе побач са старадрукамі (Бібліяй Скарыны, Слоўнікам Памвы Бярынды) суседзілі беларускія аўтографы А. Рыпінскага, В. Дуніна-Марцінкевіча, А. Вярыгі-Дарэўскага, Я. Лучыны. Большасць з іх так ніколі не пабачыла свет: падчас варшаўскага паўстання 1944 г. ягоны скарб быў расцярушаны, а сам гаспадар загінуў у гестапаўскіх засценках.**

**Шкада вельмі. Толькі адзін прыклад. У першым нумары часопіса “Варта” (1918 год) пад рубрыкай “Старая беларуская пісьменнасць: з архіва Рамуальда Зямкевіча” былі апублікаваны верш Ф. Багушэвіча “Яснавяльможнай пані Арэшчысе” (1891), твор малавядомага паэта Язэпа Жукоўскага “Малітва” (1878), нечаканае і беспрэцэдэнтнае для сярэдзіны XIX стагоддзя беларускае апавяданне Адама Плуга “Кручаная баба” (1849).**

**Важкі крок да набліжэння постаці Р. Зямкевіча зрабіў згаданы Г. Кісялёў у сваім адмысловым артыкуле “Раскажам пра Рамуальда Зямкевіча” (“Голас Радзімы”, 1996, NN 12—17) з падзагалоўкам “Незалежнае расследаванне”.**

**Прапанаваныя чытачам “ЛіМа” лісты Рамуальда Зямкевіча да Вацлава Ластоўскага адшукаліся сярод папер апошняга, што захоўваюцца ў Дзяржаўным архіве Летувы (Вільня) у “беларускім” фондзе N 582.**

**Язэп ЯНУШКЕВІЧ**

# “Студыяваў я іх пільна...”

## ЛІСТЫ Рамуальда ЗЯМКЕВІЧА ДА Вацлава ЛАСТОЎСКАГА

*Яго міласці пану Власту.*

*Вельміпаважаны Дзядзька!*

Толькі цяпер адказваю на Ваш ліст. Вельмі ўсцешыўся, што наканец узяліся ў Вас да працы і пачалі выдаваць такі надта паважны месячнік “Беларускі Сцяг”.

Нарэшце беларуская эміграцыя ўвайшла пад правільны сцяг і на добры шлях!

Віншую Вас з гэтым і жадаю спору ў працы!

Аб маёй працы для вас і гутаркі быць не можа: падтрымаю ўсімі маімі сіламі. Стацці буду перасылаць або з Варшавы, або з Гданьска, скуль буду высылаць скаромнае. Сяджу цяпер і гатоўлю для Вас спецыяльна літаратурна-гістарычна-крытычна-інфармацыйны матэрыял аб усялякіх справах. Стаю я цяпер збоку, але пільна ўзіраюся навакол мяне. З гадам Антонам я ў надта халодных стасунках. З Дубейкоўскім на нажах, бо ён на службе ў дэфензівы, што мне ўдалося раскрыць і даказаць.

Працую над гісторыяй паходу арміі генерала Булак-Балаховіча. Як ніяк ён, адваяваўшы кавалак Беларусі, апавесціў і зрабіў першы рэальную “незалежнасць”. Калі б не інтрыгі Савінкава, Алексюка і жыдоў, справа выглядала б іначай. Архіў “генерала” ў маім распараджэнні. Нататкі нябожчыка Ядвігіна Ш., каторы ішоў з арміяй, я перапісаў у сына, што жыве цяпер у Варшаве.

Апрача гэтага, запісаў я са слоў Дзергача (Адамовіча) шмат фактаў, каторыя правяраю ў гутарках з ваякамі Балаховіча і св[ятой] пам[яці] Семенюка. Зрабіць гэта, разумеецца, трэба і то як найхутчэй, бо падзеі ў памяці заціраюцца, а не напісанае і не друкаванае не дасць ніколі будучым пакаленням зразумення праўды. Гісторыя партызанкі Семенюка, а таксама “Зялёнага Дуба” цікавіць і займае маю ўвагу, але кожная паасобку.

Разумеецца, што ўсё гэта ў адрыўках будзе Вам паслана для друку ў “Бел. Сцягу”.

Погляд мой на стаццю: “Пагляд П. Бяссонава на беларускую справу” не надта добры. Абсалютна не згаджаюся з думкамі аўтара стацці! Скажу, што тутака матэрыял апанаваў аўтара, а не ён яго!

Справа ў тым, што Бяссонаў проста па-нашаму злодзей, а па-літаратурнаму плагіятар. “Сборник белорусских песень. Москва, 1871” не яго ўласнасць, бо Бяссонаў ніколі не збіраў этнаграфічных матэрыялаў на Беларусі, дзе коратка быў, а выдаў гатовы матэрыял беларускага этнографа Адама Чарноцкага *(Zoryan Dolęga Chodakowski)*, этнографа першага ў цэлай Славяншчыне!

Шмат на гэтую тэму я гаварыў у 1917 годзе ў Петраградзе з Эпімахам-Шыпілам і з акадэмікам Карскім. Карскі ў сваіх “Беларусах” піша аб гэтым. Справа гэта ўжо аканчацельна развязана. Аўтар стацці называе Бяссонава “адным з першых расейскіх этнографаў”. Гэта таксама няпраўда. Аўтар стацці не ведае, што П. Барычэўскі беларус і пісаў па-беларуску (рукапісы ў мяне), што і П. Баброўскі, і М. Каяловіч таксама беларусы, хоць як царскія “чыноўнікі” [пайшлі] у адшчапенцы.

У расейскай навуцы Бяссонаў даўно ўжо вядомы як плагіятар. Не адзін Венгераў, а ўсе паважаныя крытычныя расейскія сілы робяць вялікія закіды ў гэтым кірунку, як Якушкін, Ягіч, А. А. Катлярэўскі, А. І. Кірпічнікаў, А. Н. Пыпін, Ф. І. Буслаеў, Н. Ф. Сумцоў. — П. І. Якушкін гэтак піша аб Бяссонаве: “Родственники ли, друзья ли Киреевского никто не имел права его трудами позволить делать имя кому-нибудь: это грех не только перед памятью его, это уголовное преступление перед обществом. Как могло Общество любителей русской словесности или кто другой позволить приписать труды покойника живому человеку, на том основании, что покойник умер и ему ненадобны блага мирские, а живому человеку, хоть бы этот человек был и Бессонов, отдать труды покойника для прославления своего имени? Позволить на первых же строках трудов покойника обругать всю деятельность его!” (стран. 471).

А зрабіў жа так Бяссонаў з працамі Рыбнікава, Кірэеўскага, і гэта вучоныя падкрэслілі і Бяссонава справядліва асудзілі. Не ведалі толькі аб Хадакоўскім!

Песні зборніка “Бяссонава” ўсе адносяцца да Гомельскага павета, дзе ў Пацёмкіна Чарноцкі (Даленга-Хадакоўскі) іх збіраў. У прадмове [!] да “Песень” Бяссонаў ясна піша, што меў пад рукамі рукапіс, пісаны лацінікай, польскімі літарамі. Аўтар гэтае стацці шмат знайшоў бы аб Бяссонаве ў Берліне ў бібліятэцы універсітэта, бо ўчоны польскі *Ŕleksander Brükner*, прафесар Берлінскага універсітэта, добра стараўся, каб у бібліятэцы ўсё было. Рабіў гэта раней яго папярэднік праф. Ягіч.

Таксама не магу згадзіцца з П. Іванам Трызнам, каб К. Каліноўскі мог знаходзіцца пад уплывам Маркса, Бакуліна, Агарова ці Герцэна. Нічога падобнага! Ён быў пад уплывам дэмакратычнай левай эміграцкай польскай літаратуры, пад уплывам ідэй Ворцэля, Лелевеля, Канарскага, Камінскага... Пану Івану Трызне невядома гэта і літаратура, хаця б з працы Ліманоўскага: Historya demokracyi Polskiej (2 выданні). А без спецыяльных студый немагчыма пісаць беларускай літаратуры, бо гэта будзе такой “крадзенай”, чужою, а пададзенай як за сваю, як “літаратура” Гарэцкага, поўная абмылак, недахватаў і няпраўды.

Партрэты Бяссонава, Каліноўскага і другіх маю. Студыяваў я іх пільна: першага як “этнографа”, бо гісторыя беларускае этнаграфіі — гэта гісторыя пачатку нашага рэнесансу. Аб Каліноўскім перапісаў матэрыялы ў Кракаве ў Раперсвілі (польскі музей у Швейцарыі). На апрацоўку трэба часу і спакою (пэўнасці кавалка хлеба), тады работа пойдзе маланкаю.

Калі маеце для мяне што цікавага ды скаромнага, прысылайце па адрасе: Danzig. Poste restate. Herrn inginieur Romuald Ziemkiewicz. Буду там за два тыдні, дык забяру.

Прашу камплекты Вашых беларускіх газет і брашуры. Адплачу тым жа.

Паклон Душэўскаму. Пішыце, што з кніжак, брашур і газет Вам патрэба, дык вышукаю і вышлю, каб дапоўніць Вашу эміграцкую бібліятэку. Будзеце ў можнасці працаваць. Польскія працы аб беларускім пытанні, таксама, як раней Варонцы, магу пасылаць. Бывайце здаровы!

Моцна цісну Вашу руку.

**Рамуальд Зямкевіч.**

*Варшава. 27.XII.1922.*

*Даражэнькі Пане Вацлаве!*

Кожны Ваш ліст для мяне вялікая радасць. Усцешыўся надта, калі яго дастаў і адразу з адрасу пазнаў Вашу руку. Дзякую за памяць і за навязанне перапіскі. Езавітаў ужо свабодны, і яго вораг — латвійскі пасол Вяржбіцкі (карэспандэнт “Kurjera Warszawskiego” пад псеўданімам: A. Jaszcz.) дастаў гэтым па носе за свае даносы. Віншаваў я ў лісце Езавітава і прасіў яго навязаць з Вамі перапіску, гэтак для мяне патрэбную і цэнную. Амаль ніякіх выданняў Вашых не маю, хаця труднейшыя выданні да атрымання з Менска ёсць у мяне. “Крывіча” год 1-шы не маю ад N 5 да канца, бо мне ў чытанні загубілі. “Крывіча” N 11 не маю (тры з 1924 г.), N 1 (1924) ёсць у мяне. Калі ласка, прышліце. Слоўнік мне патрэбны. Не маю яго, а бачыў у Луцкевіча тры экземпляры. Для газеты “Крывіча” меў бы шмат заметак, дробных, а надта цікавых нататак біяграфічна-гістарычнага зместу, урэшце гравюры, літаграфіі і т. п. для рэпрадукцыі.

Ад палітыкі я далёкі, хоць цікаўлюся ёю надта і стараюся ўцяміць усе нашыя абмылкі і прычыны гэткае сабачае долі, якая нам цяпер усім дакучае. А каб забыцца і залячыць балючыя раны, я займаюся гісторыяй, літаратурай і працамі навукова-археалагічнымі. Па ўсіх бібліятэках і архівах ведаюць мяне добра і памагаюць у працы. У Вільні праўдзівы кадух. Луцкевіч архіў і бібліятэку трымае моцна ў сваіх руках, лічыць сябе адзіным кампетэнтным знаўцам і спецыялістам, прабуе нават уступаць у сляды нябожчыка Івана, бо купляе ўсялякія рэчы, але не хапае ў яго: веды, шчасця і носа. Ніхто абсалютна доступу да гэтай калекцыі не мае. Парадку ў іх няма. Часцей ужо людзі (Тарашкевіч, Уласаў, Ант. Грыневіч) карыстаюцца маімі збіркамі кніг, чымсьці ў Антона Луцкевіча. Маю дублеты, мог бы і Вам іх паслаць, бо Вам яны там вельмі патрэбны. Дзеля таго толькі не даю іх Луцкевічу, хаця ён мяне просіць аб гэтым.

Аб Вас у Вільні ідуць частыя гутаркі. Ведайце, што я, Тарашкевіч, Уласаў і Антон Грыневіч заўсёды Вас моцна баронім. Пішу гэта за тым, каб ведалі, дзе Вашыя прыяцелі.

На Ваш праект сесці манахам да ціхае творчае культурнае працы пайду напэўна.

Сэрца ў мяне баліць, што справа з маёй “Гісторыяй беларускай літаратуры” і “Беларускай бібліяграфіі” зацягваецца. “Бібліяграфія” мая будзе накшталт Балтрамайціса, але куды большая за яго работу. А па Скарыне празявалі момант. Дзякуючы Луцкевічу ўсю справу выдання памятнага хоць бы “альманаха”, калі ўжо не спецыяльнага нумара “Заходняй Беларусі”, пахавалі. На гэта “няма грошы” — пры 900 злотых пенсіі кожнага пасла і сенатара. Вось вам і патрыёты. Я, паршывы чыноўнік, зарабляю ў месяц 360 злотых, і жыву сабе нішто, купляю кніжкі, рукапісы, памяткі старасвеччыны, а яны “не маюць грошай”.

Не ведаю, ці хто ёсць у нас, што зразумеў бы мае абурэнні і пагарду гэтым “нашым вялікім да маленькіх інтарэсаў”. Лік кніжак, выдадзеных у 1924 годзе ў Вільні, такі маленькі, што трэба ў сабакі вачэй пазычыць, каб гаварыць аб разгоне беларускага руху. Мне ў Варшаве ў гутарках з інтэлігентнымі людзьмі прыходзіцца ілгаць, каб падняць сваю чэсць і гонар народа. Пакуль што гінем, гібель немінуюча, калі не паднясць культурнае працы, дык прападзём дазвання. Гэтага ніхто ў нас бачыць не хоча.

А я як “варшаўскі беларус” спатыкаюся, як і даўней, з недаверам, усмешкамі, бо я ж “вар’ят”, які ўсё пастаянна гаворыць аб культуры, аб працы, аб ідэйнасці — рэчах зусім непатрэбных і некарыстаных, бо не даюць грошай. Гэта ўсё і маё пракляцце і адначасна маё сонца жыцця і радасць, і пах кветак, для набалеўшае душы. Іншае мэты, другое працы я ўжо аддацца не магу, у маіх летах — гэта немагчыма. Перамена ідэі — гэта была б для мяне смерць, бо зробленага і ў плане будучага да работы — не было б сілы ў мяне кінуць ці зніштожыць.

Але не варта аб сабе гаварыць, і так лішне многа непатрэбнага вылілася ў мяне.

Факт той, што астаецца мне з Вамі асабіста пабачыцца за граніцай, абгаварыць сур’ёзна, спакойна і аб’ектыўна ўсё і намеціць план далейшае працы.

Я падумаў запрасіць да гэтага і Антона Грыневіча, майго асабістага вялікага і шчырага прыяцеля.

Прыехаць у Берлін, ці Прагу чэшскую, а мо нават у Кралявец, каб Вас пабачыць і пагаварыць, я бы мог.

Уважаю, што кантакт са мною даў бы Вам многа чаго да магчымасці працы ў эміграцыі. Разумеецца, культурнай, бо за палітычную не вазьмуся.

Журналы і кніжкі прысылайце па адрасе маёй службы:

*Pologní – Warszawa*
*inż. Romuald Ziemkiewicz*
*Izba Kontroli Państwa*
*ulica Złota 22*

**Заўсёды да Вас прыхільны і шчыры Р. Зямкевіч**

*Варшава 10.IV. 25.*

(На палях увагі: Хрыстос Уваскрос! Вясёлых свят! Маглі бы спаткацца і ў Гданьску, куды бы і Вам лёгка было б прыехаць.)

*Даражэнькі Дзядзька!*

Доўгачаканы ліст Ваш атрымаў. Атрымаў также “Слоўнік” і камплект “Крывіча”. Пасылкі прышлі без паметкі цэнзуры, без аплаты пошліны (*cła*) да майго бюра, возны кантроля іх квітаваў, адным словам проста знамяніта. У нас накладаюць пошліну (*cło*) на кожную англійскую, французскую, нямецкую, і наогул заграмічную кніжку. Трэба Вам ведаць, што нашае *“Najwyższej Izby Kontroli Państwa”* ў Польшчы страшэнна баяцца, бо мы даказваем зладзействія ўсюды, нават у міністэрствах, аддаем пад суд, а залежым адно толькі ад Сойма і Сената, не слухаючы апроч іх нікога і не лічачыся ні з кім. Як бачыце, служба мая ў гэтай установе дае мне шмат улады і “гоноровыя” важнасці. А і кавалак хлеба нішто. Як працаўнік “чыгуначнага аддзела” маю бясплатны білет 1 класа на ўсе польскія чыгункі. Даводзіцца ездзіць “па рэвізіі” вельмі часта. Дзеля таго мне кожны раз з’ездзіць у Гданьск. Але ўсё гэта аддаў бы, не думаючы і хвілінкі, каб толькі мог працаваць для сваіх і ў сваіх у Вільні.

За ўсё высланае шлю Вам шчырую ад сэрца падзяку. У даўгу не застануся, буду Вам высылаць усё больш менш цікавае з новае літаратуры і дублеты, якія ёсць у мяне. Перадайце паклоны ад мяне панам: Ромэру, Янулайцісу і Біржышцы і перадайце, што хацеў бы навязаць з імі літаратурныя зносіны (шмат цікавых кніжак, ім нязнаных, мог бы ім пасылаць). Наладзіць гэткія зносіны, як з Вамі, лічыў бы вельмі патрэбнымі і ўзаемна карыснымі. Пана Ромэра бачыў у Вільні ў Луцкевіча, калі ён перад Калядамі праз Латвію з Коўні ў Вільню дастаўся. Людзі гэтыя для мяне вельмі сімпатычныя і высока іх шаную. Адносіны іх да мяне заўсёды былі добрымі — а я гэта добра памятаю. Могуць заўсёды шчыра да мяне адносіцца і ва ўсіх іх патрэбах памагу (ад шчырага сэрца). Думаю, што мая прапазіцыя павінна быць праз іх прынята. Ды выкарыстайце мяне як чалавека ў моцнай маёй пазіцыі ў Польшчы.

З літоўскіх выданняў патрэбны мне бібліяграфічны журнал “Knygos” ад 1922 года да апошняга часу і кніжка *“Ptaszek. Podręcznik do nauki języku litewskiedo”*.

Не маю камплекта “Беларускага сцяга” і іншых Вашых ковенскіх беларускіх газет. Калі ласка — прышліце. Мушу вас павіншаваць са стаццёй аб Скарыне ў N 8 “Крывіча”. Так я разумею выдаванне студыяў аб нашых пісьменніках. Без ілюстрацый выдаваць не павінны. Падкрэсліваю факт надта важны (аб чым я ўжо ў 1917 годзе ў “Вольнай Беларусі” пісаў). Усе рысункі, літары і застаўкі Бібліі Скарыны, дзе толькі на іх нарысаваны герб Скарыны (сонца і паўмаладзік), ёсць яго ўласнымі рысункамі. Герб у даным выпадку заступае подпіс. Аб гэтым ніхто неяк ведаць не хоча. Подпіс пад партрэтам Скарыны ТМЗ не ёсць подпісам беларуса-мастака, а подпісам вядомага штыхара, прозвішча якога не памятаю, але гэта расшыфравалі ўжо расейцы Стасаў і Равінскі. Аб Скарыне як аб першым беларускім “графіку-мастаку” гатоўлю стаццю. Хацеў яе друкаваць у “Заходняй Беларусі”, але скарэй за ўсё пашлю Вам да “Крывіча”.

У Гданьску трэба нам пабачыцца. Калі думаеце далей выдаваць “Крывіча”, дык дам шмат матэрыялу, нават палітычнага. Хачу апісаць свае ўражанні з Беластоцкага працэсу. Ці гэта б падышло? Наогул з палітычнага боку ведаю шмат, але надта кампраметуючага нашых дзеячаў, бо ёсць нп. [напрыклад] паслы-беларусы, што служаць у палітычнай дэфензіве, іншыя дык проста ў паліцыі. Адны другіх лаюць і сваю віну звальваюць на другіх. Кажу Вам шчыра: гэткага катуху з памыямі мусібыць нідзе няма. Вось да чаго дажылі. Цешуся, што паміж намі навязаліся ізноў зносіны. Даўно гэта трэба было зрабіць. Я, як інтэлігентная сіла, мог быць памоцным шмат у чым. Памятайце аб гэтым і выкарыстоўвайце пры кожнай зручнасці. Быў я ў зносінах з Варонкам, але ён не ўмеў ці не хацеў мяне зразумець. Што з ім цяпер? Кланяйцеся Якавюку.

Бедны Антон Грыневіч з голаду прымушаны быў уцякаць з Вільні ў Мінск. Там яму далі эмэрытуру да канца жыцця, а ў Вільні Луцкевіч і нашыя “ідэовыя” дзеячы глядзелі спакойна, як ён галадаў. Гэткая гразь і балота ў Вільні абурае мяне страшэнна. А я страціў найбліжэйшага мне па сэрцы і думцы прыяцеля, бо з Менскам зносін не маю і трудна іх навязаць. Канчаю мой ліст і прашу Вас пісаць магчыма найчасцей. Кніжкі як толькі разбяруся з пакамі — вышлю Вам.

Затым бывайце здаровы.

**Ваш Р. Зямкевіч.**

*Варшава*

*8.V.1925.*

*Пішыце на адрас Izby kontroli Państwa*

*Даражэнькі дзядзька Вацлаў!*

Пасылаючы Вам у другі раз ліст, які мне назад адаслалі, яшчэ раз дзякую за высланыя нумары “Крывіча”, даносячы пры зручнасці, што пісулькі ў сярэдзіну “Крывіча” ўложаныя атрымаў без ніякіх перашкод. Асабліва дзякую Вам за іх, бо іх тут у нас ніхто не бачыў і не ведае. Дублеты аддаў Леўчыку, Гапановічу ды іншым беларусам.

Пакуль што з кніжак пасылаю Вам: *Ă. Jabłonowski. Akademia Kijowska-Mohilańska. Kraków*, 1899, у якой шмат знойдзеце да беларусазнаўства.

Далейшыя кніжкі высылаць буду ад часу да часу.

Прашу Вас не забываць аба мне і высылаць Вашыя, пражскія, берлінскія і савецкія выданні. У даўгу не астануся і рэчы добрыя, а нязнаныя Вам прышлю.

**Ваш Р. Зямкевіч.**

Прашу да мяне адрасаваць у гэткім парадку слоў:

*Izba Kontroli Państwa*
*dla inż. Romualda Ziemkiewicza*
*ulica Złota 22, III piętro*
*Warczawa/Polen*

**P. S.** Антон Грыневіч у вялікую пятніцу (нов. стыль) уцёк з Вільні ў Менск. Пагражаў яму прысуд да 5 гадоў астрогу за нелегальны пераход граніцы (у 1920 годзе!) і за ліст, які адтуль прывёз (з Менска), які цяпер толькі расшыфравалі.

Бедны ў Вільні галадаў, тамака ў Менску дастае эмэрытуру да канца свайго жыцця за грамадзкія заслугі.

Страціў я цяпер у Вільні найлепшага і найбліжэйшага мне прыяцеля. Няма чаго туды ездзіць, бо Ант. Луцкевіча, нашага важнага “архі-бонзу”, я не надта паважаю за яго ўстрымоўванне культурнага беларускага развіцця.

**Р. Зямкевіч.**

## Храмы рыхтуюцца да свята

**Увесь свет рыхтуецца адзначыць пачатак трэцяга тысячагоддзя. А для праваслаўнай царквы гэта асаблівае свята — спаўняецца дзве тысячы гадоў хрысціянства. Да гэтай падзеі рыхтуецца і царква святой Марыі Магдалены ў Мінску.**

*На здымках: Віктар ДОЎНАР за працай над фрэскамі. Абноўлены храм.*
*Фота Я. КАЗЮЛІ, БЕЛТА*

## "Варашылаўскі стралок" у Мінску

**18 мая ў Мінску адбылася прэм'ера фільма С. Гаварухіна "Варашылаўскі стралок". Летась С. Гаварухін не як рэжысёр, а як мастак прывозіў мінчукам свае карціны (выстава мела назву "Парламенцкія канікулы"). За год прыгожыя пейзажы прыроды трансфармаваліся ў жудасныя кінакадры. "Калі ўлада не будзе абараняць грамадзян, калі перастане дзейнічаць закон, тады пачне дзейнічаць закон джунгляў, закон вайны. Гэта вельмі небяспечная сітуацыя", — упэўнены сёння С. Гаварухін, знакаміты барацьбіт за маральную чысціню рускай нацыі.**

**Галоўны герой фільма — ветэран вайны, былы варашылаўскі стралок (М. Ульянаў), апанаваны адзінай думкай — адпомсціць гвалтаўнікам унучкі. Для гэтага ён купляе зброю з аптычным прыцэлам і пачынае адстрэльваць "новым рускім" усё тое, што ніжэй пояса. Нездарма пасля прэм'еры фільма ў Маскве адзін з расійскіх журналістаў назваў Гаварухіна рыцарам і рэжысёрам самасуду. "Апынуцца адразу і заканатворцам і заканаборцам — гэта так проста і натуральна ў нашай бласлаўлёнай краіне".**

## "Песню бярыце з сабою"

**Тэлефестываль беларускай песні "Песню бярыце з сабою" крочыць па краіне і набывае ўсё новых сваіх прыхільнікаў. Гэта яшчэ раз пацвердзіў чарговы выязны канцэрт, які адбыўся ў гарадскім Доме культуры горада Барысава. У перапоўненай канцэртнай зале бурнымі апладысментамі сустракалі "зорак" беларускай эстрады і маладых выканаўцаў, а таксама аўтараў песень. Гледачы мелі магчымасць сустрэцца з ансамблямі "Беларускія песняры" і "Бяседа", спевакамі Якавам Навуменкам і Інай Афанасьевай, Ядвігай Паплаўскай і Аляксандрам Ціхановічам, Ірынай Дарафеевай і Вячаславам Статкевічам, Наталляй Бярнацкай і Вікторыяй Алешкай, бліжэй пазнаёміцца з паэтамі і кампазітарамі Леанідам Дранько-Майсюком, Міхасём Пазняковым, Уладзімірам Мазго, Алесем Бадаком, Аленай Туравай, Леанідам Захлеўным, Алегам Елісеенкавым, Эдуардам Ханком і іншымі.**

**Кажуць, што песня — душа народа. А калі гучыць беларуская песня, значыць, жыве і Беларусь!..**

# ЯК СПЁКСЯ ПАПУАС

*(Працяг. Пачатак на стар. 8—9)*

Алка не засмяялася, чаго ён больш за ўсё баяўся. Яна нават як быццам збянтэжылася, заміргала вачыма, пралепятала: "Ой, Андрюша, так и я тебя люблю. Хороший ты парень, скромный, надежный, но понимаешь... Мы можем быть друзьями, но не больше... ты уж извини..."

Ён ужо ведаў, што азначаюць словы "будзем сябрамі" з вуснаў дзяўчыны: пакінь, хлапец, усялякія надзеі... Што гэта акурат так, неўзабаве пацвердзіла Андрэю Рыбчыку ягоная другая аднакурсніца — Ірка. Яна, аказваецца, была закаханая ў Андрэя, аб чым ён нават і не здагадваўся. Пра тое, што ён улюбёны па вушы ў Алку, яна ведала. Пэўна, у злосці на іх абоіх Ірка і пераказала Андрэю, што гаварыла Алка пра ягоную асобу: "Он парень неплохой, вроде и не дурак, но его язык выдает лоха деревенского. Куда с ним покажешься?"

Скончылася на тым Андрэева каханне да Алкі. Перакрэсліў, паставіў на ім крыж. Але й да Іркі сэрца не пагарнулася, як ні старалася дзяўчына дамагчыся таго, прымаючы яго цалкам, разам з ягонаю беларускаю моваю. Ён нават змушаў быў сябе быць ласкавейшым і больш уважлівым да Іркі ў спадзеве на тое, што, можа, з цягам часу збудзіцца ў ягонай душы нешта падобнае, што меў да Алкі, але — дарма. Ірка, адчуваў, не ягоны лёс. Алка — па адной прычыне, Ірка — па другой, але абедзве крочаць наўзбоч, не па ягонай дарозе. На ёй будзе, напэўна, нехта іншы, наканаваны яму лёсам ці самім Богам.

Тым не менш, акурат Алка была прычынаю таго, што шукаў ён наканаваную яму доўга, амаль да трыццаці гадоў. І знайшоў, калі пакінуў урэшце завод і, паслухаўшыся парады сябрука па вучобе, перайшоў на працу ў тэлеатэльe. Прыжыўся ў ім надзіва хутка. Упадабалі яго і новыя калегі, і загадчык майстэрні. Спачатку трошкі касавурыўся быў на ягоную гаворку, але неўзабаве махнуў рукой: справу знае, а мова — экзотык, хобі, прытым бяскрыўднае. А справу Андрэй ведаў, кліенты праз нейкі час, другі ці трэці раз звонячы ў атэлье, прасілі прыслаць акурат яго, Рыбчыка, а часцей называючы яго, як і на заводзе, Беларусам. Ведаў Андрэй, што сёй-той называў яго за вочы і Бульбашом, і Калгаснікам, але па тэлефоне прасілі прыслаць "вашага Беларуса". Зрэшты, у атэлье нечакана знайшліся ў яго паслядоўнікі — яшчэ два хлапцы пачалі ўсё часцей азывацца беларускім словам, і на рабоце, і ў кліентаў дома, так што неўзабаве дыспетчарка, прымаючы заказ на "беларуса", пыталася, каго менавіта, якога тэлемайстра яны хацелі б выклікаць дадому. Сталася гэтак, напэўна, таму, што калектыў у тэлеатэлье быў невялікі, а Рыбчыкаў аўтарытэт з часам стаў тут неаспрэчным. І ўжо нават сам загадчык, заходзячы па той ці іншай патрэбе ў рамонтную залу, загаворваў да Рыбчыка па-беларуску, і прытым не ў насмешку, а на поўным сур'ёзе...

Там, у тэлеатэлье, Андрэй Рыбчык і напаткаў сваю Зіну. Яна прыйшла да іх на працу кладаўшчыцай. І Андрэй быццам чакаў яе. Бо не тлуміў ёй галаву працяглымі заляцаннямі — літаральна недзе праз тыдні два-тры прапанаваў ёй, як кажуць, руку і сэрца. Яны тым вечарам аказаліся ўдваіх у майстэрні перад закрыццём. Ён закорпаўся з блокам развёрсткі — нешта ўсё капрызіў і не паддаваўся рэгуляцыі, а яна як чакала яго? Ідучы разам да трамвайнага прыпынку, ён вазьмі дый прапануй ёй выходзіць за яго замуж. Зіна, вядома, здзівілася, але не надта каб, не войкнула па-дурному, як бы іншая зрабіла, а — згадзілася. Ён нават не пацалаваў яе тады на развітанне, хоць дамовіліся заўтра ж занесці ў ЗАГС заяву.

К таму часу ён займеў аднапакаёўку. Мела пакой з агульнай кухняй і Зіна (гэтак яны з братам размянялі матчыну кватэрку: жанатаму брату дасталася паўтарачка, а ёй — пакой). Гэтую плошчу яны аб'ядналі і ў выніку сталі гаспадарамі двухпакаёўкі-хрушчоўкі. У ёй і пражыў Андрэй, можна сказаць, жыццё з Зінай, выгадаваўшы дачку і сына. У ёй жывуць і зараз, будучы абое пенсіянерамі: і дачка пайшла жыць, як і даўней, у сям'ю мужа, дзякаваць Богу, у чатырохпакаёўку, і сын знайшоў сабе дзеўку з кватэрай...

Цяпер, прыгадваючы ўсё гэта пад мерны шоргат уласных падэшваў, Андрэй Рыбчык меў на ўвазе найперш моўныя варункі свайго сямейнага і службовага жыцця. Зіна тут аказалася, на жаль, не на вышыні. Спачатку быццам і не зважала на ягоную гаворку, не паказвала нічым сваёй незадаволенасці ці пагарды, нават і сама сяды-тады абзывалася беларускім словам. Але ўжо праз годругі пасля вяселля пачаў заўважаць Андрэй Зініны кепікі, а часам і перакрыўлянні ягоных слоў і рэплік. Ён адзін раз ласкава яе паўшчуваў, другі, ды Зіна не прыслухалася, закапыліла губу. Тады ён перастаў зважаць на тое. Шкада, вядома, але ж ён не дапусціць, каб гэта сталася яблыкам раздору. Такой бяды. Мо й праўда, што бабе Бог даў доўгія валасы, а кароткі розум. У рэшце рэшт, час пакажа, мо ўсё ж пераробіць ён Зіну на свой капыл.

Апошняга зрабіць ён так і не здолеў. Добра ўжо, што самога яго Зіна ў гэтым не даставала, хоць і не хавала па-ранейшаму сваёй нелюбові да ягонага, як казала, "прыдурства". Яна пагаджалася, што ёсць такая мова — беларуская, нават з тым, што яна, можа, нічым не горшая за іншыя, але ж каб гэта ўсе вакол на ёй гаварылі — тады іншае дзела, а калі аднаму ці двум з ёю ўсюды вытыркацца — гэта курам на смех. На што ён адказваў: "Каму — курам на смех, а каму — матчына і бацькава слова, якое дадзена чалавеку для гаворкі нават з самім Богам. Вы пагарджаеце, здзекуецеся? Дык на злосць вам не адракуся, не вырачуся, не адцураюся! Адзін застануся на ўсёй зямлі — усё адно буду на ёй гаварыць! Хоць сам з сабою... Бо гэта справа гонару, годнасці маёй, чалавечай. Я не сам па сабе нарадзіўся і вырас на гэтай зямлі. За мною — дзяды і прадзеды мае. Яны не саромеліся гэтае мовы, а гаварылі, карысталіся ёю, іншае не ведалі. І мне яе запаведалі. І дзецям, унукам маім. Ланцужок гэты — бясконцы. Як жыццё само. Дык чаму некаму рупіць, карціць, каб ён — парваўся, скончыўся на мне ці на маім сыне? Колькі тых аварцаў на Каўказе? Дзвесце тысяч ёсць? Ці меней? А паэт іхні сказаў: калі мова мая заўтра знікне, дык лепш я памру сягоння! А нас жа — не дзвесце тысяч, не жменька, не прыгаршчы нават — нас мільёны. Дзяды, прадзеды словам сваім з Богам гаварылі, з панамі, а мы ўжо й між сабою саромеемся? Чаму? З якое прычыны? Не будзе гэтак! Я, Андрэй Рыбчык, на гэта не пайду! Ні пры якіх варунках! У тых самых Курапатах, калі яны зноў раскрыюць свае магілы, скончу, а — не пайду!.."

Ён не мог вытлумачыць, як прыходзіць да чалавека такое перакананне. У ім самім беларускасць збудзілася даўно, яшчэ ў школьныя гады. А як, якім чынам? Што зараз гадаць-успамінаць! Істотна тое, што ўсведамленне гэтае зараз — пры ім, з ім, і яго ад чалавека не адабраць. Урадзілася цялятка з лысінкай, дык і памрэ такім. Гэтак і чалавек. Дзе нарадзіўся і ўскормлены з Божае любові, да тае зямлі вялікую ласку мае. Гэтак і да мовы тае зямлі. Без яе і ён, зямля — нямыя. Нават горш: гэта тое самае, што й без душы. І знявага роднага слова, посмех з яго — ці не крыўднейшыя за ўсе іншыя. Гэта самая балючая рана. Усё можна сцярпець, стрываць, нават самы страшны фізічны боль, толькі не боль, не пакуту за спаганенае, апляванае, здратаванае, сплюгаўленае роднае слова. Бо ад болю гэтага, ад пакуты гэтай — няма лекаў. Іх не залечыш нянавісцю да іншых моў. Іх залечыш хіба толькі яшчэ большай, самаадданай любоўю да яго, зняважанага і пакрыўджанага. І пакіне цябе пакута толькі тады, калі яно загучыць з многіх грудзей і на поўную сілу.

Гэтаму Андрэй Рыбчык і дзяцей сваіх вучыў — насуперак жонцы. Неназойліва вучыў, уласным прыкладам. Спадабалася яму здаўна, ад бацькі пачутае ў маленстве правіла навукі педагогікі: рабі — як я. Самае даходлівае, пераканаўчае, нагляднае правіла. Ён з дзецьмі дома і ўсюды — па-беларуску. Матка хай сабе як хоча, а ён — толькі гэтак. Насуперак школе, вуліцы, кніжкам, газетам, радыё і тэлебачанню, сынавым і даччыным кампаніям — толькі па-беларуску. Дзеці, здаецца, не крыўдавалі, хіба пакуль малыя ды дурныя былі. Часцей яму даводзілася крыўдаваць ды абурацца. Ён жа памятае. Прыводзіць сына ў садок, а выхавацелька адводзіць бацьку ўбок і шэпча: "Вы бы не отправляли сына в деревню, у него много слов белорусских, ребята над ним смеются..." Стрываў ён, не мацюкнуўся на маладую дурніцу-выхавацельку, а не мацюкнуцца — цяжка было. Гэта ж трэба, у сваёй краіне, на сваёй зямлі! Ці ёсць у свеце яшчэ такі дзесяцімільённы, вялікі, можна сказаць, народ?! Дасталося за гады вучобы і сыну, і дачцэ за тыя самыя беларускія словы і за акцэнт. Але на бацьку яны, здаецца, не крыўдавалі. Разумелі, што крыўдаваць трэба на іншых, а не на бацьку. Што гэта бацька іхні і яны разам з ім пакрыўджаны вялікаю, недаравальнаю крыўдаю. Разумелі, але ж той самы "беларускі акцэнт" выпальвалі з сябе "калёным жалезом", як дачка гаварыла — дзеля таго, каб не быць белай варонай. І што ён мог параіць-сказаць? Адно казаў: "Трэба гаварыць прыгожа, правільна і на чужой мове, але й сваёй не выракацца". Дзеці, здаецца, не выракліся, пры нагодзе шчабечуць, як ластаўкі жнівеньскія, маладыя і гаварлівыя, ды ўсяго толькі — пры нагодзе. А нагоды можа ж і не быць, калі гэтак пойдзе, як зараз ідзе. Быў час, яшчэ зусім нядаўна, што быццам на лад усё паварочвалася, ды колькі тое трывала? Прыйшоў бык і паваліў плот. Усё адрынута, назад адкінута, мова родная зноў у такім загоне, у якім ці й была калі-небудзь...

Не агледзеўся, як датупаў Андрэй Рыбчык да Камароўкі. Рынак віраваў і гаманіў, і тлум ягоны, усе гукі і розгаласы зліваліся ў адзін невымоўны гул. Андрэя больш за ўсё апошнім часам здзіўляла не тое, што Камароўка разбухла і распаўзлася, як цеста з дзяжы, далёка за свае вызначаныя праектамі і пабудовамі межы, абрасла з усіх бакоў металічнымі будкамі-шапікамі, вагончыкамі-кавярнямі, аўтастаянкамі, што прыезджаму чалавеку, бадай, і заблудзіцца можна. Падумаў гэтак і сам сабе пасміхнуўся Андрэй. Бо падумаў пра прыезджага па-колішняму, маючы на ўвазе вясковага чалавека. А сёння прыезджы люд адчувае і паводзіць сябе тут, на Камароўцы, паўнаўладнымі гаспадарамі. Уражанне такое, што акурат ці не яны якраз і валодаюць усімі гэтымі крамкамі-будкамі ды кавярнямі-харчэўнямі. Іх, прыезджых, процьма! Андрэй, колькі разоў ні быў тут, аніяк не можа прыйсці да ладу, што гэта за люд. Усе смуглявыя, часам ажно да чарнаты, сытыя, шырокія ў сцёгнах і плячах, чорнавалосыя, падчас кучаравыя, вірлавокія. Чуў, што гэта афганцы, сірыйцы, ліванцы, курды, лівійцы і колішнія свае, былыя савецкія, каўказцы. Мо й так. Але ж, як на Андрэеў розум, і мовы ў іх павінны былі б быць розныя. А між тым яны між сабою гавораць не па-руску, а па-свойму...

Засталося гэтае пытанне для Андрэя адкрытым. Яшчэ зусім нядаўна іх, можна сказаць, амаль не было на Камароўцы — адзін-два. А цяпер — цэлыя плоймы, шайкамі ходзяць, усіх заглушаючы. Прэцца на "вольве" ці "мерседэсе" проста на людзей, гартанна крычыць з прыадчыненых дзверцаў — "Сайды з дарогі! Бэрэгысь!" Не, яны не прыезджыя, яны — сапраўдныя гаспадары. І ніводзін з іх не апаскудзіць вусны беларускім словам, хоць пэўна ведаюць, што акурат на Беларусь прабраліся, на Беларусі атабарыліся, на Беларусі свой торг-бізнес вядуць, адсюль свае долары дадому перапраўляюць...

І зноў схамянаецца Андрэй Рыбчык: чаго захацеў! Каб яны — па-беларуску! Ці ж азываюцца, ці паскудзяць свае вусны беларускім словам самі тутэйшыя, што сноўдаюць з торбамі і сумкамі ад вагончыка да вагончыка, ад шапіка да шапіка? "Шмат ты хочаш, брат Андрэй, як ты шмат хочаш..."

Праціснуўся праз натоўп, дапяў Андрэй Рыбчык да машын, з якіх прадаюць яйкі. Машын ажно пяць, але да ўсіх — даўжэзныя чэргі. Папытаў Андрэй у апошняй жанчыны, мо ведае, ці варта стаяць, ці хопіць тых яек на іхнюю долю. Жанчына нечакана для яго адказала па-нашаму:

— Або, ведама, хопіць! Гэтая ж толькі што прыехала, яшчэ й прадалі мала, дык дастанецца, не перажывайце, абы ногі нашы выстаялі...

Ён паківаў галавой:

— Праўду кажаце пра ногі. Ужо трошкі гудуць, а пастаяць, па ўсім, давядзецца...

На што жанчына паразумела адгукнулася:

— Дык жа стаяць мы не паадвыкалі яшчэ. Ой, колькі мы настаяліся!..

Людзі ж падыходзілі і, не пытаючы ні аб чым, моўчкі займалі чаргу. Неўзабаве ўжо і за Андрэем стаяла іх нямала, і ён ужо зноў, як і ля "Белых Росаў", быў у шчыльным людскім атачэнні. Чарга тапталася больш на месцы, чым пасоўвалася наперад, расла не толькі ўдоўжкі, але і ўшыркі. І між людзьмі ў ёй узнікалі свае стасункі, усчыналіся гаворкі. Нехта адпрошваўся адысціся на хвіліну-другую, каб пазваніць, нехта папярэджваў, што да яго можа падысці муж ці жонка, дык каб пасля не было пярэчанняў, а хтосьці проста кідаў бязадрасную рэпліку, але яна даходзіла да нейчых вушэй і выклікала рэпліку ў адказ, апошні ж набываў ужо шырэйшы розгалас, і ўсчыналася гаворка, у якую ўключалася досыць значная купка шчыльна збітых — спіна ў спіну, плячо ў плячо, рука ў руку — людзей.

Вось і гэтым разам. Хтосьці не то сказаў, не то ўздыхнуў:

— Вось і вярнуўся Савецкі Саюз...

— Да, вернулся! — падхапіў сусед, што зрэагаваў на ўздых. — И первый признак — очереди!

— А причем здесь Советский Союз? В Советском Союзе вы в очередях не стояли! — голас быў жаночы, пранізліва-тонкі, ажно вісклівы.

— Память у вас кароткая! Усю жызнь стаялі! І мама стаяла, і я стаю вот!

— Ай, не нада! У Савецкім Саюзе мы не так і плоха жылі! Усё началось, як Саюз разваліліі!

— Никто, к вашему сведению, его не разваливал! Сам развалился!

— Еслі б ні ваш рускі язык, падумала б, што вы — пазнякоўка!

— А что Позняк? Он правду говорил! Выбрали на свою голову, вот и стоим!

— Ні трогайця яго! Он стараецца, как лучша, а ёму ўсе мяшают! Пазняковцы разныя!

— Пора уж и поумнеть, — голос быў ці не той, што заступіўся за Пазняка. — И хватит об этом. Надоело: ему, бедному, мешают сделать нас счастливыми...

Андрэй Рыбчык у думках падтрымаў жанчыну. Сапраўды, абрыдла. Пяты год крычаць усё адно і тое ж: ён стараецца, а яму замінаюць! А хто замінае, дазвольце спытаць? Іх жа днём з агнём не адшукаць — тых, што замінаюць. На экране толькі ён і тыя, што побач з ім. Улада ж толькі ягоная. Дык хто ж замінае? І якім чынам?

Андрэй даўно пераканаўся, што ў гэтых спрэчках у чэргах мала толку. Зрэшты, мала толку і ў мітынгах. Быў ён некалькі разоў на мітынгах. Ну, павыступаюць, пакрычаць і разыдуцца. І хто пачуе, што там крычалася? Толькі тыя, што былі там. Дык жа яны й без таго тое ведаюць. От калі б мітынгі па тэлевізары паказаць, каб усе людзі паслухалі! Дык жа — скулу пакажуць! То й там, на тэлебачанні, таксама яго ўлада, ім пастаўленыя людзі.

Таму й даваў сабе Андрэй зарок маўчаць. Асабліва ў чэргах. Толку з тых крыкаў аніякага. Толькі псаванне нерваў. Дурняў не пераканаеш. І ці ведае хто, што ўжо можа нашых людзей аццверазіць, розуму навучыць? Ніякія довады не даходзяць. Не глухія і не сляпыя, а — не хочуць ні бачыць, ні чуць. Анекдот расказваюць: "Абы вайны не было..." Дык які ж гэта анекдот? Гэта ж, як той казаў, святая праўда. Што ім ні кажы, якія аргументы і факты ні прыводзь, на ўсё адзін адказ: "Абы вайны не было... А так неяк пражывём..." Сталыя, старыя ўжо людзі, а — як дзеці! Больш ні аб чым не дбаюць. Не баліць ім, што парадку няма нідзе, што зямля даведзена да няўдобіцы, што лясы спляжаны, што рэчкі і азёры запаскуджаны, што душы знявечаны, мова адабрана. Адно чаўпуць: пражывём неяк, абы вайны не было...

А чарга паціху варушылася і час ад часу то там, то сям хтосьці ўголас шукаў спагады і паразумеласці:

— У меня было 132 рубля пенсии и я жил — кум королю! А теперь 3 миллиона, а я — нищий!

— А што мне казаць, еслі ў міня і двух нету?!

— Какая разница — два или три? Это не пенсия! Это пособие для выживания. Чтобы с голоду не сдохнуть!

— Затое катэджаў панаставлялі!

— А иномарок сколько! Уже "жигулёнков" и не видно на улицах!

— А при чем всё это?

— А при том! Закон физики: если у кого прибавилось, у другого столько же убавилось! Один разбогател — тысячи обнищали!

— Демократы давели!

— Не паўтарайце чужога глупства! Якія дэмакраты? Хто бачыў дэмакратаў пры ўладзе?

— А что вы предлагаете? Опять раскулачивать и делить? Так делили уже!

— И что — плохо жили?

— Что вы говорите? Кто жил? Разве те, что и сегодня живут!..

Андрэй Рыбчык слухаў гэта, з нейкім пагаджаўся, з іншым — не пагаджаўся, але сам удзелу ў гэтых спантанных, непатрэбных і безвыніковых гаворках не браў. Дзеля чаго? Хто тут каго і ў чым пераканае? Гыркаюцца, апастыляюцца злосныя, знерваваныя людзі. І як тут не быць знерваваным, калі каторы год усё ідзе цераз пень-калоду? Што-што, а яйкі заўсёды ў крамах былі — хоць латок, хоць пяць латкоў бяры! А от жа і яны зніклі. Стой во, штурхайся ў чарзе, каб дастаяцца і набыць два дзесяткі. Хто іх калі лічыў? Ён жа некалі, як халасцякаваў яшчэ, мог, прыйшоўшы з работы, пяць штук на патэльню ўзбіць і спячы са смятанаю. А цяпер Зіна прыкрыкне, калі й адно захоча з'есці: не прыдурняйся, скажа, пакінь, мо блін спяку, ці салатку якую-небудзь згатую, хай яечка будзе, наедку табе з яго — як сабаку з мухі!... І ён слухаецца, кладзе тое яечка назад, у ямінку ў халадзільніку, бо Зіна ж праўду кажа... Вось ён і пастаіць, купіць. Набярэцца цярпення і пастаіць. Чарга хоць і доўгая, хоць і марудна сунецца, але ж — сунецца, памалу і ён дойдзе ўрэшце да адкінутага задняга борта машыны. І лепш стаяць, паціхеньку пасоўвацца разам з усімі наперад моўчкі, не ўключаючыся ў гэтыя дурныя спрэчкі-перагыркванні. Ад іх толькі галава баліць. Дзякаваць Богу, ногі яшчэ трымаюць, значыць, дойдзе ўрэшце і ягоная чарга, і купіць ён свае два дзесяткі якіх яму з Зінай хопіць на немалы час, калі толькі дзеці з унукамі не заявяцца. Дык, калі на тое, ён і заўтра можа падысці ды пастаяць. Яму ж не калёсы закідаць. Вольны казак ужо. Два гады на пенсіі парабіў ды й кінуў, хоць і не пускалі, прасілі папрацаваць, не спяшацца. Калі папраўдзе, дык ён і вагаўся. А Зіна настояла: кідай, хоць разам пасядзім улетку на градах, а то ўсё адна ды адна. От ён і пайшоў. І ўжо во лета пабыў вольным агароднікам. Праўда, на тэлевізары суседзі, знаёмыя не даюць забыцца — па старой завядзёнцы просяць пагляндзець, адрамантаваць. І пры гэтым грошы даюць. Ён адмаўляецца, не бярэ, а яны — упрошваюць, стараюцца сілком у кішэньку ўвапхнуць паперчыну-другую. Зіна смяецца: не адпірайся, кажа, бяры, майстру яны ўсё адно плацілі б і па поўнай таксе... Смех смехам, а ў яго да пенсіі як бы нейкі й прыварак, лічы, кожан месяц ёсць...

— Вы будете стоять? — павярнулася да Андрэя бабуля папераздзе яго. — Пойду я, внучке позвоню, может, она подойдет, постоит... Что-то мне не по себе... Я ненадолго...

— Идите, идите, не волнуйтесь, я не уйду, так что не спешите, пожалуйста, — сказаў Андрэй Рыбчык.

Бабуля пайшла, а ён яшчэ нейкі час стаяў, як кажуць, анігадкі. І толькі пасля, праз нейкі час, прыйшло да яго адчуванне нейкай як бы бяды. Накацілася нейкае ўнутранае трымценне. Быццам дрыжыкі ўсяго яго працялі. Ён сцепануўся, падумаў яшчэ: як знак благі, што нешта кепскае здарыцца... І раптам дайшло: не здарыцца, а — здарылася! Гэта ж ён загаварыў... па-руску! Вось і спёкся папуас, як паэт пісаў. Спёкся, акурат спёкся папуас! Неўпрыкмет! На роўным месцы! Без саломкі, без дрэўкі, без газы — успыхнуў і спёкся! Яшчэ адзін тутэйшы папуас. Колькі іх вось гэтак папяклося ўжо? Хто злічыў і ці злічыць калі? Некалі ж надыдзе чарга і апошняга...

Нагарнуліся ў Андрэя Рыбчыка слёзы на вочы. Шкада стала сябе самога. Як ніколі дагэтуль. Стаяў спустошаны, лёгкі, бязважкі, як без вантробаў. Як надзьмуты шарык, што вось-вось узляціць угору. А ў дадатак было такое адчуванне, быццам разам з вантробамі вынялі з яго й душу. І стаіць ён тут, у шчыльнай масе людзей, ужо й не ён, а ўсяго толькі абалонка ад яго, плеўка непатрэбная, старая і зморшчаная. І ў самым горшым сне не мог Андрэй уявіць сабе, што такое можа з ім здарыцца. Гэта ж ці не ад самага малку жыў з усведамленнем, што не здрадзіць, не адрачэцца, не адцураецца. А вось жа — не выстаяў...

Сталася гэта, вядома, не аб адным дні. Не дзень і не год ішла апрацоўка ягонай свядомасці, ягоных шэрых падкоркаў, перш чым урэшце ягоны язык спакусіўся вымавіць чужое слова. Андрэй Рыбчык разумеў, што мова — штука тонкая. Наколькі моцная, настолькі ж і кволая. Моцная — калі мае штодзённую калектыўную падпітку. І кволая — калі застаецца сама-насам з сабою. Тады яе неўміручае рэчыва пачынае неўпрыкмет сохнуць, кволіцца і марнець. Таму й дапускаў, што калі-небудзь гэта магло б здарыцца. Але ўсё ж спадзяваўся, што — не здарыцца. Што ён раней памрэ, чым тое здарыцца. Што ў яго хопіць сілы не паддацца, не скарыцца ціску магутнага прэса. А вось жа аказалася — не выстаяў, скарыўся, не хапіла сілы. Усё адбылося, бы само па сабе. Без відочных высілкаў. Амаль неўпрыкмет. Замест свайго — чужое. Яно акурат гэтак і адбываецца: замест свайго — чужое! Не інакш. Двухмоўе — недарэчная, правакацыйная выдумка русіфікатараў. Не можа быць у чалавека двух языкоў: каб адзін лепятаў па-свойму, а другі — па-іншаму, па-суседску. Не, не можа такога быць. Калі ў роце пачынае расці другі язык, дык першы пачынае ўсыхаць, каб урэшце ссохнуць ушчэнт і адваліцца. А пакуль адзін, сохне, а другі расце-пухне, чалавек альбо нямы, альбо — брыдкаслоў, трасяншчык той самы, носьбіт мешанкі, з якой — ні ў радню, ні да суседзяў.

Вось і ў яго, Андрэя Рыбчыка, пачалася гэтая самая мутацыя. Ажыў чужы язык. Прышчапіўся і ажыў. Як жа ён не заўважыў гэткае бяды? Як жа дапусціў такое? Ён, вядома, пазмагаецца яшчэ, пастараецца адвіхнуць гэты нахабны прышчэп-няпрошанец, але ж змаганне гэтае будзе нялёгкае, а галоўнае — ці ж пераможнае? Калі ўжо ўлез у рот другі язык, ды з такою магутнаю і нахабнаю сілаю, а свой не мае аніякай падпіткі-падкормкі, анідзе і ніхто не азываецца на ягоныя скаргі-жальбы, дык ясна, на чыім баку будзе перамога...

Калі вярнулася бабуля, Андрэй Рыбчык плакаў ужо, здаецца, па-сапраўднаму. Не наўзрыд, вядома, але вочы былі поўныя слёз і душа заходзілася ў прыхаваных ад людскога вока ўсхліпах-дрыжыках. Бабуля ўгледзела, што з ім штосьці не тое, спагадліва спытала:

— Что с вами?

Андрэй, адварочваючы позірк, прамямліў:

— Не, нічога, вока чымсьці запарушыў. — І пачаў моцна, знарочыста церці вочы.

Жаль было яму сябе самога. Жаль, бо адчуваў, што зараз нешта ад яго быццам адабралася, што ён пасля садзеяннага ім нейкі ўжо не такі, якім быў дагэтуль. Што страціўся нейкі надзвычай важны сэнс ягонага існавання на гэтым свеце. Што ён, сам таго не хочучы, здрадзіў у нечым сваім бацьку, дзеду, прадзеду, і яны, спаткаўшыся з ім ТАМ, не даруюць яму гэтае нечаканае здрады. А яшчэ больш было шкада сына і дачкі, а таксама ўнукаў. Сын і дачка праз яго нейкім чынам, няхай сабе й квола, падтрымлівалі сваю беларускасць, сваю прыналежнасць да ягонага, Андрэя Рыбчыка, роду-племені, а заадно і да гэтай зямлі, і да народа, якому Бог даў гэтую зямлю. Ад іх нейкая кропля ўсяго гэтага перадавалася і ўнукам. А зараз, калі перарвецца, перарываецца гэты кволы ланцужок, сын і дачка застануцца без падпіткі і зачэзнуць, а ўнукі ды ўнучкі й наогул ці ўспрымуць што-небудзь у сэрца і душу. Бо школа без сямейных карэньчыкаў і без свядомай дзяржаўнай падтрымкі не робіць і не зробіць практычна нічога. Для ўнукаў і ўнучак дзед, баба, прадзед і прабаба, усё тое, што з імі было, як яны жылі, на якой мове гаварылі, якія песні спявалі і якім багам пакланяліся, будзе яшчэ далей, чым міфы і легенды Старажытнай Грэцыі...

Крануў Андрэй Рыбчык бабулю за плячо, сказаў:

— Пайду я... Ліха з імі, яйкамі. Абыдземся неяк...

— Что, тоже плохо стало? — спытала-паспагадала бабуля.

— Нешта мутарна, — схлусіў Андрэй. — Пайду...

— Жаль. Мы же, наверное, полпути отстояли.

— Ат! Не магу...

З Камароўкі Андрэй Рыбчык пайшоў не ў кірунку дадому, на вуліцу Якуба Коласа, а вуліцаю нейкага Кульмана выйшаў на вуліцу нейкага Куйбышава. Ля гастранома, да рога якога прытуліўся піўны ларок, прыпыніўся. Зрэшты, ужо акурат насупраць ларка. Халаднавата было, ногі за час стаяння ў чарзе азяблі і яшчэ не адышлі, халоднае піва не вабіла. Але нечага такога прасіла знявечаная душа, і ён падышоў да вакенца, заказаў куфаль. Азірнуўся. Столікі — чатыры ці пяць — былі занятыя. Праўда, за адным тырчэў, абапёршыся локцямі на стальніцу, хударлявы хлапец на самоце. Да яго Андрэй і падышоў са сваім куфлем. Схаваўшы ў кішэню ўсё яшчэ трыманую ў руцэ рэшту, паднёс куфаль да вуснаў, зрабіў глыток. Хлапец прастуджана, лагодна-спачувальна спытаў:

— Што, бацька, з гора?

Андрэй Рыбчык чамусьці ахвотна кіўнуў:

— З гора, хлапец. З самага што ні ёсць гора. Хоць табе наўрад ці зразумець...

У хлапца позірк быў амаль цвярозы, хоць увесь выгляд яго сведчыў, што ён тут, ля гэтага ларка і за гэтым столікам, часты госць. Ды ў Андрэя Рыбчыка не было выбару. А душа ныла і прасіла палёгкі. А палёгка прыйдзе, калі ён паплачацца не адно сабе, а й яшчэ некаму. Тым больш, падалося Андрэю, што хлапец загаварыў да яго па-беларуску, прынамсі — з мясцовым акцэнтам.

— Што такое, бацька? А раптам зразумею?

Хлапец, няхай сабе і з Андрэевай падачы, гаварыў сапраўды па-беларуску, і гэтая акалічнасць ці не канчаткова расстапіла лёд недаверу.

— Сёння адбылося маё грэхападзенне, хлапец... Толькі ты не думай чаго дурнога. Здрадзіў я самому сабе. Сваёй уласнай пазіцыі. Сваёй жыццёвай устаноўцы. Сёння я, сам таго не хочучы, загаварыў па-руску.

— Не ўсёк, бацька! — сказаў хлапец, вачыма і ўсім выглядам выказваючы надзвычайную зацікаўленасць.

І гэта зноў падкупіла, нават расчуліла Андрэя Рыбчыка, і ён ахвотна патлумачыў:

— Што ж тут усякаць, хлапец... Калісьці, даўным-даўно, даў я сабе слова, зарок заставацца беларусам і тут, на гэтай роднай маёй зямлі, заўсёды і ўсюды гаварыць па-беларуску. А сёння вось — не стрымаў слова. Задумаўся ў чарзе і загаварыў па-руску... Зламаўся...

Хлапец колькі хвілін маўчаў, узіраючыся ў дзіўнага суседа па століку, а пасля зусім не роблена ўздыхнуў:

— "Колькі талентаў звялося, колькі іх і дзе ляжыць..." Не журыцеся, бацька! Жыў беларус і будзе жыць! Семя наша невынішчальнае. Не зламаліся вы! Калі гэтак разважаеце, дык — не зламаліся. Што ж вы хочаце? Вы й так мужны, жалезнай волі чалавек, калі столькі гадоў супрацьстаялі такой сіле, такому націску! Ніводзін народ у свеце не зведваў цягам стагоддзяў такой масіраванай асіміляцыі, такога ўсясільнага этнагенацыду. Не, бацька, плакаць і тужыць не трэба. Беларусы — самы стойкі народ у свеце. Колькі стагоддзяў ломяць нас, а ўсё аніяк не могуць зламаць і перарабіць на аднаго ці на другога суседа...

Андрэй Рыбчык быў ашаломлены. Няйначай сам Бог вёў яго сюды, да гэтага піўнога ларка на вуліцы нейкага таварыша Куйбашава. Ёсць, ёсць, аказваецца, у свеце з'ява, якая называецца тэлепатыяй. Сігналы бяды, што ішлі з яго, Андрэевай, душы, былі пачуты вось тут, і адсюль пайшлі яму сустрэчныя сігналы — суцяшальныя, ратоўчыя. Дзе б яшчэ сёння, у сталіцы цяперашняй Беларусі, знайшоў бы ён такога субяседніка, такую родную, спагадлівую душу? Ні ў палацы, ні ў храме! Толькі, бадай, вось тут, за гэтым брудным, залітым півам, запаскуджаным рыбнымі вантробамі і лускою столікам ля піўнога ларка. Такая наша сёння доля. Знявечаныя, але не зламаныя, мы апыньваемся тут. Гэты хлапец, па ўсім відаць, з гэткіх, як і ён сам, Андрэй Рыбчык. Толькі, напэўна, вышэйшага кшталту, ці не настаўнік, вытураны са школы, ці, можа, нават і літаратар...

І Андрэй Рыбчык, стары ўжо чалавек, пракаўтнуў камяк са слёз і крыўдаў і даверліва, амаль як у дзяцінстве, памкнуўся насустрач добраму і роднаму слову. Сербануўшы з куфля, ён падаўся наперад, упёрся дыхавіцаю ў халодную круглую стальніцу і загаварыў:

— Дзякуй табе, хлапец! Калі б не ты, дык і не ведаю, што зрабіў бы з сабою... Старым, мусіць, раблюся — слязу пусціў... Іду, а ногі падкошваюцца. Ад усяго разам: ад жалю да сябе і да нас, ад крыўды, ад сораму, ад болю — пякучага і бяссільнага...

— Разумею, бацька. Вельмі добра разумею цябе, бацька! Колькі разоў і сам быў, бываў у такіх сітуацыях! Здаецца, чорт ведае што ўчыніў бы! Ажно морду некаму падмывала пагладзіць. Ці не гэтак, бацька?

— Ой, гэтак, хлапец! Дальбог жа, гэтак!

— А ўсё таму, бацька, што ні разу нікому так і не заехалі поўху! Ці пад задніцу выспяткам!

— Твая праўда, хлапец! Святая праўда! Колькі разоў было — свярбела рука. Слухаеш каторага ці каторых — так бы, здаецца, і пусціў бы юшку. Каб зразумеў, зразумелі, што — ёсць мы! Што не ўсе прадажнікі і халуі! Але ж, як ты кажаш, гэтак ні разу і не сціснулі таго кулака. Паскрыгечаш зубамі, плюнеш ды пойдзеш...

— А каб пусцілі юшку адзін-другі раз, дык і не гаўкалі б. Тут, бацька, закон адзін. Дабро павінна быць з кулакамі. Адказваць на зло дабром — гэта талстоўства. Ды што зробіш, калі вас партыя выхавала такімі? Непраціўленцамі! А мы ўжо — не такія! А дзеці нашы — тым больш. Яны за сябе сумеюць пастаяць. Яны абароняць і сцяг свой, і герб. От пабачыце!

Андрэй Рыбчык расчуліўся зусім. І знячэўку прапанаваў:

— Дык мо, хлапец, за сустрэчу мацнейшае што возьмем? Па грамульцы? Магазін жа во — побач...

— Толькі з павагі да вас, бацька! — расплыўся ва ўсмешцы хлапец. — За ваша здароўе і — за родную нашу Беларусь! Хіба так?

— Так, хлапец, так! Цябе й праўда мне сам Бог паслаў! Дык ты пачакай. Я — адна нага тут, другая — там. Мігам абярнуся...

І Андрэй Рыбчык ледзь не подбегам сігануў да магазіна.

А да хлапца тым часам падышоў другі, такі ж, па ўсім відаць, заўсёднік гэтага піўнога ларка. Паздароўкаўся, як з даўнім знаёмцам, за руку, спытаў:

— Ну что? Рождественский пост?

— Да как сказать! У меня, как всегда, в кармане вошь на аркане. Но лох один накатил... По всему, бэнээфовец... Я к нему на мове — нюни распустил. Стреканул за бутылкой. Так что — подходи погодя. Только — чур: или молчи, или на мове что-нибудь выдай. Можно будет, думаю, и еще на бутылку расколоть... А пока отвали...

Да іх ужо ішоў, несучы ў руцэ, не хаваючыся, пляшку "Белай Русі" Андрэй Рыбчык...

